

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

6 КАСТРЫЧНІКА 2000г. № 40/4072 КОШТ 100 РУБ.









# Мінск, Міхайлаўскі сквер...

Мінск — горад бедны на мастацкае аздабленне. Па пальцах адной рукі можна пералічыць паўнавартасныя помнікі. Ёсць некалькі мазаік на грамадскіх і жылых будынках. Некалькі дэкаратыўных скульптур. На гэткім фоне з'яўленне на працягу кароткага часу ажно трох бронзавых постацяў у Міхайлаўскім скверы становіцца падзеяй амаль што надзвычайнай і спараджае надзеі, што Мінск можа даволі хутка набыць аблічча, вартае еўрапейскай сталіцы.

Аўтар усіх трох скульптур — Уладзімір Жбанаў. Ягоныя героі — гэта абагульнены вобраз гараджан, мінчукоў. Але яны маюць рысы канкрэтных асоб. Гэтая акалічнасць надае ім асаблівую цеплыню і прыцягальнасць. Тры ўзросты, тры тыпажы — дзяўчынка, маладая жанчына, сталы мужчына. Мабыць, варта дапоўніць гэтую кампанію, аздобіць сквер, і асобаю, як прынята казаць, паважанага ўзросту, у якой за спіною гадоў значна болей, чым наперадзе. Завяршыць так бы мовіць "жыццёвы цыкл". Зрэшты, Міхайлаўскі сквер — не адзінае месца ў горадзе, якое чакае скульптара, мастака.

**П. В.**

*Фота М. ПРУПАСА.*



# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Адзначыць 100-годдзе выдатнага беларускага пісьменніка, аднаго з кагорты слынных майстроў пяра, якія, па сутнасці, з'яўляліся пачынальнікамі найноўшай беларускай літаратуры, Сымона Баранавых Саюз беларускіх пісьменні-каў запрасіў у залу Нацыянальнай бібліятэкі студэнтаў Беларускага універсітэта культуры, навукоўцаў, прадстаўнікоў грамадскасці. Сярод выступоўцаў былі Лідзія Савік, Міхась Мушынскі, старшы навуковы супрацоўнік аб'яднання літаратурных музеяў Міхась Пратасевіч, намеснік старшыні СБП Навум Гальпяровіч, які вёў сустрэчу. Бібліятэчныя работнікі падрыхтавалі выставу, прысвечаную юбіляру.

•

Прэзентацыя кнігі "Анталогія беларускай паэзіі" на балгарскай мове адбылася ў Доме дружбы. Сярод удзельнікаў вечарыны былі студэнты БДУ, педуніверсітэта імя М. Танка, навучэнцы педкаледжа, пісьменнікі, журналісты.

Анталогія стала сапраўдным з'явай у культурным жыцці Балгарыі і Беларусі, важкім укладам у традыцыйныя сяброўскія сувязі балгарскіх і беларускіх літаратараў. Пра гэта гаварылі падчас прэзентацыі Анатоль Вярцінскі, Алесь Пісьмянкоў, Віктар Шніп, Людміла Рублеўская, Навум Гальпяровіч. Свае вершы з анталогіі чытаў Зміцер Вішнёў.

У выкананні студэнтаў і выкладчыкаў гучалі творы Янкі Купалы, Ніла Гілевіча, Алеся Пісьмянкова і Віктара Шніпа.

**Н. К.**

АБСЯГІ

## ГОМЕЛЬШЧЫНА...

### Кітайскі нацыянальны касцюм

Трывалае творчае супрацоўніцтва ўсталявалася паміж Гомельскім абласным краязнаўчым музеем і амбасадай Кітая ў Беларусі. Раней у мастацкім аддзеле музея была арганізавана выстава "Кітайскі жывапіс на працягу стагоддзяў". Зараз жа ў яго залах разгорнута экспазіцыя "Кітайскі нацыянальны касцюм". Наведвальнікі знаёмяцца з унікальнымі работамі майстроў з далёкага замежжа.

### Пленэр за пленэрам

У апошні час Гомельшчына стала сапраўднай "Меккай" для мастакоў. Штогод тут праходзяць міжнародныя пленэры жывапісцаў і скульптараў. А зараз у Рэчыцы адкрыўся абласны пленэр "Рэчыцкія далягляды". Сярод удзельнікаў — жывапісцы самых розных пакаленняў: Анатоль Отчык, Мікалай Казакевіч, Роберт Ландарскі, Пётр Фей, Іван Папоў... Частку сваіх работ мастакі перададуць у дар гораду. Застаецца дадаць, што пленэр праходзіць на базе прафілакторыя вытворчага аб'яднання "Беларусьнафта".

### Апладысменты "Блакітным берэтам"

У Расіі добра вядомы ансамбль ваенна-патрыятычнай песні "Блакітныя берэты" паветрана-дэсантных войскаў. Гэтымі днямі творчы калектыў адзначае 15-годдзе. У Гомелі артысты далі канцэрты ў Грамадска-культурным цэнтры мясцовага дзяржуніверсітэта, школах горада.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

## ГРОДЗЕНШЧЫНА...

### У "Энігмы" — дзень нараджэння

Дзесяцігоддзе адзначае незвычайны творчы калектыў з Гродна. У складзе ансамбля сучаснага танца "Энігма" — сямейны дуэт: Луна і Юрый Зябкіны. Гэтая пара склалася яшчэ ў гады вучобы ў Ленінградскім інстытуце культуры, дзе гродзенскі хлопец сустрэўся з дзяўчынай з Індыі. Сумесная творчая праца і каханне прымусілі Луну застацца ў Беларусі. Такім чынам і ўзнік незвычайны дуэт.

"Энігма" працуе пры абласной філармоніі. Не толькі з поспехам выступае ў Гродне, але і выязджае на замежныя гастролі. Шмат разоў Луна і Юрый выступалі ў Польшчы, а мінулым летам зрабілі гастрольнае турнэ па Турцыі. Зараз дуэт рыхтуецца да юбілейнага канцэрта.

**Лілія НАВІЦКАЯ**

## МАГІЛЁЎШЧЫНА...

### Мы ўсе любім мульцікі

На мінулым тыдні ў абласным цэнтры (ужо ў трэці раз) праходзіў міжнародны фестываль мультыплікацыйных фільмаў для дарослых і дзяцей "Анімаёўка-2000". Яго арганізавала гарадское кінавідэапрадпрыемства "Позірк" пры падтрымцы Міністэрства культуры рэспублікі, мясцовага гарвыканкама, студыі "Беларусьфільм", Беларускага саюза кінематаграфістаў і дзіцячай анімацыйнай студыі "Даквіст". На сёлетні фестываль прыехала больш за трыццаць аніматараў з Беларусі, Расіі, Украіны. У кінатэатры "Чырвоная зорка" жыхары Магілёва змаглі ўбачыць 45 мультфільмаў, створаных на працягу двух мінулых гадоў. Дарэчы, летась стужак было каля дваццаці.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

## БРЭСТЧЫНА...

### Віншавалі літаратуразнаўцу і паэта

Чарговая творчая вечарына ў Брэсцкім дзяржуніверсітэце была прысвечана дацэнту кафедры літаратуразнаўства, крытыку і паэту Генадзю Праневічу, які адзначае 50-годдзе. Калегі, студэнты, сябры-пісьменнікі высока ацанілі яго літаратуразнаўчыя і паэтычныя набыткі, дэкламавалі яго вершы, урыўкі з артыкулаў і эсэ. Скарына і Гусоўскі, Купала і Багдановіч, іншыя постаці нацыянальнага адраджэння, творчасць сучасных пісьменнікаў, у тым ліку берасцейцаў — такі абсяг шчырых захапленняў і ўдумлівых даследаванняў юбіляра, аўтара энцыклапедычных артыкулаў, школьных падручнікаў, кніг. А ягонае слова ў адказ было пра яшчэ не здзейсненае, пра новыя задумы, пра сваіх настаўнікаў — Алега Лойку, Уладзіміра Калесніка і пра тых, хто і сёння працуе з ім побач.

### Выстава будучых архітэктараў

У абласным Грамадска-культурным цэнтры — новая мастацкая выстава, багатая і цікавая. Звыш сотні графічных работ прапанавалі гледачам студэнты архітэктурнага факультэта Брэсцкага тэхналагічнага універсітэта. Выстава тэматычная. Яна прысвечана архітэктурным помнікам і маляўнічым куткам Брэста. Адкрываючы яе, прафесійныя мастакі адзначалі высокі ўзровень і эмацыянальную напоўненасць малюнкаў і карцін, шчырую ўлюбёнасць аўтараў у родны горад і ў свае заняткі выяўленчым мастацтвам.

**Сымон АКСЕНІН**

## ВІЦЕБШЧЫНА...

### У горадзе святой Еўфрасінні



За даволі кароткі тэрмін (7 месяцаў) у Полацку быў узведзены помнік заступніцы зямлі беларускай, прападобнай Еўфрасінні. Яго аўтар — скульптар Ігар Голубеў. На ўрачыстасці, прысвечанай адкрыццю помніка, прыехалі патрыяршы экзарх усея Беларусі, епіскап Мінскі і Слуцкі Філарэт, старшыня мясцовага аблвыканкама Уладзімір Андрэйчанка. Уладыка Філарэт прыгадаў падзеі стагоддзя, звязаныя з імем Еўфрасінні Полацкай: урачыстае вяртанне мошчаў прападобнай з Кіева ў Полацк, знікненне крыжа Еўфрасінні падчас вайны і яго аднаўленне ў 90-я гады, раскрыццё з-пад тынкоўкі на сценах старажытнага храма фрэсак, перад якімі малілася полацкая ігуменія... Усе гэтыя падзеі — сведчанне наймацнейшай духоўнай повязі мінулых і сучасных пакаленняў.

ДАТЫ

# На календары — Балет!

Некалькі гадоў запар адзін добры чараўнік робіць мне прыгожы калядны падарунак: вялікі насценны каляндар "Беларускі балет". Каб штодня побач з сабою адчувала я маўклівую музыку эфектных мізансцэн са спектакляў Валянціна Елізар'ева, трапяткую вытанчанасць класічных па-дэ-дэ, невытлумачальную таямніцу харэаграфічнага свету — гэтай паліфаніі аркестравых сугуччаў, маляўнічых фарбаў, пластыкі маладых артыстычных постацяў...

На каляровых здымках календара — менавіта маладыя постаці, новае пакаленне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Беларусі, які сёння небеспадстаўна лічаць-называюць "Балетам Елізар'ева", сувымяраючы з найцікавым творчым перыядам у гісторыі айчыннага харэаграфічнага мастацтва.

Гісторыя... Пра яе нагадваюць энцыклапедыі, навуковыя кнігі, падручнікі і зноў жа — календары, звычайныя, адрыўныя ці перакідныя. Сёлетні каляндар нагадаў некалькі адметных датаў з гісторыі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Беларусі.

Тут і 95-годдзе з дня нараджэння Канстанціна Мулера, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, вядомага ў свой час танцоўшчыка і харэографа, выхаванца піцерскай школы, які працаваў на розных сцэнах колішняга СССР, у тым ліку і Вялікага тэатра. Амаль паўтара дзесятка гадоў К. Мулер быў галоўным балетмайстрам Дзяржаўнага тэатра оперы і балета Беларусі, узначаліўшы яго ў няпросты пасляваенны час, ставіў класіку і нацыянальныя творы, "Князь-возера" В. Залатарова, "Салавей" М. Крошнера, "Падстаўную нявесту" Г. Вагнера...

Тут і 95-годдзе з дня нараджэння выдатнай балерыны і педагога Ніны Младзінскай, легенды і куміра для многіх прыхільнікаў мастацтва, вучаніцы славутай А. Ваганавай, выхавальніцы цэлай плеяды беларускіх артыстак балета, сярод якіх народная артыстка І. Душкевіч. Ніна Фёдараўна дажыла да 90 гадоў, шчодра падзяліўшыся святлом сваёй асобы і унікальным прафесійным досведам з усімі, хто быў поруч...

Тут і 50-годдзе заслужанага артыста Беларусі, аднаго з вядучых салістаў балета "елізар'еўскага перыяду" — Уладзіміра Камкова, які ў росквіце творчага таленту, завяршыўшы сцэнічную кар'еру, прыйшоў у мастацтва педагагічнае... Тут і "залаты" юбілей яго аднагодка — народнага артыста Беларусі Юрыя Траяна: дата прыпадае акурат на сённяшні дзень, 6-га кастрычніка.

Юрый Траян — своеадметная асоба ў гісторыі беларускага харэаграфічнага мастацтва. Адораны мужнай і прывабнай сцэнічнай знешнасцю, працавіты і настроены на творчы пошук, ён вылучыўся як вядучы саліст у спектаклях 70—80 гг. Майстэрства класічнага танца ў спалучэнні з артыстычнай індывідуальнасцю давала цудоўны плён у працы над вобразамі самых розных герояў: Зігфрыда і Ціля Уленшпігеля, Спартака і Машэкі, Хазэ і прынца Дэзірэ...

Калі сцэнічная кар'ера саліста балета завяршаецца, перад ім паўстаюць новыя магчымасці — рэалізаваць сябе ў арганізатарскай, адміністрацыйнай, педагагічнай дзейнасці, не пакідаючы магічны свет мастацтва, на небасхіле якога тым часам запальваюцца новыя зоркі. Менавіта яны, новыя зоркі беларускага балета, напаўняць сваім натхненнем атмасферу сённяшняга спектакля "Спартак", які адбудзецца ў гонар юбіляра — Ю. Траяна. Пастаноўка В. Елізар'ева, сцэнаграфія Я. Лысыка, у галоўных ролях — Уладзімір Даўгіх (Спартак), Жанна Лебедзева (Фрыгія), Ігар Сядзько (Крас). Музыка "Спартака" напісана, як вядома, Арамам Хачатуранам.

І яшчэ пра музыку: да 70-годдзя кампазітара Андрэя Пятрова, на музыку якога маэстра В. Елізар'еў паставіў адзін з першых і адзін з лепшых сваіх балетаў, прымяркоўваецца паказ спектакля "Стварэнне свету". Гэта будзе 11-га кастрычніка: паклоннікі Тэрпсіхоры, відаць, ужо адзначылі ў сваіх календарах...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**



*На здымку: народныя артысты Л. БРЖАЗОЎСКАЯ ды Ю. ТРАЯН у "Лебядзіным возеры".*

ФЕСТЫВАЛІ

# Праекцыя ў XXI стагоддзе

**8 кастрычніка** у Беларускім саюзе кінематаграфістаў адкрыецца першы міжнародны фестываль відэаарта і эксперыментальнага кіно "Праекцыя". Арганізатары фэсту — асацыяцыя "Сучаснае мастацтва", галерэя візуальнага мастацтва NOVA пры падтрымцы Польскага інстытута ў Мінску і Шведскага інстытута ў Стакгольме — мусяць прадстаўцьбеларускіх "эксперыментатараў" сваім суайчыннікам. Не трэба казаць, што ў Еўропе відэаарт, альтэрнатыўнае кіно даўно прызнана і вельмі папулярна. На думку куратара фестывалю Г. Нагаевай, эксперыментальнае кіно бліжэй да кіно наступнага стагоддзя, бо сучаснаму гледачу ўласціва фрагментарная свядомасць, кліпавае мысленне, нібыта ты імчышся на вялікай хуткасці ў машыне ці метро. На жаль, расткі гэтага віду мастацтва ўзыходзяць на беларускай глебе пакуль незаўважана, з гэтай прычыны фестывальную праграму склалі работы толькі беларускіх аўтараў (відэаарт і "эксперыментальныя" кароткаметражкі прадстаўяць на суд гледачам і журы больш за дваццаць нашых мастакоў). Плануецца, што пераможцы "Праекцыі" возьмуць удзел у міжнародным фэсце відэаарта WRO — 2001, што адбудзецца ў Польшчы, дырэктар якога, спадар П. Краеўскі, завітае ў Мінск.

**В. Б.**

НОВАЕ

# Часопіс чакае аўтараў

У хуткім часе пабачыць свет новае рэлігійнае літаратурна-асветніцкае выданне — часопіс Мінскай Духоўнай Семінарыі, які будзе распаўсюджвацца праз праваслаўныя прыходы Беларусі. Выданне павінна стаць цікавым і карысным як для вернікаў, так і для людзей яшчэ пакуль далёкіх ад царквы. Усе, хто зацікаўлены ў адраджэнні беларускамоўнай праваслаўнай літаратуры і адчувае ў сабе здольнасці і магчымасці падтрымаць яе развіццё, могуць далучыцца да стварэння часопіса, даслаўшы жыццеапісальныя матэрыялы аб праваслаўных літаратарах мінуўшчыны, сучасных аўтарах, іх творы, а таксама літаратуразнаўчыя артыкулы, вершы.

Застаецца спадзявацца, што новае выданне будзе патрэбным і змястоўным, а таксама стане чарговым крокам па ўвядзенні нацыянальнай мовы ў сферу царкоўнага жыцця беларусаў, дапаможа ўмацаванню аўтарытэту Праваслаўнай Царквы ў сумоўі з айчыннай культурнай спадчынай.

Адрас рэдакцыі: 231822 Гродзенская вобл., Слонімскі р-н, п. Жыровічы, Нагорнаму Алегу (адказны за беларускую частку літаратурнага аддзела).

**Арцём КАВАЛЕЎСКІ**

# Прэзентацыя "Святліцы"

У Баранавічах у Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Валянціна Таўлая адбылася прэзентацыя альманаха "Святліца". Прысутным пра выданне расказаў Алесь Бакач. Алесь Карней прадставіў калекцыю "Прырода і фантазія". Аўтары альманаха прачыталі свае творы. У бібліятэцы можна было пазнаёміцца з кніжнай выставай літаратараў з Баранавіч. Грамадская арганізацыя "Творчае згуртаванне "Святліца" падарыла бібліятэчнай сістэме Баранавіч 14 асобнікаў альманаха.

**А. Б.**

## Пра зямлю карэліцкую

**У Карэліцкім краязнаўчым музеі "Зямля і людзі" ўжо шмат гадоў працуе Святлана Кошур — ціхая, сціплая жанчына, нястомная збіральніца невядомых і малавядомых матэрыялаў па гісторыі роднага краю і сваіх землякоў. Часта выязджае яна за межы раёна, каб папрацаваць у абласных і сталічных архівах, бібліятэках, сустрэцца з калегамі. Яе запісы, знаходкі, выступы на краязнаўчых чытаннях, газетныя артыкулы збіраліся, сумаваліся... І так ператварыліся ў кніжкі.**

**За апошнія чатыры гады спадарыня Святлана склала і выдала дзве невялікія кнігі — "Карэліччына. Старонкі гісторыі" (1997) і "На зямлі Карэліцкай" (1999). У першай аўтарка расказвае пра падзеі, якія адбываліся на тэрыторыі Карэліцкага раёна ў перадваенны перыяд (1939—1941 гг.) і ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Даследчыца змяшчае ў канцы кнігі і некалькі асобных матэрыялаў пра славутых людзей раёна — пра вучонага-фізіка Ф. І. Фёдарава (сына І. М. Фёдарава — Янкі Маўра), які нарадзіўся ў вёсцы Турэц на Карэліччыне, і пра выдатнага спевака Пятра Конюха, які нарадзіўся ў гэтай жа вёсцы, а лёс закінуў яго ў ЗША і Канаду. У кнізе выкарыстаны фотаздымкі з фондаў Карэліцкага краязнаўчага музея "Зямля і людзі".**

**Другая кніжка Святланы Кошур "На зямлі Карэліцкай" расказвае пра партызанскі рух на тэрыторыі раёна ў гады Вялікай Айчыннай вайны і пра лёс спаленых вёсак — карэліцкіх "Хатыняў". Тут, як і ў першай кнізе — адметны стыль складальніцы, — чытач знойдзе ў канцы цікавыя персаналіі. Аўтарка змяшчае артыкулы пра А. Міцкевіча, У. Сыракамлю, І. Дамейку і іншых знакамітасцяў у дачыненнях да зямлі карэліцкай, прыводзіць малавядомыя факты. Заканчваецца брашура старонкай, названай "Раім пачытаць".**

**Л. СІЛЬНОВА**

## У гонар Пётры Сергіевіча



**Браслаўшчына шырока адзначае стагоддзе з дня нараджэння свайго славутага земляка, выдатнага беларускага мастака і дзеяча культуры Пётры Сергіевіча. У бібліятэцы вёскі Казяны, якая носіць імя П. Сергіевіча, адкрылася экспазіцыя аб жыцці і творчасці мастака, адбылася вечарына ў яго гонар.**

**Адкрылася выстава і ў Браслаўскім краязнаўчым музеі, наведвальнікі якога маюць магчымасць пазнаёміцца з фатаграфіямі і кнігамі з асабістых збораў П. Сергіевіча, якія перадала музею жонка мастака, з ягонымі творамі. У гісторыю беларускага мастацтва П. Сергіевіч увайшоў творамі, якія сталі хрэстаматыйнымі. Гэта палотны "К. Каліноўскі і В. Урублеўскі робяць агляд паўстанцаў у 1863 годзе", "Скарына ў рабочым кабінеце", партрэты "Беларуская настаўніца", "Партрэт жонкі мастака" і інш. Але экспазіцыя Браслаўскага краязнаўчага музея мае асаблівую каштоўнасць, бо знаёміць з малавядомымі творамі мастака. Сярод іх — жывапіснае палатно "Язэп Драздовіч у Навагрудку", створанае ў 1976 годзе (на здымку).**

**Яўген КАЗЮЛЯ**

*Фота аўтара*

# Жыццядайныя традыцыі айчыннага пісьменства

***У 1999 і 2000 гадах пабачыла свет дылогія кніг Алены Яскевіч "Абранне Вечнасці" і "Спрадвечная Ахоўніца Беларусі". Даследчыкі звярнулі ўвагу на высокі духоўны ідэал пісьменніцтва — як сярэдневяковага, так і сучаснага, што абвяшчаецца ў дылогіі.***

**— Алена, якімі вам бачацца шляхі развіцця сучасных крытыкі, філалогіі, гуманістыкі ў "гаючых водах" жыццядайных традыцый айчыннага пісьменства пасля працы над дылогіяй?**

— Перад даследчыкамі ў 90-х гадах XX стагоддзя паўстала задача спасціжэння спадчыны асветнікаў Сярэднявечча, што запатрабавала энцыклапедызму і ад новай генерацыі пісьменнікаў і навукоўцаў. У іх была магчымасць ва ўсёй паўнаце вывучыць творчасць нашых святых продкаў, старабеларускіх падзвіжнікаў. Варта сказаць, што гэта быў і магутны духоўны імпульс творчасці. Адзначым, што задачай нашых старабеларускіх пісьменнікаў у большасці сваёй было падзвіжніцкае служэнне, ратаванне бліжняга, Айчыны, сураспінанне Збаўцы Хрысту на Крыжы Выратавання сваіх супляменнікаў і суайчыннікаў. Фактычна ўсё жыццё іх уяўляла сабой духоўны подзвіг стаяння ў веры, дабрыні, прыстойнасці сярод Армагедона злога і пачварнага. Узорам для іх быў подзвіг святых страстацерпцаў Барыса і Глеба, які стаўся ўвасабленнем чысціні святасці, мацнейшай ад смерці, якая з'яўляецца абвяшчэннем цноты і вышэйшая за матэрыяльныя даброты і асалоды жыцця. На беларускай этнічнай глебе гэтая ідэя знайшла ўвасабленне ў вобразах вялікіх смаленскіх святых. Славянскае падзвіжніцтва ўзбагацілася пафасам дзейснага змагання, сапраўднай рэўнасці ў Госпадзе, выканання яго запаветаў і ў той жа час магутнай ідэяй асветы краю ў творчасці славутага старабеларускага пісьменніка Аўраамія Смаленскага. Ён быў настолькі вядомым экзэгетам, прамоўцам, што калі служыў літургію, ці казаў свае пропаведзі — усе навакольныя храмы пусцелі. Быў ён і вядомым іканапісцам. Ад яго святынь (ікон, напісаных ім) нават у XIX стагоддзі, па сведчанні даследчыкаў, назіраліся ацаленні і міратачэнні. Таксама сярод асоб падзвіжнікаў быў і Мяркурый Смаленскі, мужны самаахвярны юнак, які аддаў сваё жыццё дзеля выбаўлення краіны ад варожага нашэсця, дзеля ўратавання ад апаганьвання святынь. Такім чынам вывучэнне спадчыны старабеларускіх пісьменнікаў выхоўвала ў даследчыку абсалютна іншае стаўленне да сябе, да слова, пераконвала, што творчасць пісьменніка — гэта рэч выключна самаахвярная.

**— Вы адзначылі самаахвярнасць старабеларускіх пісьменнікаў. А як сучасны даследчык беларускай кніжнасці звязаны з той жа духоўнай самаахвярнасцю? Вы адчуваеце сваю сённяшнюю запатрабаванасць у гэтай тэме? У чым так званая повязь часоў "залатога веку" і сённяшняга беларускага прыгожага пісьменства?**

— У большай сваёй ступені беларускае пісьменства ва ўсе часы, і ў Сярэднявеччы, і ў XIX стагоддзі, і ў наш час — яно заўсёды патрабавала ад пісьменніка самаахвярнасці. І не трэба шукаць узораў старабеларускіх падзвіжнікаў. Тут дастаткова звярнуцца хаця б да вобразаў Максіма Багдановіча, Францішка Багушэвіча, каб зразумець, што іх творчасць была наскрозь самаахвярнай. Фактычна творчасць кожнага сучаснага паважанага пісьменніка — яна ў нейкіх вяршынных праявах, глыбінных спасціжэннях — заўсёды падзвіжніцкая і самаахвярная, згадаць хаця б заўчасна спачылага Міколу Ермаловіча. А ў маім творчым занятку прыклады таму былі на кожным кроку. Ва ўсім хрысціянскім і славянскім свеце лічыцца, што стрыжнявой лініяй гуманістыкі сучаснай, безумоўна, як і ў Сярэднявеччы, так і ў наш час з'яўлялася духоўнае пісьменства. Пацвярджэнне таму — феномен крытыкі. Вобраз крытыка Заіла, калі мы звернемся да гісторыі пісьменства, ужо вядомы з часоў Гамера. Гэта быў правобраз Сальеры, чалавека, які крытыкаваў Гамера за дробныя недахопы, трохі зайздрослівы, злы, прыдзірлівы ў дробязях. Старабеларускія пісьменнікі XVII ст. Іван Ужэвіч, Іаанікій Галятоўскі заўсёды засцерагалі сваіх праціўнікаў, нядобразычліўцаў, прыдзірлівых крытыкаў-заілаў ад празмернага шчыравання супраць іх. Нават было пашырана паданне пра гамераўскага Заіла, які лёсам быў пакараны і трапіў у бочку з дзёгцем. Для сярэдневяковага пісьменства, мабыць, вобраз Заіла быў стрыжнявым, своеасаблівым засцярожаннем ад неадпаведнага стаўлення да слова. Згадаем, што сярэдневяковы кніжнік ставіўся да слова як да "Святога Святых", займацца чым можа было толькі пасля духоўнага ачышчэння, пакаяння, нават гавення. Стаўленне да постаці пісьменніка было як да каштоўнага дыяменту, таямнічага смарагда. Згадаем, што першапачаткам славянскай кніжнасці фактычна была экзэгетыка, тлумачэнне біблейскіх тэкстаў, святаайцоўскага падання. Фактычна з яе выйшлі і пераклады Бібліі, і першыя лексіконы і граматыкі. З яе ўзнікла ўся традыцыя айчыннай сярэдневяковай кніжнасці, якая вызначалася ў сваёй аснове мазаічнасцю. Менавіта фрагменты святаайцоўскага падання, біблейскіх тэкстаў былі тымі вартаснымі каштоўнымі дыяментамі, без якіх творчасць кожнага пісьменніка ўспрымалася як непаўнавартасная.

Ужо ў XIX стагоддзі ў поўнай меры пра сябе заяўляе крытыка. Яна была сацыяльнакультурнай праявай і адбіткам нацыянальнавызваленчай барацьбы, рэвалюцыйных рухаў, у савецкія часы — класавай барацьбы. З павяртаннем да айчыннай спадчыны, духоўнасці ў 90-х гадах сацыялагічнае прызначэнне крытыкі адыходзіць на другі план. І большая ўвага надаецца ў сферы духоўнасці — экзэгезе, у галінах свецкай культуры — герменэўтыцы, майстэрству вытлумачэння не біблейскіх тэкстаў у адрозненне ад экзэгетыкі, а твораў сучаснага мастацтва. Нацыянальная культура выходзіць за межы сацыялістычнага рэалізму, пачынае адчуваць сябе часткай сусветнай культурнай прасторы, усведамляе сябе важкім працягам Сярэднявечча і Новага часу. На мяжы XX і ўжо ў прадчуванні XXI ст. выпрацоўваецца абсалютна новая манера пісьма, якая ўключае ў сябе вяртанне да першавытокаў, да старажытнай кніжнасці, што, безумоўна, увайшла ў наша жыццё разам з уцаркаўленнем сучаснага грамадства. Адзначым, як у Сярэднявеччы, так і ў XIX ст. гімнаграфічныя творы: акафісты, каноны, псальмы, малітвы — яны сапраўды ядналі ўсю нацыю, тое самае адбываецца з этнасам і зараз. Мяне не пакідае адчуванне, што сярэдневяковая кніжнасць, старажытная гісторыя для кожнага жыхара сучаснай Еўропы з кожным годам набывае большую актуальнасць, чым нават сённяшняя мастацкая творчасць. Павяртанне да сваёй гісторыі, вытокаў, каранёў, да "залатога веку" з'явілася праявай агульнай гуманізацыі грамадства. Ад філолага яна запатрабавала агульна-гуманітарнага падыходу ў вывучэнні і даследаванні культуры і пісьменства. Відавочна, што гуманітарыі ў 90-х гадах XX стагоддзя адчулі сябе больш запатрабаванымі, нягледзячы на ўсе матэрыяльныя і палітычныя праблемы, — прыспеў добры час для такіх даследаванняў.

**— Вы можаце назваць гэта сваім "залатым часам", працягам той гістарычнай культурнай прасторы, з якой пасябравалі, з якой прыйшлося сутыкнуцца ў час даследавання?**

— Мне падаецца, што ніколі чалавек не можа сказаць, які час у яго найбольш плённы. Цяжкая і напружаная праца ішла над "Старабеларускімі лексіконамі", над "Творамі Ф. Скарыны", над "Старабеларускімі граматыкамі" і іншымі кнігамі, — кожная з іх мне здавалася вяршыняй, столькі намаганняў яна запатрабавала, што пераўзысці іх немагчыма. Потым праца над "Абраннем Вечнасці", "Спрадвечнай Ахоўніцай Беларусі" і ўжо наступнымі кнігамі прывучыла да таго, што нешта галоўнае, важкае яшчэ сапраўды не сказана, і ты знаходзішся ў прадчуванні гэтага. "Залаты век" ва ўсёй шырыні разумення — гэта не толькі часы лексікаграфічнай, граматычнай, багаслоўска-перакладчыцкай славы нашай Айчыны, калі нашы лексіконы, граматыкі леглі ў падмурак многіх еўрапейскіх моўных традыцый. Згадаем, што Астрожскай Бібліяй на працягу чатырох стагоддзяў карысталася амаль усё праваслаўнае славянскае грамадства. "Залаты век" славянскіх (дарэчы, і ўсіх еўрапейскіх) культур пачаўся з эпохі прыняцця хрысціянства, часоў першай "вогненнай любові", калі этнасы засвойвалі сістэму агульначалавечых гуманітарных каштоўнасцей, а душы вернікаў услед за Збаўцаю Хрыстом праходзілі ўвесь яго зямны шлях цудаў, сураспіналіся са Збаўцаю Хрыстом на крыжы і ўваскрасалі, асветленыя Божай Ласкаю. На пачатку 90-х гадоў быў час павяртання да духоўнасці, да мудрасці, фактычна мы наноў адкрывалі ў сваіх сэрцах і ўзаемную павагу, і міласэрнасць, і высакародства, і самаахвярнасць, і любоў, і братэрства. Відавочна, мы ў нейкай ступені былі падобныя да тых беларускіх кніжнікаў часоў Еўфрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Аўраамія і Мяркурыя Смаленскіх, Францыска Скарыны, Івана Ужэвіча, бо звярнуліся да калыскі сапраўднага падзвіжніцтва, да "святога скрыжаля", духоўнага ідэала, без якога не можа існаваць кожны этнас. Шматпланавасць "залатога веку" сягае ад багатых здабыткаў свецкай культуры сярэдневяковай кніжнасці да вяршынь айчыннай іканаграфіі, да глыбінь веры, міласэрнасці, любові да чалавека, падзвіжніцтва. Такое разуменне "залатога веку" было адкрыццём, тым, што дало сілу ў няпростых жыццёвых і грамадска-палітычных варунках насельніцтву постсавецкай прасторы, асабліва навукоўцам і пісьменнікам працаваць. Фактычна адбыўся перагляд сучаснай гуманітарнай навукі, а таксама ўсведамленне СЛОВА, як найвялікшай духоўнай каштоўнасці.

**— Слова, прамоўленае аднойчы, нясе з сабой пэўную энергію ў гэты свет, напаўняе яго святлом ці, наадварот, дае чалавеку не самае лепшае пачуванне. Што ёсць для вас слова? Мы звыкла кажам, што слова было напачатку. Пачатак працы са словам, гэтае адчуванне слова — як яно жыве з вамі?**

— Сапраўды, слова, як і мова, выключныя ўласцівасці чалавечай прыроды. Пры даследаванні творчасці сярэдневяковых кніжнікаў, у час працы над п'есамі, духоўнымі вершамі, безумоўна, заўсёды задумваешся над вядомымі словамі Дантэ Аліг'еры, што мова дадзена чалавеку ад яго недасканаласці. Бо анёлы, жывёлы — яны не маюць патрэбы ў мове. Анёлы пасрэдніцтвам сваёй чысціні, як светлазарнага люстра, ва ўсёй прыгажосці сузіраюць думкі і пачуцці адзін другога. Чалавек па сваёй недасканаласці павінен прыхоўваць думкі, каб не абразіць бліжняга грахоўнымі памкненнямі, уласнай зласлівасцю. Падзел моў, калі звяртацца да біблейскіх высноў, быў вынікам адхілення ад той святой чыстай ісціны. І фактычна кожны даследчык сярэдневяковай кніжнасці, той, хто неяк спрычыніўся і спрычыняецца сам да духоўнага пісьменніцтва, ён імкнецца ў сваёй творчасці рэалізаваць дадзеную спрадвеку чалавеку антыноміяю: стаўле не да слова, як у свой час пісаў у "Філасоф... Імяні" вядомы філосаф і багаслоў Сергій Булгакаў — гэта стаўленне да рэчы, якая ўцялеснена ў гістарычную абалонку. Слова мае сваё месца ў мове ў пэўных перыядах яе функцыянавання, яно "госця з іншага свету", бо фактычна належыць двум светам. Сваёй духоўнай абалонкай, глыбінёй свайго айсберга — яно фактычна застаецца па-за межамі свядомасці. І толькі нябачная частка гэтага айсберга даходзіць да чалавека. Вільгельм фон Гумбальт адзначаў, што аснову кожнай нацыі, яе пасіянарную энергію складае, яе духоўную магутнасць вызначае мова. Дух нацыі ставарае мова, бо менавіта праз яе адбываецца развіццё нацыі як індывіда. Мова — самадастатковы прадукт жыццядзейнасці, які ствараецца кожны канкрэтны момант нанова, але ў той жа час ён спрадвечны. Мова — найвялікшы грунт, скарб, які падараваны кожнаму этнасу. Магчыма, таму мы з такой цікаўнасцю звяртаемся да старажытнай сярэдневяковай мовы, бо ў ёй эмацыянальны стан, чысціня, пачуццёвасць захаваліся ў найбольшай ступені. Фактычна таму была такая грамадская патрэба ў выданні старабеларускіх лексіконаў і граматык. Вель важна было вытлумачыць, зразумець пахо жанне пэўных слоў, лексем, пераканаць беларусаў у тым, што большасць лексікі нацыі складаюць нашыя этнічна-роднасныя адзінкі, а не запазычванні з суседніх моў. Згадаем, што ў Заходняй Еўропе ў сярэдзіне XX стагоддзя Марцін Хайдэгер таксама звяртаў увагу грамадства на ўнутраны змест слова. Наша мова, мастацкія стылі — гэта фактычна сістэма сістэм, магутны духоўны код, у якім зафіксаваны здабыткі амаль усіх папярэдніх эпох. Таму, відаць, немагчыма навучыць чалавека пісаць шляхам нейкіх дробных заўваг. Пісьменніцтву можа навучыць толькі працэс сатворчасці. Такое багацце дае нам папярэдняя культура, і ніхто не ведае, які пласт з-за характару таленту канкрэтнага пісьменніка ці навукоўца будзе адкрыты менавіта яму. Вывучэнне больш чым тысячагадовых традыцый айчыннай кніжнасці прымушае вельмі ашчадна ставіцца і да творчасці сярэдневяковага пісьменніка, і да творцы сучаснага, уважліва ставіцца і да навуковых і мастацкіх пошукаў калег. Дасягненні духоўна-гістарычнай антрапалогіі сведчаць, што для кожнай эпохі важна ведаць не толькі погляды, перакананні, лад жыцця дзяржаўнай і культурнай эліты, але і звычайных удзельнікаў падзей, канкрэтных насельнікаў гэтай эпохі, людзей, якія існавалі адначасова ў афіцыйнай гістарычнай прасторы, але ў той жа час яны стварылі тую спрадвечную культуру, якую мы маем зараз. Даследаванне хрысталагічных і багародзічных святынь і адпаведных казанняў у значнай ступені дапамагло паўнавартасна ўспрымаць і сваю мастацкую творчасць, якая ішла паралельна першым кнігам. Паэзія сталася фактычна ўнутранай часткай таго айсберга, які застаўся па-за межамі навуковых прац, духоўна-публіцыстычных, крытыкалітаратуразнаўчых эсэ, глыбінным носьбітам усіх падсвядомых духоўных здабыткаў, жыццядайных традыцый айчыннага пісьменства.

**Гутарыла Галіна ШАБЛІНСКАЯ**

# Каб ведалі. І — каб думалі

## НАТАТКІ ПРА НЕАБЫДЗЁННАЕ

### За любоў да роднай Маці-Краіны...

Пра страшны пакутніцкі лёс гэтых людзей, гэтых верных сыноў і дачок Беларусі, ужо трохі напісана і расказана. Былі апублікаваны невялікія артыкулы ў некаторых газетах, друкаваліся і фрагменты з іх уласных успамінаў. А гады два таму выйшаў з друку і досыць аб'ёмісты зборнік "Гарт" (ініцыятар і складальнік пісьменнік Герман Кірылаў, паздароў яго Божа!), у якім гэтыя святамучанікі зямлі беларускай расказваюць аб сваёй жыццёвай трагедыі больш падрабязна.

Чытач ужо здагадаўся, што гаворка ідзе пра былых студэнтаў Глыбоцкай і Пастаўскай педвучэльняў, сяброў "Саюза беларускіх патрыётаў" (1945—1947), якія згуртаваліся ў суполку з высакароднай мэтай — садзейнічаць павышэнню нацыянальнай самасвядомасці грамадзян рэспублікі, дзеля чаго — прапагандаваць веды па гісторыі і культуры Беларусі, выхоўваць пашану і любоў да беларускай мовы. Як піша адна з удзельніц гэтага руху: "Пра нейкія злачынныя ці тэрарыстычныя акты нават размовы не было. А на нас усчалі паляванне, як на самых небяспечных злачынцаў".

У канцы 1946-га іх пачалі арыштоўваць, а ў чэрвені 1947-га адбыўся кароткі суд. І вяршыў суд — вы думаеце хто? Ваенны трыбунал. Судзілі, як ваенных злачынцаў. Семнаццаці-дзевятнаццацігадовых юнакоў і дзяўчат! Цытую: "Мы былі такія маладыя, такія чыстыя сэрцам!" Так або амаль так прамаўляюць у сваіх успамінах тыя, каму пашчасліла ацалець і не загінуць на "этапах" і ў канцэнтрацыйных лагерах, на катарзе ў рудніках і на лесапавалах... Што ім давялося пеpажыць, якія здзекі і глумленні вытрываць, якія мукі зведаць, — пра ўсё гэта чытаць і думаць неймаверна цяжка. Як кажуць у народзе: проста валасы дыбам становяцца.

А "мы былі такія маладыя, такія чыстыя сэрцам!".. Гэта — балючы ўздых з успаміну Людмілы Краснадубскай, якая дажывае свой век у Казахстане, у сяле Акыча (спадзяюся, яшчэ жывая-здаровая, з Божае ласкі). У лютым 1993 года яна апублікавала свой успамін у газеце "Сумежжа", пад назвай "Лепш бы мяне застрэлілі адразу". Некалькі радкоў з яе страшнай споведзі мушу тут прывесці. "Мяне арыштавалі ў канцы зімы. Я была ўжо замужам і чакала дзіця, таму ўвогуле ніякай актыўнай дзейнасцю не займалася. Кадэбісты схапілі мяне і павезлі ў Паставы. Там кінулі ў нейкае сутарэнне з земляной падлогай, дзе ля выхаду канваіры сядзелі ля вогнішча. Я замярзала, але яны не дазволілі нават наблізіцца да агню. Раніцай допыт, знявагі. Потым адвезлі ў менскую турму. Там таксама бясконцыя допыты і здзекі, імкненне растаптаць маральна. Нарэшце, 20 чэрвеня 1947 года закончыўся гэты фарс, які называецца судовым працэсам. Імем СССР выносяць прысуд. Мне — 10 гадоў пазбаўлення волі і ў дадатак 5 год паражэння ў правах. А ў мяне якраз пачаліся родавыя схваткі. У лазарэце менскай турмы і нарадзіўся мой сынок. Загарнулі ў анучы, усунулі ў рукі і хворую этапам у турэмную калонію "Матери и ребенка" ля станцыі Хальч Гомельскай вобласці. Я была ледзьве сама жывая, малако прапала, а дзіця цягнецца да пустых грудзей і ціхенька плача ад голаду. Сынок пражыў так 4 месяцы і 15 дзён і сканаў на маіх руках. Вось гэта і была самая страшная для мяне кара! Калі б я ведала, што так будзе, я яшчэ ў часе допытаў наклала б на сябе рукі ці кінулася б на канваіраў, каб застрэлілі з яшчэ ненароджаным дзіцем. А так я 135 начэй і дзён глядзела ў вочкі сыночка, які канаў ад голаду. І гэта было ў краіне "счастливого детства". Так, мёртвым, сынок мой застаўся на Радзіме."

Вось — лёс чалавека, які хацеў свабоды і шчасця свайму народу, сваёй Бацькаўшчыне. Лёс аднаго, у якім — лёс мільёнаў. "Лепш бы мяне застрэлілі адразу..." — дакладней і мацней сказаць пра пеpажытае гэтай маладой маці немагчыма.

...Недзе ў канцы 1943 года, пад нямецкай акупацыяй, калі мы кожны дзень дрыжэлі ад страху, чакаючы налёту карнікаў, у нашу сям'ю (не помню ўжо, якім чынам) трапіла "святое пісьмо" — перапісаны алоўкам, на аркушыку з вучнёўскага сшытка, наіўны малапісьменны тэкст. У ім расказвалася пра тое, як якаясьці жанчына сустрэлася дзесьці на беразе мора з Божай Маці, і што ёй сказала Багародзіца, а менавіта: як ўратавацца ад пагібелі, ад смерці, што для гэтага трэба рабіць. Па-першае, трэба маліцца і маліцца Богу, а па-другое, трэба 12 разоў перапісаць гэтае "святое пісьмо" і пераслаць ці перадаць яго на 12 адрасоў, — бо іначай паратунку не будзе. Гадоў колькі таму, як ні дзіўна, я выняў з паштовай скрынкі такое ж пісьмо — амаль дакладна такога ж зместу і з такім жа патрабаваннем: уласнаручна перапісаць 12 разоў і разаслаць сваім знаёмым...

"Лепш бы мяне застрэлілі адразу..." Гэты ліст-успамін, гэтае "святое пісьмо" Людмілы Краснадубскай я рэкамендую кожнаму маладому беларусу таксама перапісаць 12 разоў і паслаць ці перадаць сваім сябрам і знаёмым, — **каб ведалі.** Каб чыталі і ў сваю чаргу перасылалі іншым. А адзін экземпляр — трымаць дома, на відным месцы, можа, нават на покуці — бо "святое ж!" А яшчэ лепш — пастаянна насіць яго пры сабе, каля сэрца. Ну так, каля сэрца, каб не забываць і думаць — думаць і думаць аб тым, адкуль, як і чаму... Бо іншы раз мне здаецца, што гэта пісьмо не канкрэтнай беларускай жанчыны-маці, а самой Беларусі, — растурзанай і змардаванай святамучаніцы Маці-Краіны нашай...

Праз 10 гадоў пасля трыбунала, у 1956-м, былыя сябры "Саюза беларускіх патрыётаў" пачалі вяртацца на Бацькаўшчыну. І што ж? Што іх чакала тут — у краі, дзеля свабоды і квітнення якога яны прынялі такі жахлівы вырак лёсу? А чакаў іх апошні неміласэрнабалючы ўдар. На радзіме іх не прынялі. "Нідзе не бралі на працу. Карміў стары бацька-настаўнік. У раёна яго папракалі: твая дачка — вораг народа. І давялося мне пакінуць мілую Радзіму і зноў вярнуцца ў Казахстан" (Л. Краснадубская). "У 1956-м годзе вярнуўся на радзіму, але нідзе на працу не бралі, і зноў паехаў на Калыму" (Станіслаў Савік). У тым жа 1956-м вярнуліся ў родныя мясціны Леў Бялевіч і Марыя Бабіч. Сустрэліся ў Глыбокім і — пажаніліся, каб быць і трымацца далей разам. Але "з горыччу зразумелі, што тут ім не рады, тут яны непатрэбны. Варта было толькі паказаць пашпарт, і ніхто не хацеў браць на работу: для асуджаных за "палітыку" вакансій не было. Брала роспач: як жыць? (...) І паехалі назад у Інту. Там працавалі на шахтах аж да выхаду на пенсію" (З артыкула Л. Лабачэўскай у "Народнай волі" за 10 ліпеня 1999 г.).

Радзіма аказалася не добрай спагадлівай маці, а злою і нелітасцівай мачыхай. Яна адрынула сваіх родных дзяцей, як чужчужаніц, як ворагаў.

І нарэшце яшчэ адзін штрышок у гэтай згадцы пра лёс самаахвярных абаронцаў і заступнікаў Беларусі, яе свабоды, яе годнасці, яе мовы і духоўных скарбаў. У 1992 годзе (праз 45 гадоў, амаль праз паўвека!) Вярхоўным Судом Рэспублікі Беларусь справа сяброў СБП была перагледжана, і ўсе яны былі рэабілітаваны "за адсутнасцю саставу злачынства". Не памілаваны, а — рэабілітаваны. Гэта значыць: ніякай віны за імі не было. Адпакутавалі, перацярпелі нечалавечыя мукі — нізавошта. Хіба ... за шчырую любоў да роднай зямлі, да Беларусі?

Але ж як зразумець гэта, каб за любоў да роднай Маці-Краіны яе ж дзяцей у яе ж на вачах судзілі такім страшным несправядлівым судом?!.

Як ты дапусціў такое, Божа?!.

### Апошні з магікан

Яшчэ ў 1921 годзе вялікі пісьменнік славянскага і не толькі славянскага свету Максім Гарэцкі, у роздумах аб лёсе Бацькаўшчыны, пісаў: "Сіл у нас хопіць. Мы сапраўды адна з культурных і духоўна багатых нацый". Толькі, засцерагаў ён далей, няможна гэтыя сілы рассцярушваць, яны павінны быць аб'яднаны. Вось гэтая глыбокая перакананасць, што "сіл у нас хопіць", якая жыла ў Максіме Гарэцкім, своечасова пачала прарастаць і ў душы маладзейшага брата Гаўрылы Гарэцкага, а прарошчы — стала на ўсё жыццё і яго перакананнем, ягоным жыццёвым "верую", духоўным і маральным грунтам яго як грамадзяніна і навукоўца.

Так, Гаўрыла Іванавіч быў на сем гадоў маладзейшы за брата і наогул самы малады сярод тых, што ўздымаліся да вялікай грамадска-патрыятычнай дзейнасці на дражджах "Нашай Нівы". Нашмат маладзейшы, але — увабраў, паспеў увабраць у сябе, у душу і сэрца, увесь дух эпохі першага адраджэння Беларусі, таго яго этапу, што ішоў пад сцягам БНР, пад "Пагоняй". Ён прыняў і новую, паслякастрычніцкую рэальнасць, бо паверыў і ў БССР, у абвешчаныя дэкларацыі. Паверыў, ні на цалю не ўступаючы ў галоўным, ні ў якой меры не здаючы таго, што стала сэнсам жыцця: Беларусь, Беларусь і яшчэ раз Беларусь!

Ніл ГІЛЕВІЧ

У мяне асабіста не так і шмат было з Гаўрылам Іванавічам сустрэч, часцей абменьваліся лістамі і паштоўкамі, у гасцях у яго на кватэры правёў толькі адзін вечар. Але ад кожнай сустрэчы з ім я заставаўся з усё больш моцным уражаннем, што гэта, па-першае, адзін з апошніх магікан — з апошніх носьбітаў той сапраўды беларускай культуры, якой так не хапае нашаму грамадству сёння; а па-другое, што гэта чалавек вельмі трывалай унутранай моцы: ад яго постаці, ад яго пагляду, ад яго нягромкіх слоў дыхала ўраўнаважанасцю і спакоем, на ўсім яго абліччы і паставе, на тым, як ён трымаўся ў грамадзе, ляжала пячаць самавітасці і шляхетнасці; усё ў ім няйначай гаварыла: "Нічога, усё будзе добра. Мітусіцца не трэба, гэта непрыгожа. Трэба спакойна і прафесіянальна рабіць справу, да якое маеш прызванне. А злоснікі і нядобразычліўцы нашы будуць аднойчы пасаромлены самім жыццём."

Дарэчы, і яго верная сяброўка і спадарожніца ва ўсіх жыццёвых нягодах Ларыса Восіпаўна поўнілася такім жа спакоем, лагодаю і дабрынёй, несла на сабе такі ж адбітак вялікай культуры, далікатнасці, шляхетнасці. Я напісаў "у нягодах", але гэта сказана, мабыць, занадта мякка, бо ці ж проста нягоды — турма, ссылка і два прысуджэнні да вышэйшай меры пакарання, да расстрэлу — як ворага народа, ворага сацыялізму, зацятага беларускага нацдэма?

Разглядаючы постаць, жыццёвы і творчы шлях акадэміка Г. І. Гарэцкага ў кантэксце гісторыі Беларусі, немагчыма не думаць аб тым, што менавіта на такіх людзях, на такіх волатах стаяла ў стагоддзях і выстаяла Беларусь як самастойнае этнічна-нацыянальнае ўтварэнне, што дзякуючы менавіта такім людзям вытрывала і не загінула наша культура, наша духоўнасць, наша мова. Прысутнасць акадэміка Г. І. Гарэцкага ў культурна-грамадскім жыцці Беларусі была незвычайна адчувальнай. Быць яго сучаснікам, а тым больш яго знаёмым — значыла вельмі шмат і абавязвала да многага. А перадусім — абавязвала думаць, як пражыць адпушчаны табе век з высокай чалавечай годнасцю, як распарадзіцца дадзенымі табе ад Бога сіламі і здольнасцямі з найбольшай карысцю для Бацькаўшчыны. Не сумняваюся, што многія і многія, каму выпала шчасце з ім працаваць ці проста сустракацца і гутарыць, сёння думаюць пра гэта са шчырай удзячнасцю лёсу і яму — славутаму, сусветнавядомаму вучонаму і вялікаму грамадзяніну.

### Несправядліва і не па-гаспадарску

Адзін з шанаваных мною паэтаў прызыву канца 80-х у нататцы на старонках афіцыйнага выдання агулам негатыўна ацаніў творчасць Аркадзя Куляшова 30—50-ых гадоў, заявіўшы, што варты ўвагі сённяшняга чытача Куляшоў пачаўся ў сярэдзіне 60-х. Мяне ягоны прысуд, мушу сказаць, моцна засмуціў, бо заяўляць такое — няслушна і несправядліва. Тое, што ў Куляшова ёсць таленавіта напісаныя рэчы, якія з ідэалагічных меркаванняў сёння не ўспрымаюцца, зусім не дае падстаў цалкам адрынваць напрацаванае ім у 30—50-я гады. Калі б Аркадзь Куляшоў не напісаў нічога больш, апрача вершаў, балад і паэм перыяду Другой сусветнай вайны, — ён і тады б застаўся вялікім паэтам у беларускай літаратуры XX стагоддзя. Так, як ён паказаў трагедыю чалавека ў вайне, ніхто ва ўсёй шматнацыянальнай паэзіі былога СССР не паказаў. З ягоным "Лістом з палону" можа стаць побач хіба толькі "Враги сожгли родную хату" Міхаіла Ісакоўскага. А "Над брацкай магілай"? А "Прыгоды цымбал"? А балюча-трагічная, дагэтуль, на жаль, як трэба неацэненая "Алёнка"? А паэма "Сцяг брыгады"? Нават байцы югаслаўскай Народна-вызваленчай арміі, па ўспамінах паэта Радавана Зогавіча, з заміраннем сэрца слухалі каля вогнішча ў гарах "Сцяг брыгады", хоць па-руску не ўсё разумелі і Зогавіч павінен быў ім сёе-тое тлумачыць. Прыгадайма, як на першым чытанні гэтай паэмы ў Маскве, у гасцініцы (1942 год), Аляксандр Твардоўскі, па яго ўспамінах, перагінаўся праз плячо Куляшова, каб зазірнуць у рукапіс: няўжо там сапраўды ёсць такой страшнай трагічнай сілы радкі? Гэта — Твардоўскі, уразіць якога было цяжка...

Апрача таго, варта помніць, што Куляшоў — адзін з вялікіх майстроў паэтычнага слова. Што датычыць культуры мовы, культуры вершаванага радка, — роўных яму сярод літаратурных равеснікаў было зусім няшмат. А можа, і зусім не было. Гэта яшчэ трэба зрабіць спецыяльнае даследаванне. І дай Божа, каб усе, хто сёння прыходзіць у паэзію, гэтак валодалі складам і ладам роднай мовы, верша, як валодаў Куляшоў.

Можна было б і прайсці міма гэтага канкрэтнага факта няслушнасці ў ацэнцы нашай паэтычнай спадчыны эпохі таталітарнага гвалту, калі б гэта была выпадковасць. Засмучае, аднак, тое, што прыведзены факт — даніна нядобрай, нямудрай тэндэнцыі, якая ўжо набрала сілу і якая нашай літаратуры, а значыць і ўсёй нашай беларускай справе карысці не прынясе. На вялікі жаль, многія з маладых і ўжо досыць сталых пісьменнікаў выказваюцца вельмі непачціва пра беларускую літаратуру савецкай эпохі, гэта значыць да 1991 года. Адмаўляюць яе агулам, без спробы аддзяліць: вось добрае, чыстае, здаровае зерне, а вось зяло і смецце. Паводле іх выказванняў — уся яна фальшывая, няпраўдзівая, ілюстрацыйная, схематычная, заідэалагізаваная і г.д., — адным словам, немастацкая, нявартасная, для духоўнага ўжытку сёння непрыгодная. Брава, сябры, брава! — толькі і застаецца выгукнуць у адказ. Канешне ж, у той літаратуры нічога каштоўнага няма. Адна одапісь ды голая прапаганда, адны дэкларацыі ды клятвы на вернасць партыі. І суцэльны ружовы сацрэалізм. Ні праўдзівых малюнкаў і сцэн з народнага жыцця, ні глыбока чалавечных, шчырых пачуццяў і перажыванняў, ні драматычных і трагічных лёсаў сучаснікаў, ні вострага сатырычнага асмяяння сацыяльна-грамадскіх заган... — нічога! Ні ў таго ж Куляшова, ні ў Танка, ні ў Панчанкі, ні ў Караткевіча, ні ў Пысіна, ні ў Гаўрусёва, ні ў Крапівы, ні ў Мележа, ні ў Лупсякова, ні ў Чарнышэвіча, ні ў Брыля, ні ў Быкава, ні ў Пташнікава, ні ў Стральцова, ні ў Адамчыка, ні ў Кудраўца... Ды што пералічваць імёны? Які сэнс? Усе яны нічога не значаць. Дзесяткі гадоў краіна жыла без літаратуры. І вось толькі цяпер паяўляюцца і паявіліся паэты і пісьменнікі, якія... Паявіліся на пустым, на голым месцы.

Цяжка зразумець, дзеля чаго, з якіх меркаванняў робіцца гэта закрэсліванне таго, што напрацавалі — таленавіта, сумленна, шчыра — папярэднікі. Не хочацца думаць зусім кепска, аднак жа — што гэта? Вядомы адвеку спосаб самаўзвышэння: літаратура пачалася з нас? Наіўна, неразумна і не па-гаспадарску. А ў нашай беларускай сітуацыі гэта, на маё разуменне, і недапушчальна. Бо няма сёння ў свеце другой нацыі, якая б у такой ступені мела патрэбу ў кансалідацыі пакаленняў. Да многіх усё яшчэ так і не дайшло, што адно з найвялікшых няшчасцяў нашых і прычын бядотнага становішча краіны — наша фенаменальнае беларускае самаедства.

### Як гэта робіцца там, дзе людзі сябе паважаюць

На працягу апошняга года ў літаратурным календары Балгарыі буйным планам ішлі круглыя даты некалькіх выдатных пісьменнікаў — тых, чыя творчая спадчына ўжо даўно стала духоўным набыткам нацыі. Не буду пералічваць усіх — спынюся толькі на чатырох, найбольш значных.

150 гадоў з дня нараджэння аднаго з заснавальнікаў новай балгарскай літаратуры, першага народнага пісьменніка Балгарыі Івана Вазава.

150 гадоў з дня нараджэння выдатнага пісьменніка-гісторыка і публіцыста Захарыя Стаянава.

*(Працяг на стар. 14—15)*

## “Настальгія па вечнасці”




**Бадай, у кожнага бываюць моманты, калі асабліва хочацца паспавядацца ў любові да роднай зямлі, паспрабаваць разабрацца, наколькі повязь з Бацькаўшчынай надае табе сілы, упэўненасці, веры. Калі ж да ўсяго гэтага чалавек валодае пяром, ён сваё запаветнае давярае паперы. Як гэта зрабіў у лірычнай імпрэсіі “Мая Беларусь” Юрась Півуноў: “...Што ёсць Беларусь? Кожнаму беларусу яна ўяўляецца па-свойму. Для мяне Беларусь пачынаецца з вёскі, дзе нарадзілася мая маці, дзе ў дзяцінстве я бавіў час летніх вакацый”. А далей Ю. Півуноў прамаўляе слова пра гэты куток Беларусі: “Клічаўшчына... Край хваёвых лясоў з прамежкамі бярозавых гаёў, паўнюткіх баравікамі, махавікамі ды лісічкамі пад ялінкамі, балоцістых нізінаў з россыпам палымяных журавінаў на зялёных купінах... Край прырэчных лугоў, дзе паважна ступаюць па мяккім дзірване квітнеючых красак белыя птушкі з чорнаю аздобаю на крылах. Гэта буслы — белыя рыцары Беларускай зямлі”. І заканчвае Ю. Півуноў сваю споведзь такімі словамі: “Беларусь! Для мяне ты святая зямліца! Нібы родная маці, ты свецішся ласкай сваёй!” А калі па-сапраўднаму любіш свой край, не можаш не любіць мову, хараство і мілагучнасць якой адчуў з маленства. І з’яўляецца жаданне напісаць пра гэта верш:**

*Мова мая...*
*Нібы гнаная ледзі,*
*Ў замку,*
*Дзе подых далёкіх вякоў,*
*Просіць у Бога*
*Шчасця народу,*
*А нацыі нашай*
*З руінаў паўстаць,*
*З духоўнага рэзруху,*
*Ў які цягам стагоддзяў*
*Укінулі Край Беларускі віжы*
*З Усходу і Захаду,*
*Поўначы і Поўдню —*
*Давесьці хацелі:*
*“Беларусаў няма!”*
*Мы ёсць!*
*Мы былі!*
*Мы не знікнем ніколі! —*
*Як бы таго хтосьці з іх не хацеў.*
*А моцы ў змаганні*
*Нам дасць сіла духу,*
*Прыгажосць нашай мовы,*
*Краіны працяг...*

**Гэтыя два творы ўзяты з першай кнігі Ю. Півунова “Настальгія вечнасці”, якая пабачыла свет у Магілёве. У Магілёве Ю. Півуноў і нарадзіўся. Нягледзячы на тое, што пражыта ўсяго 36 гадоў, біяграфія багатая: сярэдняя школа, Гомельскі палітэхнікум, служба ў паветрана-дэсантных войсках, праца слесарам на мэблевай фабрыцы, завочная вучоба ў Беларускім тэхналагічным інстытуце, з якога пасля чацвёртага курса перавёўся на беларускае аддзяленне філфака Магілёўскага педінстытута і скончыў у 1986 годзе; дырэктарства ў Магілёўскай філіі БГАКЦ. Быў карэспандэнтам магілёўскіх газет “Ратуша”, “Зямля і людзі”, цяпер — карэспандэнт “Вечернего Могилева”. Друкаваўся ў калектыўным зборніку “Сэрцам роднага слова краніся”, у часопісах “Першацвет”, “Маладосць”, газетах “Чырвоная змена”, “Наша Ніва”, Наша слова”, у мясцовым друку. У “Настальгіі па вечнасці” змешчаны розныя вершы і імпрэсіі, але змест кнігі можна звесці да верша, які завяршае яе: “Я жыву, Я сцвярджаю сваё існаванне, Штосьці тут адмаўляю, А штосьці прыму, Толькі мэту адну Не адпрэчу ніколі — Каб заўжды была вольнай Мая Беларусь”. Лірычны герой Ю. Півунова, знайшоўшы свой шлях да Беларусі (як прызнаецца ў прадмове: “Вершы, што ўвайшлі ў кніжку, напісаныя ў перыяд з 1989-га па 1999 год. Усё, што перажыла за гэты час краіна, перажыў і я. Менавіта ў 1989-ым я стаў БЕЛАРУСАМ. Першыя шматтысячныя мітынгі, праўдзівая гісторыя нашага Краю на старонках газет і часопісаў — усё гэта адкрыла мне вочы...”), жыве жаданнем, каб яго знайшлі і іншыя.**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

КРЫТЫКА

# Натхненне старасвецкасцю

## ЧЫТАЮЧЫ “САРМАЦКІ АЛЬБОМ” Ірыны БАГДАНОВІЧ

Некалі П. Панчанка сказаў: “У кожнага паэта павінна быць свая тэма, свой свет. Тады ён займае і сваё месца ў літаратуры”. Ірына Багдановіч як паэтка прыйшла да “сябе” не адразу. Паступова ўздымалася яна да мастацкай сталасці і майстэрства, што выявіліся асабліва яскрава ў творах паэткі апошніх гадоў і так нязмушана расцвілі ў яе “Сармацкім альбоме”. І калі ў першым зборніку аўтаркі “Чаравікі маленства”(1985) вершы на гістарычную тэматыку ці проста з “налётам” гісторыі не пераважаюць кольгасна (хаця і прыцягваюць увагу чытача менавіта сваёй адметнасцю, неадпаведнасцю з іншымі, вымушаюць спыніцца на іх больш дэталёва), то ў наступных — “Фрэскі”(1989) і “Вялікдзень”(1993) — яны займаюць значнае месца, становяцца вядучымі ў творчасці І. Багдановіч. Гісторыя краіны і народа, іх шматпакутны шлях праз вякі “летаргіі”, забыцця, ціску “то злева, то справа”, жывучасць і нязломнасць духу беларусаў, багатая на векапомныя падзеі і фантастычныя легенды мінуўшчына, таямніцы курганоў, замчышчаў і падземных лёхаў — невычэрпная крыніца натхнення, з якое жывіцца паэтычны талент аўтаркі.

М. Арочка, аналізуючы дэбютны зборнік І. Багдановіч, заўважае, што яе “лепшыя вершы... вырастаюць з сапраўднага”. Варта ўдакладніць, што гэтае гістарычна сапраўднае не выключае дамешку і нават перавагі ўласна-аўтарскага, творчай перапрацоўкі і пераасэнсавання фактаў, погляду на рэчы і з’явы. Зазначанае тычыцца паэмы “Палачанка”, прысвечанай легендарнай жанчыне беларускай мінуўшчыны — князёўне Рагнедзе, а пазней княгіні Гарыславе. Як вядома, шмат хто спрабаваў сілай сваёй фантазіі прыадхінуць заслону з люстэрка даўніны, разгледзець у ім твары і постаці жывых людзей з супярэчлівым унутраным светам і пачуццямі, увасобіць іх у яркіх, запамінальных вобразах, каб наблізіць да нас, сучасных, што і праз стагоддзі не ўніклі той жа адвечнай барацьбы дабра і зла ў сабе. І. Багдановіч падыходзіць да “полацкай драмы” з іншага, нечаканага боку: яна глядзіць на яе вачыма жанчыны-маці, а таму бачыць у новым асвятленні:

***Чые вы маці? Горкае маўчанне.***
***Яшчэ ідуць! Жанчыны ў чорным тут.***
***Вы хто? Вы — хто?***
***Аб вас маўчыць паданне.***
***Мы — маці. Мы яе спытаць прыйшлі:***
***За што сыны бязвінныя палеглі?..***

Гэтае пытанне ў паэме не рытарычнае. Невыпадкова ім пачынаецца твор і, па сутнасці, завяршаецца. Адказ Рагнеды адрасаваны ўжо нам, нашчадкам, але ж праблема ім не вырашаецца, канцоўка застаецца адкрытай. Князёўна з горыччу прызнаецца, што хоць “да вашых дзён даносіцца праклён тых мацярок, што вояў гадавалі, а ўзнагародай мелі толькі стогн, калі пасля, забітых, іх хавалі, але ж і яна не пазбегла пакутаў праз усё жыццё. Якраз імі ды яшчэ болем незагойнай раны памяці сплаціла гераіня ўсё спаўна: і сваю віну, і свае памылкі.

Праблема гістарычнага складае выразную дамінанту “Сармацкага альбома” І. Багдановіч. Гэта адлюстроўваецца ўжо ў самой назве нізкі, дзе азначэнне “сармацкі” мае на ўвазе шляхетнасць, годнасць і гонар за сваё мінулае. Тым самым забяспечваецца адпаведная настраёвасць і танальнасць усіх без выключэння вершаў нізкі — уласна-гістарычных, грамадзянска- патрыятычных і інтымных. Праўда, праяўляецца адзначаная характарыстыка па-рознаму ў розных творах, што дазваляе пазбегнуць аднастайнасці мастацкага ўвасаблення і паўтораў. Часцей за ўсё ў вершах паэткі гісторыя, мінуўшчына адкрытая, незашыфраваная, у чым пераконваюць іх назвы (“Магілёўская пліта — эпітафія XVII стагоддзя”, “Магілёўская кафля XVII ст.” і інш.).

Апошні з нагаданых твораў мае падназву “На адкрыцці геральдычнай выставы”, што прывязвае яго да канкрэтнай падзеі з жыцця аўтаркі, уражанні ад якой выліліся ў слове “з нагоды”. Дарэчы, падобныя творы, калі назва з’яўляецца зыходнай тэмай разваг, штуршком да разгортвання думкі, сэнсава неабходнай для цэласнага ўспрымання і разумення ўсяго верша, сустракаюцца яшчэ ў “Вялікадні” і ў якасці ўдалага прыёму пераходзяць у “Сармацкі альбом”.

Акрамя непасрэдных згадак, прамых спасылак, пра зварот да даўніны сведчаць славутыя постаці былых вякоў ці нават антычнасці. Як, скажам, у вершы “Шапэн і Міцкевіч”, дзе ўказваюцца яшчэ і канкрэтны час і месца дзеяння — “Парыж, 1846 год”. Нават лексічныя сродкі працуюць на ўзнаўленне каларыту вечнасці, трываласці, нязменнасці ў творы “Vergilius”. Дапамагаюць паэтцы ў гэтым арыгінальныя моўныя выразы, якія ў лаканічнай, дасціпнай форме перадаюць непадуладныя часу маральныя ісціны. Іншы раз І. Багдановіч знарок пазбягае канкрэтыкі часу і асобаў пры абмалёўцы гістарычнага асяродка. Так, у “Каралі ў Нясвіжы”, “Сармацкай пячатцы” вобразы герояў абагульненыя. Ды і каханне, што пэўным чынам ідэалізуецца ў творах, часам стварае ўражанне празмернай ідылічнасці. Каханне наогул робіць кожнага асобнага чалавека падобным да іншых, калі сваё становіцца тоесным агульначалавечаму, калі важней, **што** адчуваеш, чым **хто** адчувае.

Арыентуючыся на гістарычную дакладнасць, паэтка звяртаецца да алюзій, якія нібы ажыўляюць літаратурнага героя з рамана пра сярэднявечча, апісаныя эпізоды той далёкай эпохі. Скажам, у любоўным вершы “Так хораша ты вымаўляеш мне...” здзіўляе ўжо зварот да каханага — “Мой Квазімода”. У гэтай характарыстыцы нельга не адчуць тону пяшчотнага гумару, хітраватай усмешкі. Прычым асноўная нагрузка прыпадае не столькі на сэнсавы, колькі на інтанацыйны, эмацыйны бок слова. Намі хутчэй бачыцца жартаўліва-гарэзлівая ўсмешка на вуснах каханай, чым разумеецца ды ўсведамляецца сам змест.

Пераўвасабленне лірычнай гераіні І. Багдановіч у “дрыяду лясную” ў “Камінным вершы” вымушае чытача вярнуцца на імгненне ў чароўнае царства міфаў. Тут, праўда, можна пашкадаваць, што вобраз не свой, “крэўны”, а запазычаны ў іншых народаў. Мабыць, таму яму не стае той глыбіні і матываванасці, якой бы хацелася. Згаданы верш яшчэ і прыклад “рэчыўнага” намёку на мінулае. Ягоная “пустэльная камінная зала-”’адразу выклікае асацыяцыі з палацамі і замкамі, абуджае ва ўяўленні малюнкі баляў і шляхецкіх сходаў.

Чарговы напамін гісторыі ў нізцы І. Багдановіч — мясціны, будынкі, “шляхецкія сядзібы” і “радзінныя фальваркі”, “полацкі Сафійскі сабор”, “старасвецкія дахі над зрэзамі звыклых панелак” ды “сховы забытых старых падмуркаў”. Нават у метафарычных выявах пачуццяў адчувальны подых сівых вякоў:

***Мы ўзводзілі стромкія вежы***
***вялікіх памкненняў,***
***Былі дойлідамі шляхетных замкаў***
***нашай пяшчоты.***
**(“Там, дзе мы крочым**
**вуліцамі і скрыжаваннямі...”)**

А яшчэ ж ёсць і Нясвіж з ужо згаданага верша “Кароль у Нясвіжы”, “Карэліцкі тост” са зборнымі вобразамі філаматаў і “люду Касцюшкаў”, “Скрыжаванне на Нямізе”, яшчэ не азмрочанае памяццю апошняй трагедыі. Вобраз “Нямігі ў каменным уборы” з “Фрэсак”, злавесна-трывожны знак-сімвал нашага быцця, пагрозы страты ўсведамлення сябе як нацыі, народа, страты ведання, хто мы такія і адкуль нашыя карані, не паўтараецца ў “Сармацкім альбоме”. Бо ў ім каханне асвятляе па-новаму ўсё навакольнае, на што толькі падае позірк. У такой “падсветцы” шэрае бачыцца сонечным, звычайнае — цудоўным, дні — блаславёнымі, здарэнні — неверагоднымі. Таму і Няміга стала “месцам надзвычайнага цуду, хоць стаў тут памятны крыж”.

Наогул, у гістарычнай і інтымнай лірыцы І. Багдановіч (прычым іх адзнакі могуць і спалучацца ў межах аднаго верша) выразна праступае схільнасць аўтаркі да рамантычнага светаўспрымання. У немалой ступені гэтаму спрыяе светлае пачуццё, што перажывае лірычная гераіня і якім дыхае літаральна кожны радок. Паўстае яно ў творах цэласным, гарманічным, адзіна сапраўдным і адзіна верным, тоесным вечнасці. Такое

НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Скарб зямлі бацькоўскай

***Мы радуемся слову,***
***Адкрытаму ў народных сховах,***
***Незацяганаму,***
***Крамянаму,***
***Як раніцай трава, непатаптанаму...***

Так сказаў паэт аб мілагучнасці, багацці дыялектычнай мовы і яе слоўнікавага складу. 90-я гады XX стагоддзя вылучаюцца значнымі дасягненнямі і вялікімі набыткамі не толькі для дыялекталогіі, але і для ўсёй лінгвістычнай навукі Беларусі. У 1998 годзе завяршылася выданне пяцітомнага **“Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак”** (1993—1998) — найбольш поўнага лінгвістычнага атласа ў гісторыі айчыннага мовазнаўства. З’ява гэтая выключна важная і неардынарная. Упершыню на прасторы былога СССР ажыццёўлена выданне такога аб’ёму і зместу, якім не толькі самі навукоўцы, але і кожны беларус па праву можа ганарыцца і радавацца. Дарэчы, менавіта на Беларусі быў створаны і першы славянскі дыялекталагічны атлас вядомым мовазнаўцам Пятром Бузуком (“Спроба лінгвістычнае геаграфіі Беларусі”, ч.1, 1928). Пазней, як вядома, беларускія лінгвагеографы стварылі такія грунтоўныя працы, як “Дыялекталагічны атлас беларускай мовы” (1963) і “Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак” (1969). “Лексічны атлас беларускіх народных гаворак” — гэта не толькі працяг папярэдніх здабыткаў у лінгвагеаграфіі, але і адначасова новы крок наперад, новая, вышэйшая прыступка ў дасягненнях беларускіх лінгвістаў.

Стварэнню Атласа папярэднічала вялікая і карпатлівая падрыхтоўчая праца айчынных навукоўцаў. Гэта і складанне спецыяльнай праграмы даследавання, што была выдадзена пад назвай “Інструкцыя па збіранню матэрыялаў для складання Лексічнага атласа беларускай мовы” (1971) і ўключала 56 асобных тэм, і вызначэнне сеткі апорных населеных пунктаў, абраных для даследавання (149 вёсак), і збор матэрыялу ў палявых умовах шляхам спецыяльных экспедыцыйных выездаў у асобныя населеныя пункты, а потым яго далейшая апрацоўка, апісанне, картаграфаванне ў кабінетных умовах. Можна сабе ўявіць, колькі для гэтага трэба было сіл і намаганняў прыкласці, колькі экспедыцый арганізаваць, колькі гарачых дыскусій правесці, каб выкарыстаць найноўшыя дасягненні сучаснай лінгвагеаграфічнай навукі і дакладна наглядна падаць на картах Атласа лексічнае багацце беларускай дыялектнай мовы. Вядома, што канкрэтныя вынікі такога грандыёзнага навуковага праекта мы маем сёння, дзякуючы зладжанай рабоце вялікага калектыву (29 асоб) супрацоўнікаў Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі і выкладчыкаў мовазнаўчых кафедраў і студэнтаў педагагічных ВНУ нашай краіны.

Пяць тамоў Атласа змяшчаюць 19 гісторыка-адміністрацыйных карт і 1791 лінгвістычную, на якіх пры дапамозе спецыяльных знакаў адлюстраваны, сабраны і тэматычна пададзены лексічны матэрыял. З Атласа можна даведацца пра розныя фанетычныя, акцэнтныя, словаўтваральныя і семантычныя варыянты назваў расліннага і жывёльнага свету (т. 1, 1993), сельскай гаспадаркі (т. 2, 1994), побыту (т. 4, 1997). Цікавы па змесце 3-і том (1996) Атласа, на картах якога паказана тэрытарыяльнае пашырэнне лексікі, што адносіцца да чалавека, яго заняткаў, знешняга выгляду, характару, прадметаў і паняццяў асабістай гігіены, маёмасных адносін і інш. Адметным з’яўляецца і 5-ы том (1998), пераважная большасць карт якога прысвечана семантыцы слоў, а таксама іх словаўтваральным і акцэнтным асаблівасцям у беларускіх гаворках. Да кожнай карты падаюцца каментарыі, афармленыя ў выглядзе індэксаў або спісаў адказаў. Акрамя гэтага, у кожным томе Лексічнага атласа змяшчаюцца спіс абследаваных населеных пунктаў і звесткі пра збіральнікаў матэрыялаў і інфарматараў.

Разам з тым, поруч з лексічным матэрыялам карты змяшчаюць шмат цікавых звестак па фанетыцы, асабліва нерэгулярных фанетычных з’яваў (напрыклад, **звано́к — дзвоно́к; во́жык — ёржык; драбі́на — драбэ́на** і інш.). Упершыню тут паказана з’ява адпадзення пачатковага **а** ў некаторых словах (напрыклад, **аба́бак — ба́бак; аха́пак — ха́пык; аго́нь — гонь; ажы́ны — жы́ны; апо́лак — по́лык**). І хоць Атлас — гэта не літаратурна-мастацкі твор, але гартаеш яго старонкі, кожную асобную карту і яскрава ўяўляеш сабе невычэрпнае багацце народнай лексікі, яе непаўторнасць і адметнасць. Так, напрыклад, для наймення мурашніка ў беларускіх гаворках ужываюцца наступныя назвы: **мураве́йнік, мураве́льнік, мураве́ннік, мураўё, мура́ўнік, му-**

каханне можа быць толькі Боскім дарункам, наканаваным звыш, сустрэча з якім падказана і падрыхтавана прыгатаваны ўсім папярэднім жыццёвым шляхам. Не можа яно быць грэшным, "уступкай бесу". Таму хвілінныя ваганні, збянтэжана-здзіўленыя пытанні гераіні да самой сябе: "Няўжо... бес душу маю здужаў?" не ўспрымаюцца ўсур'ёз і застаюцца без адказу. Па сутнасці, матыў гэты неабавязковы, бо разліты па ўсім вершы і нават працягваецца ў наступных творах, дзе таксама гучыць ён, нябеснасці кахання, яго Боскай прадвызначанасці:

***Як быццам Гасподні дотык, але не ты,***
***Маю руку ахінуў неверагоднай пяшчотай.***
(**"Скрыжаванне на Нямізе"**)

Акрамя характэрных для І. Багдановіч скразных вобразаў восені, самоты, душы, якія, пераходзячы са зборніка ў зборнік, набываюць у кожным з іх новыя сэнсавыя адценні, інтанацыйна-меладычнае гучанне, у любоўнай лірыцы "Сармацкага альбома" з'яўляюцца і іншыя матывы, дзеючыя асобы. Асабліва вылучаюцца, звяртаюць на сябе ўвагу трансфармацыі паняццяў "цуд", "скрыжаванне". Адна з функцыянальных нагрузак, што выконваюць яны, — гэта зНітаванне твораў у арганічнае цэлае, спалучэнне асобных фрагментаў пачуцця ў цэласны шматфарбны малюнак у свядомасці чытача. Часта канкрэтныя, рэалістычныя, прывязаныя да жыцця дэталі — "скрыжаванне на Нямізе", як і "ўнутраны дворык Азова-Данскога банка", "шэрая траса занудлівай Магілёўкі", а таксама "дзень у гонар Ігната Дамейкі" дадаюць сапраўднасці вершам, паказваюць на іх зямную аснову, на тое, што выраслі яны з фактычнага выпадку, здарэння. Такія падрабязнасці спрыяюць не толькі ўзмацненню індывідуальнага пачатку, але і атмасферы даверу да пачуццяў лірычнай гераіні нізкі.

Найбольшай канцэнтрацыяй дэталяў вылучаюцца вершы, бліжэйшыя па часе да "надзвычайнага цуду", "благаславёнага дня", ці — чарговае азначэнне — "шалёнага выпадку". У іх пачуцці яшчэ не "адстаяліся", не абагульніліся. Яны яскрава-вобразныя, прадметныя, бо захавалі найдрабнейшыя адценні. А ўжо ў пазнейшых па даце напісання творах — "Vergilius", "Там, дзе мы крочым вуліцамі і скрыжаваннямі..." — засталіся адбіткі іх, найістотнейшае, узнятае да абагульнення ўяўленне-ўспамін, без прывязанасці да рэаліяў, месца і часу як невызначальных, не галоўных.

Часам слова, вобраз, азначэнне-эпітэт, што ў паэтаў з рамантычным поглядам на свет вызначаецца "не столькі прадметнай дакладнасцю, колькі выверанасцю пачуцця", у творах І. Багдановіч у большай ступені "зашыфроўваюць" эмоцыі, чым перадаюць, выяўляюць іх. "Мэтай верша становіцца не асэнсаванае паведамленне, а ўнушэнне пэўнага настрою, суладнага пачуццям гераіні; над лагічна-рэчыўным сэнсам слова дамініруе эмацыянальная афарбоўка. У пэўнай меры, — заўважае Т. Чабан, — гэта выклікана рамантычным імкненнем перадаць пачуцці поўнасцю, да канца і немагчымасцю выразіць іх у слове". У слушнасці думкі даследчыцы асабліва пераконвае верш І. Багдановіч "Час бэзу" з яго пачуццёвымі эпітэтамі, недавыказанасцю і шматзначнасцю думкі, якія падкрэсліваюцца шматкроп'ем, усім музычным ладам твора, што дасягаецца анафарай і алітэрацыямі, адпаведнай інтанацыяй.

***Бэз безупынны, бязлітасны,***
***бэз летуценны,***
***Бэз як бязмежжа памкненняў,***
***пачуццяў іграння.***
***Бэз каралеўскі, сармацкі,***
***бухмата-праменны,***
***Бэз як прэлюдыя лета, фарцісіма траўня.***
(**"Час бэзу"**)

Як вядома, зварот паэзіі да сумежных галін мастацтва, перадусім да жывапісу, музыкі, таксама тлумачыцца крытыкамі як рамантычнае імкненне перадаць няўлоўнае, выказаць невыказнае. Думаецца, сюды яшчэ можна дадаць і жаданне аўтара паўздзейнічаць на ўсе органы пачуццяў чытача, сінкрэтызаваць зрокавае і слыхавое ўспрыманні, спалучыць у адно слова і вобраз. Якраз своеасаблівая цікавасць да жывапісу і музыкі заўважалася яшчэ ў першых зборніках І. Багдановіч. Дастаткова нагадаць верш "Ля дываноў Алены Кіш", паэтычную санату "Ідзе чалавек". У "Сармацкім альбоме" гэтая сувязь больш апасродкаваная, асацыятыўна-вобразная. Мы бачым "шагалаўскія нябёсы", чуем арганныя мелодыі ў Сафійскім саборы, для нас, услед за аўтаркай, бэз не што іншае, "як фарцісіма траўня, прэлюдыя лета".

"Час бэзу" вылучаецца, акрамя музычнасці інтанацый і выкшталцонасці эпітэтаў, яшчэ складанасцю пачуццяў. Тут гучыць захапленне вясновым хараством прыроднага царства, выяўляецца закаханы погляд на ўсе навакольнае. У тым ліку патрыятычная нязгасная вера ў "вяршэнства Айчыны". Дадаецца і гістарычнае адценне, бо бэз успрымаецца І. Багдановіч "як бяспечнасць, як сімвал радзінных фальваркаў, кожнай шляхецкай сядзібы належнае ўбранне". Ён нібы нагадвае, што да страчанай гармоніі ў чалавечай душы, адзінства з прыродным светам у значнай ступені дапаможа вярнуцца адзінства са сваім народам, гісторыяй, вытокамі.

Так у чарговы раз мы вярнуліся да катэгорыі гістарычнага ў творчасці паэткі. Трэба заўважыць, што настрой у І. Багдановіч вар'іруецца ў межах адной тэматыкі, вагаецца паміж смуткам, самотай і ўрачыстасцю, ён ніколі не з'яўляецца нязменным. Нельга сцвярджаць, што апошнія вершы аўтаркі ўсе ўзнёсла-аптымістычныя ў адрозненне ад пераважнага суму, тугі папярэдніх зборнікаў. Дынамічны, зменлівы, месцамі няўлоўны па танальнасці настрой стварае тую "праўду інтанацыі", што важней за "праўду факта". Паэтка шчырая ў сваіх пачуццях. Таму і суседнічаюць у яе творы элегічныя, "дажджлівыя", са светлай і бязважкай мінорнасцю, і лірыка пафасная, заклікавая, адкрыта грамадзянская, дзе экспрэсія ўзмацняецца дадаткова клічнікамі, дарэчы, нячастымі ў паэзіі І. Багдановіч. Можа, таму пры чытанні твораў паэткі не гасне надзея на лепшае, у першую чаргу на светлую, "адухоўленую" мінулым, будучыню народа, наша немінучае "выйсце з бязроднасці да радні".

**Надзея ДЗЕНІСЕНКА**

---

**ра́внык, мураве́й, мура́шнік, мурашні́к, му́рашнык, мурахаўе, ка́пец;** для баравіка: **грыб, до́бры грыб, дабра́к, до́брык, праўдзі́вы грыб, праўдзі́вік, праўдзі́вец, справядлі́вы грыб, шчы́ры грыб, харо́шы грыб, настая́шчы грыб;** для бусла: **бусёл, бу́сько, бусько́, бу́сэнь, бусён, бусёк, баця́н, буця́н, бо́цян, а́іст** і г.д.

Лексічная скарбніца Атласа дае магчымасць наглядна пазнаёміцца з асаблівасцямі тэрытарыяльнага пашырэння таго ці іншага слова, атрымаць канкрэтнае ўяўленне пра агульную панараму размяшчэння назваў самых розных рэалій на ўсім абшары Беларусі. А як вядома, вывучэнне лексікі ў арэальным (прасторавым) аспекце стварае надзвычай надзейную базу для вырашэння шмат якіх спрэчных пытанняў сучаснай беларускай літаратурнай мовы (асабліва ў справе ўдакладнення яе дзеючых нормаў) адкрывае навукоўцам шырокія магчымасці для далейшых шырокамаштабных даследаванняў у галіне арэальнай і тыпалагічнай лінгвістыкі, што з'яўляецца адным з асноўных і прыярытэтных напрамкаў у сучасным мовазнаўстве. Дарэчы, першыя вынікі навуковага асэнсавання і апісання дыялектнай лексікі, адлюстраванай на картах "Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак" у беларускай лінгвістыцы ўжо ёсць. Маецца на ўвазе калектыўная манаграфія "Лексічныя ландшафты Беларусі: Жывёльны свет" (1995), у якой аналізуецца пашырэнне назваў свойскіх і дзікіх жывёл і птушак, рыб, земнаводных і паўзуноў, насякомых, разглядаецца ўзаемнае размяшчэнне суадносных назваў, іх структура, а таксама робіцца спроба тыпалогіі ізаглос гэтых прадметна-тэматычных груп лексікі.

Безумоўна, матэрыялы Лексічнага атласа істотна папоўнілі лексічны фонд беларускай нацыянальнай мовы і стварылі надзейную базу для падрыхтоўкі ў будучым зводнага слоўніка беларускіх народных гаворак, пра які гаварыў і марыў яшчэ Яўхім Карскі. Атлас стаў надзейнай крыніцай для далейшых навуковых даследаванняў у мовазнаўстве, ён цікавы і карысны таксама для настаўнікаў, студэнтаў, школьнікаў і ўсіх, хто неабыякавы да гісторыі і культуры нашага краю, хто дбае пра захаванне спрадвечнага багацця і чысціні роднай мовы.

Аўтарскім калектывам створана фундаментальная навуковая праца, аналагаў якой няма на абшары былога СССР і значнасць якой з цягам часу будзе ўсё больш і больш відавочнай. Таму вылучэнне яе на прысуджэнне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у 2000 годзе абсалютна апраўданае і заслужанае, паколькі гэтая праца несумненна дастойная такой высокай навуковай і грамадскай ацэнкі. "Лексічны атлас беларускіх народных гаворак" працягвае лепшыя навуковыя традыцыі беларускай лінгвагеаграфічнай школы, якая здаўна высока ацэньваецца не толькі ў славянскім, але і еўрапейскім мовазнаўстве. Дарэчы, такая фундаментальная праца, прысвечаная дыялектнай лексічнай сістэме, ёсць нават не ва ўсіх краінах Еўропы. Гэта лішні раз пераканаўча сведчыць не толькі пра яе значнасць для айчыннай навукі і грамадства, але і падкрэслівае ўзровень нашага мовазнаўства і патэнцыял навукоўцаў, якія, нягледзячы на ўсе варункі грамадска-эканамічнага і палітычнага жыцця ў краіне, здольныя ствараць працы высокага міжнароднага ўзроўню і гэтым самым годна заяўляць пра нас, беларусаў, далёка за межамі свайго краю. А што гэта так, сведчаць шматлікія станоўчыя публікацыі пра Атлас за межамі Беларусі.

**Святлана ФАЦЕЕВА,**
**кандыдат філалагічных навук,**
**выкладчык кафедры беларускага**
**мовазнаўства БДПУ**
**імя Максіма Танка**

---

КНІГАРНЯ

# Каб росы былі чыстымі

Уладзімір Федасеенка вядомы як аўтар раманаў "Дубовая Града", "Віхры на скрыжаваннях", "Пасля смерчу". "Мутныя росы", што пабачылі свет летась у выдавецтве "Мастацкая літаратура" асобнай кнігай, — новы твор пісьменніка ў гэтым жанры. Праўда, паняцце "новы" — адноснае. Новы ў тым сэнсе, што раней з ім чытач не меў мажлівасці пазнаёміцца. Напісаны ж раман, як відаць з даты, пазначанай у канцы твора, яшчэ ў 1988 годзе. Шлях ад рукапісу да публікацыі быў няпростым і доўгім. Чаму так атрымалася, іншая гаворка. У дадзеным жа выпадку істотней іншае: наколькі У. Федасеенку ўдалося справіцца з багатым фактычным матэрыялам, што меў пад рукой.

Я невыпадкова адразу запыняю ўвагу менавіта на гэтым аспекце. Як пераканалі і папярэднія раманы У. Федасеенкі, ён у многім ідзе ад уласна перажытага. Біяграфія ж яго (не лішне нагадаць маладым чытачам, хто гэтага, магчыма, не ведае) надзіва багатая. Асабліва гэта тычыцца перыяду Вялікай Айчыннай вайны, калі будучы пісьменнік, у шаснаццігадовым узросце стаў актыўным удзельнікам партызанскага руху на Гомельшчыне, вайну завяршыў з высокай урадавай узнагародай. Ды і пасля вызвалення роднай Жлобіншчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў знаходзіўся ў гушчыні жыцця. Шматлікія назіранні і ляглі ў аснову раманаў.

Праўда, той хто добра знаёмы з "Дубовай Градой", "Віхрамі на скрыжаваннях" і раманам "Пасля смерчу", лёгка заўважыць, што новы твор У. Федасеенкі пазбаўлены той аўтабіяграфічнасці, якой напоўнены першыя тры. І асабліва раманы "Дубовая Града" і "Віхры на скрыжаваннях". Зноў жа, не будзем высвятляць, добра гэта ці не ў дачыненні да творчасці У. Федасеенкі, але відавочна, што, даючы свабоду творчай фантазіі, аўтар атрымаў магчымасць для большай самастойнасці ў развіцці сюжэтных хадоў і калізій, не кажучы аб выбары персанажаў.

Гэта тычыцца і галоўнага героя рамана Андрэя Сіроткіна. Андрэй — з тых, хто ў маладым узросце ваяваў з гітлераўцамі. Партызаніў, а завяршыў вайну ў Германіі. Нарэшце, вяртаецца ў родныя мясціны, у вёску, дзе прайшло маленства. Ні бацькоў, ні малодшай сястры ў жывых няма, а старэйшая жыве далёка ад Беларусі. Даводзіцца спыніцца ў блізкіх людзей і па сутнасці на голым месцы пачынаць новае жыццё, а правільней — вяртацца да жыцця мірнага, ад якога паспеў адвыкнуць і якое шмат у чым палохае сваёй невядомасцю, няпэўнасцю. Ва ўсім трэба разабрацца самому. Яшчэ цяжэй разабрацца ў людзях, каб зразумець не толькі хто ёсць хто сёння, а і адчуць, як той ці іншы чалавек паводзіў сябе ў гады акупацыі, чым займаўся, бо след мінулага, у чым Сіроткін хутка пераканаецца, цягнецца і ў дзень сённяшні.

Сюжэт не сказаць, каб вызначаўся арыгінальнасцю. Наадварот, ён у многім традыцыйны. Асабліва, калі прыгадаць творы, што з'яўляліся ў пасляваенны час, калі пісьменнікі, пераважная большасць якіх і самі вярнуліся з франтоў, спяшаліся расказаць аб тым, як аднаўляецца разбураная ліхалеццем гаспадарка. У А. Федасеенкі была небяспека ў нечым паўтарыцца. Але так не атрымалася. Гэта вынік грамадзянскай пазіцыі аўтара рамана, яго жаданне сказаць праўду пра той час. Але гэта і сведчанне тых ачышчальных працэсаў, што адбыліся ў грамадстве ў момант напісання "Мутных росаў". Прыйшла пара сапраўднай праўды і гэтая праўда дамінуе на старонках твора.

Уладзімір Федасеенка імкнецца аднолькава аб'ектыўна ставіцца як да паказу пасляваеннага жыцця беларускай вёскі, так і тых падзей, што адбываліся ў ёй пазней, калі адбыліся пазітыўныя зрухі ў палітычнай сітуацыі ў краіне. Разам з тым у рамане важнае месца займаюць і нясуць вялікую нагрузку рэтраспекцыі. Андрэй Сіроткін, наколькі здатны на гэта, спрабуе разабрацца ў не такіх і далёкіх падзеях. Тым больш, што для гэтага ёсць і асабістыя падставы. Галоўнаму герою рамана карціць высветліць, хто навёў фашыстаў на яго сям'ю, а ў выніку маці Андрэя і яго малодшая сястра былі забіты, а ён сам толькі цудам уратаваўся.

Праўдзівыя, пераканаўчыя і тыя старонкі твора, у якіх расказваецца пра жыццё вяскоўцаў у першыя пасляваенныя гады. Пісьменнік не адыходзіць ад праўды, калі паказвае, як безгаспадарчасць, цяжкае матэрыяльнае становішча станавіліся вынікам абыякавага стаўлення кіраўніцтва да абавязкаў, ускладзеных на іх. Панавалі п'янства, усёдазволенасць. Шкада аднак, што асобныя з персанажаў усё ж пададзены эскізна. У большай ступені гэта тычыцца старшыні калгаса Максіма Збуйчыка, а яго вобраз даваў падставы разабрацца, наколькі безыніцыятыўны чалавек, акружаны прыхваснямі, а некаторыя з іх, як высвятляецца пазней, у гады вайны былі здраднікамі, сам становіцца на шлях злачынства.

Затое цікавым, шматгранным атрымаўся вобраз Цераха — аднаго з вяскоўцаў, якія з'яўляюцца сапраўднымі гаспадарамі на зямлі. Але Цераха, як і іншых, ад гэтай зямлі спрабавалі адлучыць. Як і многіх, яго абвінавацілі ў неіснуючых грахах, аб'явілі "ворагам народа". Ды не зламаўся чалавек, выстаяў. І не затаіў зла на савецкую ўладу. У гады вайны застаўся сумленным. А калі прыйшло чаканае вызваленне, таксама не застаўся без справы. На прыкладзе Цераха У. Федасеенка яскрава засведчыў, што вёска моцная менавіта такімі Церахамі — людзьмі, якія не прамаўляюць гучных слоў, не клянуцца ў любві да зямлі, а праносяць яе ў сэрцы праз усё свядомае жыццё.

Ёсць у рамане яшчэ адзін, калі можна так сказаць, літаратурны герой. Гэта — непаўторная беларуская прырода, з якой зНітаваны некаторыя персанажы твора. І ў першую чаргу сам Андрэй Сіроткін. У дадзеным выпадку, несумненна, У. Федасеенка ішоў ад уласнага вопыту, ад асабістых назіранняў. Ён любіць пахадзіць са стрэльбай і сапраўднае задавальненне атрымлівае не толькі ад упаляванай дзічыны ці птушкі, а і ад таго, што дакранаецца падчас гэтых вандровак да нерушавасці лесу, пералескаў, лугоў. Таму гэткія хвалюючыя ў творы мясціны, дзе ўзнаўляецца хараство наваколля, гаворыцца пра раслінны і жывёльны свет.

Ды і назва рамана з'явілася невыпадкова. Яна — сведчанне той трывогі, якая не пакідае сэрца пісьменніка, калі ён бачыць, як прырода знішчаецца, забруджваецца. Дайшло да таго, што раса ўжо не срабрыстая, як было спакон вякоў, а нейкая мутная. З роспачу Андрэй Сіроткін прамаўляе: "А гэта ж людзі кажуць, раса і сляза — няма большай чысціні. Напэўна, і ў нас хутка будуць капаць слёзы атручаныя. Так, кнігаўка, цяпер канькай, прасі Бога, каб ачысціў тыя кроплі вадзіцы, што сыпануў ён некалі на зямлю сваёй старэнькай рукою. Разумны чалавек тады, напэўна, яшчэ не існаваў, калі пад наглядам Бога птушкі і звяры капалі возера для ўтрымання вады. Цяпер жа па загадзе бога-чалавека ён сабе капае. А якую ямку выкапае ў вечнасці, гэта будзе відаць, можа, і смертаносную".

Галоўны герой прыгадвае легенду, паводле якой, "Бог некалі сабраў усіх звяроў, птушак і сказаў: капайце возера і вам заўсёды будзе дзе наталіць смагу, папіць". Усе адгукнуліся на просьбу Бога, адна кнігаўка адмовілася, спаслаўшыся, што гэта цяжкая работа. Таму, калі возера было выкапана, і не дазволіў Бог кнігаўцы піць з яго ваду. Але пасля "злітаваўся, пашкадаваў птушку. Узяў жменьку першароднай чысцюткай вадзіцы і рассеяў навокал. Так з тае пары кнігаўка і збірае расічку".

Каб росы былі чыстымі — гэта думка набывае глыбокі падтэкст. Чыстыя росы — квітнеючае жыццё на зямлі. А яно магчыма, калі на ёй будуць сапраўдныя гаспадары, у тым ліку такія, як Андрэй Сіроткін, Церах з рамана Уладзіміра Федасеенкі.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

## "Явар і каліна"

**Кожнае новае выданне твораў народнага песняра Беларусі Янкі Купалы — яшчэ адна магчымасць увайсці ў дзівосны свет, створаны фантазіяй таго, хто, заявіўшы аб праве беларусаў "людзьмі звацца", стаў**



**выказнікам народных дум. Але ў мастакоўскай спадчыне Я. Купалы адметнае месца займаюць і вершы аб каханні, чысціні чалавечых пачуццяў, аб тым, што роднiць душы ці, наадварот, сваёй няспраўджанасцю прычыняе боль. Кніга Я. Купалы "Явар і каліна", выпушчаная выдавецтвам "Юнацтва" (нельга не пагадзіцца з яе ўкладальнікам Сяргеем Панізнікам), — "ці не першая спроба сабраць у адзін томік пяшчотныя ўзоры самага патаемнага: тыя паэтычныя строфы, якія тычацца толькі дваіх, дзе выяўлены аўтарам непаўторныя часцінкі быцця". А перш чым далучыцца да Купалавай лірыкі кахання, юны чытач (зборнік у першую чаргу адрасаваны дзецям сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту) пазнаёміцца з уступным артыкулам Любові Тарасюк "Быў гэта сон..." Л. Тарасюк у пачатку артыкула піша: "Даўно заўважана, што лірыка кахання — адна з самых складаных галін літаратурнай творчасці, у якой мастацкая індывідуальнасць паэта можа ўвасобіцца з найбольшай сілай і выразнасцю, а творчая пасрэднасць выяўляецца занадта відавочна. Кожны раз, калі пішуцца радкі "пра гэта", паэт нібы ўзыходзіць на рынг рыцарскага турніру, дзе супраць яго выступаюць творцы тысячагадовай гісторыі прыгожага пісьменства. Вядома ж, гэты паядынак не смяротны, але "дыскваліфікацыя" ў некаторых выпадках непазбежная. Прычым адзіным правілам на турніры можа быць хіба толькі рыцарскі кодэкс, а ўсё астатняе: светаадчуванне і стыль эпохі, нацыянальны тэмперамент і эстэтычны густ паэта — велічыні непастаянныя, зменлівыя, што засцерагае ад бясконцых паўтораў у творчасці. З гэтай сістэмы каардынатаў выключаецца толькі адно: фальш. Бо кожны чытач нібы прымервае слова паэта да сябе, да ўласных пачуццяў і настрояў, таму і не прымае не перажытага самім творцам або занадта "зашыфраванага, прыватнага — альбомнага". Разгляд Купалавай лірыкі кахання і вядзецца з улікам згаданых аспектаў.**

**У выніку Л. Тарасюк прыходзіць да высновы: "У лірыцы кахання Янка Купала ўвасобіў найбольш уласцівыя яго паэзіі якасці і кірункі творчага развіцця. Мастацкая эвалюцыя паэта акрэсліваецца ў напрамку ад народна-песеннай стылістыкі да больш складанага і шматграннага эстэтычнага досведу рамантызму: на шляху распрацоўкі жанравых формаў песні, рамансa, балады, паэмы, элегіі". Раздзел "Роздум, згадкі, успаміны" — слова пра тых жанчын, якія ў жыцці песняра занялі вялікае месца ("Спадарожніца Купалы", "Паэт і паэтка" Людмілы Давідоўскай, "Купаліха" Сяргея Грахоўскага, "Паўліна, Паўлінка, Жураўінка" Алеся Марціновіча), а таксама слова асобных з іх (верш Канстанцыі Буйло "Звон", яе ж успамін "Вялікая дружба" і згадкі Юліі Бібілы "Старонкі памяці"). І як дапаўненне — артыкул Сяргея Панізніка "Адрасаты любові". Увогуле, трэба адзначыць, што С. Панізнік чарговы раз (услед за штогоднікамі "Бацькаўшчына", за тэматычнымі зборнікамі пра многіх знакамітых беларусаў) засведчыў, як можна заставацца першаадкрывальнікам і там, дзе, здавалася б, шмат вядомага. А наконт саміх Купалавых твораў пра каханне... Іх трэба чытаць, набыўшы гэты цікавы зборнік, які, несумненна, хутка знойдзе сваіх чытачоў.**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

## ПАЭЗІЯ

Сяргей ПАНІЗНІК



### Радаводныя вытокі

*Праз туманы чадзіла*
*маленства і мяне.*
*Няма "малой" радзімы*
*на Волце, на Дзвіне.*

*І колькі ні хадзіў бы,*
*ні разграбаў бы дым, —*
*няма "малой" радзімы*
*на беразе крутым.*

*Не залацiны — льдзіны*
*ўпіваліся ў мой лёс.*
*Няма "малой" радзімы...*
*А што ж бацян прынёс?*

*Не ціну на вудзільна*
*мне выветрыў з-пад зор, —*
*вялікую Радзіму,*
*агромністы дазор.*

*На кузлачкі-паветы*
*шнуруецца зямля;*
*ўзрадзіліся паэты*
*з-пад дзіўнага камля.*

*Вытокі радаводаў*
*нязбытна нам люляць.*
*Хай у падкрыллі годаў*
*радзімачкі баляць...*

*Запалены кадзільні*
*над спадчынай жытла.*
*Была малой радзіма,*
*а з намі — узрасла.*

*І стане абнадзейнай,*
*зямлёй не на пастой, —*
*Айчынай непадзельнай,*
*Вялікаю, Святой!*

### Акорд суайчыннасці

*Я перад вамі ў поўным зборы.*
*Што Бог паслаў — усё са мной:*
*у памяці Лявонпаль, Мёры*
*і вочы продкаў над Дзвіной.*
*Я перад вамі не прамоўца*
*ад вертыкальнага звяна.*
*Уся мая улада — слоўца:*
*паэта сіла і віна.*
*Мне разам з вамі несці службу*
*пасля абедні ці імшы...*
*Не ачарсцвеем! Скінем лушпу*
*з натомленай сваёй душы.*
*Прасветлена нам угледацца,*
*сугучча ў сэрцы ўжыўляць,*
*з людзьмі і зоркамі вітацца,*
*людзей да зорак прытуляць.*
*Я — перад вамі, вы — са мною:*
*мы — суайчыннасці акорд!*
*А жыць з лявонпальскай струною —*
*з крыніцы піць, плысці Дзвіною,*
*любоў вяртаць у родны порт.*

### Постаць

Стэфан Баторый
*(27.9.1533, Шомлё, Румынія — 12.12.1586, Гародня)*

*Для Баторыя ў Гародні*
*горды замак вострыць вежы.*
*Тут — яму! — усё належыць:*
*сэрцы верныя, паходні*
*і кагорты на паверцы...*
*Рана прызначаць хаўтуры...*
*Княжа наш Сцяпан Батура*
*узыходзіць на каберцы.*
*Паспаліты люд не ў крыўдзе.*
*Ваяводы не ў абозе.*
*І Айчына не ў знямозе...*
*Час такі*
*калі*
*зноў*
*прыйдзе?*
*Свежым вокам пільна сочыць,*
*а руку ўзлажыў на шаблю:*
*— Я і ворагаў прываблю, —*
*мір змагу ім напрарочыць!*
*...Адышоў. А жыў не марна.*
*І пад Полацкам, Дзісною*
*прарастуць сляды вясною.*
*Выйдзем свежай баразною —*
*годна, горда, гаспадарна —*
*на дзяржаўныя прасторы,*
*дзе чутны вякоў паўторы:*
*— Сойм!*
*— Статут!*
*— Стафан Баторый!*

### Шлях з Грэкаў у Варагі

*Два шатры, мяжа-карага*
*у сутоцы рэк...*
*Тут пачаў двубой з Варагам*
*гарбаносы Грэк.*
*— Супрацівец-недарэка! —*
*юшыцца Вараг,*
*да Сар'янкі цісне Грэка:*
*— Каб на дне ты спрах!*

*Сунуў Грэк руку да рака:*
*— Памажы, браток,*
*і сусед мой, забіяка,*
*грымне на грудок...*

*Цуп за палец рак — і Грэка*
*валачэ на шлях.*
*Там*
*кляшнёю*
*Грэк той*
*з крэктам*
*па Варагу — бах!*
*...На сутоках байкі-страхі*
*між людзей жывуць.*
*Шляхам з Грэкаў у Варагі*
*усю Дзвіну завуць.*

### Сплывае вада

*"Наш адрас не дом і не вуліца..."*
*Знаёмцы з абшараў зямлі*
*дагэтуль у сэрцайку туляцца:*
*с в а ё  паказаць мне змаглі!*

*І дом іх і вуліца помняцца,*
*іх водгулле мовы — са мной...*
*Суцэльнай нічыйнасці конніца*
*прайшлася атакай скразной.*

*Успомню праполку ранжырную:*
*адметныя рысы — на злом...*
*Не дружбу, а службу рэжымную*
*люляў у калысках мой дом.*

*Сплывае вада... Небатрацкую*
*знаёмцы гадуюць душу.*
*Іх пошту — адрозную, брацкую —*
*на вясніцах я калышу.*

### Удаджаваны Вавель

*Над Польшчаю — дажджоў аблавы.*
*Прыпынак у сталіцы славы.*
*Скульптуры Вавеля... Выявы*
*не ачужэлыя і мне.*
*Тут сам Ягайла ў вечным сне —*
*у саркафагу, бы ў чаўне.*
*Калі б ішоў Францыск Скарына*
*залеўнай гэтаю парой, —*
*змакрэла б гордая чупрына,*
*не стаўбурылася б гарой...*
*Нібыта Ной, лічу я ў морак*
*бажніцаў зыбкія кліны.*
*З іх землі нашыя вiдны?*
*З іх азываюцца мне хорам*
*і беларускія сыны.*
*Змакрэлі гордыя званы,*
*але варушацца і яны...*
*Так многа конных, многа пешых*
*тут угрэбавана людзей.*
*У ліхтарах бліскучы, свежы*
*каронны Вавель мые вежы...*
*І сам я ў кракаўскім пачлежжы —*
*нібыта рыбіна ў вадзе.*

### Сцяжына

*З табой у нас Вялікая Айчына:*
*народжаныя ёю — ты і я.*
*А дзе сцяжына,*
*мая сцяжына,*
*сцяжынка незарослая твая?*
*Шукаем шлях — і колецца ажына.*
*Любоў дарогу зменшыла ўдвая.*
*Заве сцяжына,*
*мая сцяжына,*
*сцяжынка паўзабытая твая.*
*Жыццё — тугая звонкая спружына.*
*Да ростаняў сыходзімся здаля.*
*Вярні, сцяжына,*
*дахаты сына:*
*сыноў чакае слынная зямля.*
*Тут падрасла арэшына-ляшчына.*
*Тут голас мамы — голас ручая...*
*Жыве сцяжына,*
*мая сцяжына,*
*сцяжына запаветная твая!*

## ПРОЗА

СТАРЭЙШЫМ заўсёды здаецца, што свет для маладзейшых могуць направіць толькі адны яны. Не, тыя зробяць гэта самі і папракнуць старэйшых. А потым тое ж самае будзе і з імі, калі прыйдуць новыя маладыя.

●

Да яго сакаўнога мату, што гучна вярэдзіў перадвечаровую вуліцу дачнага "шанхая", вельмі ўдала лучыўся і стары балоневы плашч мікітахрушчоўскага часу.

●

Як улагодзіць высокае начальства, вядома яшчэ з часоў "пацёмкінскіх вёсак". Калі будзе ехаць гэны высокі з Масквы, паставяць і нават пафарбуюць новыя платы, пакрыюць новым шыферам дахі, а ў хату, куды "захочацца" госцю зайсці, і свежы дыванок пасцелюць, і пляшачку з мёдам ды вяндліну пастаяць: частуйся, госцейку, жывём, як бачыш, не тое што прыстойна, а заможна. Дыванкі тут жа пасля госця згорнуць і адвязуць свайму тутэйшаму начальству.

Згадалася мне, як у войску да прыезду нейкага генерала падмяталі і пасыпалі жоўтым пясочкам кожную сцяжынку ў тым задрыпанскім лесе. Эх, няўжо тыя высокія, такія ўжо дурні, думалася тады ў лесе, што могуць і граблі прыняць за пеўня?

●

П'ер Кюры — французскі фізік, адзін з аўтараў вучэння аб радыеактыўнасці — загінуў у Парыжы пад коламі экіпажа. Як вынікае з дзённікаў вучонага, такую смерць прадказала яму жанчына, хутчэй за ўсё цыганка. Цікава, ці папрасіла за гэта грошы? Хацелася б забегчы наперад і папярэдзіць вучонага: "Не рабі гэтага. Уцячы ад варажбіткі".

Паважаю цыганак, якія спакушаюць сваёй чорнай, спапяляючай да вугалю агністасцю, і нават тых, што моляць "пазалаціць ручку". Здзіўляюся тым, хто просіць, каб яму паваражылі. Ці так ужо важна, што чакае цябе наперадзе?! Лепш гэтага не ведаць.

●

За кубкам густавата-духмянай кавы і чарчынай нашай крышталёвай горкай доўга прасядзелі ў майстэрні Каміла Камала. Ён — азербайджанец, нарадзіўся ў Грузіі, вучыўся ў Расіі, а жыве ў Беларусі. Вось і яшчэ адным вачыма гляну на гэты свет. А ў ім, свеце, як і большасць з нас, ён шукае дабрыні і на яе абапіраецца. Уразіла мяне і лінія на ягоных малюнках. Яна — лятучая, віртуозная, няўлоўная і непадказальная. З яе не трэба матаць клубкоў і вязаць вузлоў. Ёй трэба лунаць у прасторы вольна і ярка, як павуцінцы ў бабскае лета.

●

Не варта расслабляцца птушцы н[illegible] падлёце да роднага гнязда — там мож[illegible] чакаць і небяспека. Але пра гэта птушцы не скажаш.

●

Яго ідэя часта "превращалась в девиз", а ідэя гэнага часцей за ўсё "превращалась в девиц". Шануйма і такі дэвіз. Ён жа небязыдэйны.

●

На прыёме ў партыйныя кандыдаты адзін з тутэйшых "пралетарыяў" здарава-такі вымуштраваў мяне па нейкім там партыйным з'ездзе, а потым задаволена пацiраў рукі:

— Я вот университетов не кончал, но...

Як зразумеў я, гэты чалавек, як і шмат хто з яго калег, многа чаго пачынаў, але ніколі "не кончал".

●

І сённяшняя бюракратыя, хоць і сядзіць у старых акопах, але пачувае сябе даволі-такі надзейна.

●

Бяда, перш чым адправіцца да чалавека, часта паслом да яго накіруе прадчуванне, а потым і сама прыйдзе.

●

Многае пачынае выслізгваць з памяці, забывацца. Ці не пара пісаць мемуары?! Іх жа, па словах Г. Маркеса, пісьменнікі пішуць тады, калі ўжо нічога не памятаюць.

●

Непасрэдны начальнік пасрэднага падначаленага думае толькі аб адным: як пазбавіцца ад апошняга ці ў лепшым

Казімір КАМЕЙША

# ПАМІЖ КУБКАМ І ВУСНАМІ



выпадку зрабіць з яго шэрага паслухмянца-даносчыка.

•

Жыццё кароткае. Яго не надточыш нават доўгім рублём.

•

Вясна зноў прыйшла з холадам, нават маразамі. Прычым, не толькі ў прыродных стасунках. Ці вясна гэта? У нябеснай канцылярыі пра тое нічога не кажуць.

•

Каля 1490 — каля 1551. Гэта пра нашага Генія нацыі. Але як трывала каля гэтых "каля" пачувае сябе слова "навечна".

•

Ад усяго, чаго ты не хацеў бы бачыць, не пазбавіцца адным заплюшчам вачэй.

•

Тыя нашы паэтычныя хлопцы на пачатку веку прагнулі "песень Асінбуда", "краю фабрык дымных і машын". О, як усё далёка зайшло! Мы напрыканцы веку клянём тыя машыны ды фабрыкі, шануючы, вядома, саміх хлопцаў. Бо для нашага паэтычнага шчасця нават рачулкі чыстай не засталося.

•

Хваляцца самі заўсёды найперш тыя, каго не хочуць хваліць іншыя. Калі ўжо ніхто, дык сам сябе.

•

Прыгадалася: "Ці багат ты, заццюхна, ці багат?" Сёння гэта пытанне часцей за ўсё адрасуюць цесцю ды цешчы.

•

Амаль ва ўсіх газетах рэкламуецца чыясьці кніга лірыкі "Интимный разговор". А ўжо з самой рэкламы відаць, што "размовы" там ніякай не атрымалася.

•

Спакуса чытаць часта перамагае спакусу пісаць. А калі да гэтага яшчэ дадаюцца і графаманскія рукапісы, тады... даруй і чакай, пяро.

•

У дзяцінстве ці мала наслухаўся пра абнаўленне абразоў. Бацьку майму верыць у тое не хацелася. Знекуль прынёс ён чутку, што абраз можа абнавіцца, калі нацерці выяву святога цыбулінай. Неяк і сказаў разгневанай маці:

— Вось зараз я табе пакажу, як абнаўляюцца абразы.

Цёр-цёр сырой цыбулінай святы абраз, але той не абнавіўся, толькі ледзь пасвятлеў. Маці ў гэтым выпадку была пераможцай.

І вось чытаю нядаўна ў друку, што ў саборы Народзін Багародзіцы ў Глыбокім заплакала ікона. З вока святой Афонскай Багародзіцы быццам бы выцекла сляза. Цуд, вядома. Але павер у гэта, калі сам не бачыў. Цуды, калі і здараюцца, дык заўсёды чужымі вуснамі і вачыма.

•

На тым людным замежным рынку купіў ён амаль "за так" модную шапку "пад дэ Голя", з нейкім чужым надпісам над брылём. Францію ў ёй па вуліцах і не разумеў, чаму гэта рагаталі сям-там, пparticularly...

•

"Хто ў лесе не злодзей, той дома не гаспадар". Прымаўку гэту пачуў ад самога лесніка. Мудра, але жорстка. А хто ж у лесе гаспадар? Нават не той, хто някепскі гаспадар дома. Бракуе яму гаспадара, нашаму лесу.

•

Слыў ён у вёсцы не то назолай, не то шустрачком, якія "доўга не чыкаюцца", — калі не ўпадабаецца хто, тут жа і па вуху можа ўрэзаць. А сам "нягегліца той, зморак нейкі". А калі давалі здачы, адразу адыходзіў убок, падымаў з зямлі памяты блінок шапкі і адразу на жарты: "Во людзі пайшлі: у морду дасі, дык біцца лезе". Самога за тую ж задзірыстасць недзе да смерці ўкалечылі, даўно няма ў жывых, а жарт застаўся.

•

Барадой, як і лысінай, мудры не будзеш. Але ёй можна кампенсаваць хаця б тую ж лысіну.

•

Пасля жудаснага летняга ўрагану едзем з братам у Стоўбцы. Па ўсёй дарозе, пачынаючы ад Гуменаўшчыны, — паваленыя, на камлі паламаныя дрэвы, паўздзіраныя стрэхі, скрозь друз разбітага шыферу, дзе-нідзе асколкі яго тырчаць з зямлі.

Але найбольш уразілі Стоўбцы. Цэнтральны сквер з векавымі дрэвамі быў спляжаны, як сякерай. Толькі адзін "нясмяротны Ільіч" стаіць сабе на пастаменце цалюсенькі і нечапаны. Вось дык закараніўся. Ды яшчэ плошчу расцерабіў сабе для кругагляду.

•

Чалавек выглядаў няўклюдна. Цень гэтай няўклюднасці быў і на твары і адчуваўся нават у паходцы.

— Ну і боўдзіла нейкі, — так, відаць, сказаў бы Георгі Шыловіч. Гэта яго любімае слова.

Гляну я ў наш тлумачальнік: "Боўдзіла — чалавек разумова адсталы; недарэка". Чую ад Шыловіча і пра этымалогію таго слова. А гэта, кажа, палена, якое прывязвалі мядзведзю на шыю, калі вучылі танцаваць. Такое боўдзіла змусіць любога мядзведзя скакаць нават без гарачай скаварады. Яно і змушала. Паспрабуй павярніся не так — тут жа атрымаеш у макджэр. Слова прыйшло са Смаргоні, з мядзведжай акадэміі.

•

Пачалі пакрысе забывацца словы, з якіх некалі клеіліся ўсе размовы ды параўнанні: "А да рэвалюцыі было..." І згадаўся адзін з яшчэ незабытых жартаў.

У старога кіргіза карэспандэнт пытаецца:

— Бацька, як вы жылі да рэвалюцыі?

— О, як я жыў! Раніцой прачнаюся, саджуся на каня і еду, еду, еду...

— А што вам дала рэвалюцыя?

— А рэвалюцыя, сынок, паставіла мяне на ногі. Цяпер я раніцой прачнаюся — і іду, іду, іду. А каб ведаць хоць, — куды...

•

— Гэта твая мама? — пытаюцца ў тралейбусе ў чатырохгадовай дзяўчынкі.

— Не, гэта мая бабуля, але яшчэ маладая, — адказвае тая.

•

Старшына роты, куды мяне накіравалі пасля сяржанцкай школы, ледзь не сябрoўскім ладам запрасіў пакатацца на камандзірскім "бобіку" па Маскве — балазе, шафёр камандзірскі быў з той жа роты. Толькі мы разагналіся на шырокай новай вуліцы ў Ізмайлаве, як кіроўца рэзка тармазнуў. І адразу пабялеў ягоны твар. Пляснулася вобзем, адскочыўшы ад бампера, дзябёлая маладзіца. Выскачыў старшына, падхапіў яе за рукі, падняў з асфальту. Дзякаваць Богу жывая, здаровая, цэлая. Злосна пачала біць пяць рукамі спадніцу. Старшына ўсё яшчэ падтрымліваў яе за плечы.

— А не родзіш хоць да часу? — пажартаваў ён на вуха маладзіцы.

— А ідзі ты! — піхнула яго маладзіца і, пакульгваючы, падалася далей ад машыны. Засмяяліся нават мы, блізкія ад бяды.

•

Час зусім не ведае, што ўслед за ім, не наступаючы на пяты, ходзяць самыя мудрагелістыя гадзіннікі. Ён не ведае, што ўсім ім некалі спатрэбяцца майстры з сіняй лупай на воку. А ён, Час, не прызнае ніякіх майстроў, хоць заўсёды знойдуцца адзін-два, якія захочуць зынячыць і яго. "А дулю вам, — кажа Час, — на кожнага з вас я заўсёды маю тры жмені забыцця ў выглядзе жоўтага пясочку".

•

Стары беларус пытаецца ў новай беларускі:

— А яйкі ў вас ёсць?

— А вы як думаеце?

— Думаю, што няма.

— Дык перш чым пытацца, падумаць трэба.

•

Па тэлебачанні выступае стары акцёр Веснік. О, як прытворна, але праўдападобна імітуе ён чужую паходку. Артыст ёсць артыст. Памятаю, некалі ў школе мой матэматычна схільны аднакласнік дапякаў мяне за маю паходку: "Ідзеш, як быццам кланяешся налева-направа". Я крыўдаваў на яго за тыя дапёкі. Ды як ні намагаўся, калыхастая паходка так і засталася. Нават войска не направіла яе. Але ці трэба папраўляць тое, што спланавала сама прырода?! Вунь і ў яе самой мы столькі панавыпраўлялі, што яна і на сябе часам не падобная.

•

"Ён прамаўляе вуснамі Бога", — гэта сказана пра паэта так сабе, сярэдняга. "А хай бы ён прамовіў што-небудзь сваімі вуснамі," — падумалася між іншым.

•

Слухаю тэледыктара і пацяшаюся з яго "ляпаў". "Напруджаны час" — прамаўляе ён. А гаворка ж ідзе зусім не пра нейкі пруд, а пра напружанне. Што ж тут прудзіць?! І слова "баліць" у яго гучыць як "бáліць". Боль стаўся балем. Вось такія кветачкі...

•

Халаднаватае прадвесне... Ціхая, шэрая, сумная вёска, як і пабітае проталінамі поле. Вірлівая ланцуговасць ручаёў па каляінах і адталая гразкаватая зямля на градах. Сумная мітусня прастуджаных зацяглай зімой птушак. Суму да вясковай шэрасці дадае і конь, што падае на лёд проста ў аглоблях. Паслізнуўся, небарака. Каму сёння дбаць пра тыя вухналі ды падковы?

Яшчэ далекавата да моцнага сонца, але ўсё на душы ўлагоджвае салодкая кропля кляновіка, які паволі, быццам высільваючыся, капае ў сасмяглы слоік.

•

Доўгі халат гарбачоўскай і ўсіх іншых перабудоў так і не схаваў закарэлую татуіроўку застойнасці.

•

Ліст дрэва, як і медаль, мае два бакі: калі на адным раскашуе дзень, на другім цярпліва спачывае ноч.

•

Усю тую маскультуру лацвей было б назваць масавым бескультур'ем.

•

Аўтар прызнаецца: "В каком-то смысле вещь эта автобиографична". І хочацца запытацца: "А в каком?" Ды і "смысла" тут ледзьве-ледзьве відаць.

•

Халодны, з начнымі маразамі май. Курчацца, чырванеюць лісты на клёнах, пчолы не вылятаюць з вулляў, не чуваць і птушынага спеву. На яблынях даўно намецілся цвет, але выбухнуць яму ўсё яшчэ замінае холад. Халодная дзі і сухая зямля. Сёння нарэшце задажджыла. Дождж украпісты і па-восеньску назойлівы, сячэ цалюткі дзень. Пасвяжэла ў вачах ад перамытай халоднымі струменямі зеляніны. А душа, што халаднавата ўдыхнула чаканай свежасці, просіць цяпла і сонца.

•

Тысячы інстытутаў, мільёны навукоўцаў, незлічонства здагадцаў і прарокаў нічога не варты перад адной кропляй таямніцы прыроды. Адной кроплі загадкі хапае на тысячагоддзі прыблізных адгадак.

•

Думка, як і залётная птушка: калі яе не схопіш за хвост, яна тут жа можа і знікнуць назаўсёды.

•

Некалі ў адным заходнім гарадку пазнаёміўся з даволі-такі вабнай паненкай. Пайшлі на "пшэхацку" ў тутэйшы парк. І павяла мяне туды, куды звычайна водзяць гасцей афіцыйных — да помніка воінам апошняй вайны, да вечнага агню. Але агню не было.

— Салярку не падвезлі, — кажа паненка, — таму не гарыць.

Як шмат не хапае для моцы памяці нашай, падумаў я. З-за нашай беднасці хутка згаснуць і нашы вечныя агні. Толькі б не згаслі тыя вечныя, пра якія пісаў паэт, тыя, што паляць нашы маці ў родных печах.

•

У сваяка пабачыў пад павеццю цэлы склад самых розных жалязяк, той непатрэбшчыны, якой па лясах цяпер валяецца незлічонае мноства, як пасля вайны. Вяртаецца хлопец з грыбоў і валачэ нейкую там упадабаную цацку. Навошта? "Ат, няхай будзе, есці не просіць".

•

Мой сухатвары смешнаваты зямляк можа выпіць і добрую чарку, ніколі не закусваючы. Толькі сплюне сабе пад ногі, а то яшчэ закурыць. І дзіўна, колькі ні вып'е, ніколі не п'янее. "Варажбу я такую ведаю, — кажа, выціраючы вусны, — ніякі чорт мяне не возьме, дый закуска цяпер дарагая".

•

Паэтычная публіцыстыка старэе вельмі хутка. Устарэла і гэта паэтычная задачка:

Мы говорим Ленин — подразумеваем Партия,

Мы говорим Партия — подразумеваем Ленин.

•

Лёс наш складзены ледзь не цалкам з лесу. З яго — і хата, і цяпло, і лучына, каб не цёмна было, і папера, каб не цёмнымі былі, і схова ад смерці ў часе вайны, і многа-многа чаго іншага. Калыска, ложак і труна — тры сімвалы чалавечага жыццёвага кругазвароту — з лесу. І тут, у горадзе, чалавеку лясному так прыемна ад кожнага сустрэчнага дрэва.

•

Яшчэ адзін тып ці тыпус. Нядаўна ён схамянуўся, што не паспеў адпомсціць Таму, бо Той паспяшаўся пакінуць гэты свет.

•

Калі б растаямнічыць усё тое, што забірае з сабою на той свет хоць адзін чалавек, былі б намнога мы сёння і багацей, і мудрэй, і...

•

Паэтычны пераклад, як і вандроўка на аўтамабілі па чужым горадзе: хоць і ведаеш правілы руху, але адчуваеш сябе няўпэўнена.

•

На яшчэ свежым вогнішчы лёгка з сіне-зялёным вымігам агніліся вугалькі. Іх раздзьмухваў вятрэц, што нібы крадком час ад часу набягаў з прыбярэжнага кустоўя. Гэта ўсё ён бачыў з вакна машыны, дзе курчыўся і не змог заснуць ад холаду. Хмель пацішу і маркотліва-шчымліва пакідаў яго галаву, і тут жа зноў вярталіся старыя і дакучлівыя думкі пра дом і пра разлад у тым доме.

•

Партрэты Сталіна на ветравым шкле аўтамашын. Гэтага некалі нагледзеўся ў Абхазіі. Сёння ж сумна насміхаюся ўжо з іншага: са страхавых цыдулак на ветравым шкле аўтамашын нашых. І бярэ нават страх за такую страхоўку.

(Працяг на стар. 12)



вядомы спеўны калектыў: хор Беларускай акадэміі музыкі. Будучыя харавікі-дырыжоры, а пакуль студэнты суровага і слыннага маэстра, прафесара Віктара Роўды, відавочна, не імкнуліся строга адпавядаць канцэпцыі фестывалю. Як і падчас леташняга выступлення ў Нясвіжскім касцёле, спявалі разматы канцэртны рэпертуар, паўтараючы самыя эфектныя нумары. Гучала і праваслаўная музыка Архангельскага, і хоры рускіх класікаў, і дзве беларускія песні, і гарачая грузінская скарамоўка, і дзявочыя прыпеўкі, і шлягер пра "П'яную вуліцу", і свінгавы Эмерсан.

Госцем нясвіжскіх музаў быў знаны філарманічны ансамбль старадаўняй музыкі "Кантабіле" (мастацкі кіраўнік Г. Гедыльтэр), першаадкрывальнік "Полацкага сшытка" і прадаўжальнік адраджэнскай традыцыі ў цяперашнім рэпертуары: Ян Голанд, Мацей Радзівіл...

Гасцююць на музычным фестывалі і мастакі. Сёлета ў фае Цэнтра культуры і адпачынку экспанаваліся малюнкі студыі пры Мазырскім нафтаперапрацоўчым заводзе, у якой пад кіраўніцтвам Святланы Купрыянавай займаюцца таленавітыя дзеткі-чарнобыльцы. Іх выстаўка суседнічала з працамі вядомых творцаў, захопленых музыкай родных краявідаў, — Міхася Будавея ды Вячаслава Паўлаўца (на жаль, мабыць, з-за недахопу часу, не былі належным чынам аформлены цэтлікі, і дапытлівым гледачам заставалася толькі адгадваць сярод ананімных безназоўных работ, хто ёсць хто ды што ёсць што).

●

МАСТАКА Ж, які афармляў фестывальную сцэну, нельга было пераблытаць ні з кім. Бо ён — адзіны, сталы ўдзельнік арганізацыйна-пастановачнай групы В. Маршак. Сёлета яму, як ніколі раней, дапамагла прырода: такі ўрадлівы на кветкі май! Гронкі белага ды ружовага бэзу, скампанаваныя ў высокіх металічных вазонах ля парталаў, былі ўвасабленнем жывога подыху вясновага Нясвіжа і... сваёй немудрагелістасцю, натуральнасцю "забівалі" пышныя букеты з цяплічных гваздзікоў ды хрызантэмаў!

Бадай, і сам дух фестывалю такі ж: немудрагелісты ў сваёй шчырасці, жывы ў сваёй натуральнасці.

Ён адчуваўся і ў энтузіязме навукоўцаў, якія зноў, пад эгідай Беларускага інстытута праблем культуры, сабраліся ў Нясвіжы, каб падзяліцца плёнам сваіх даследаванняў у розных галінах мастацкай культуры мінулага.

Ён лунаў у зале Нясвіжскай музычнай школы, духоўнай спадкаемцы той, радзівілаўскай, з часу заснавання якой мінула "круглых" 250 гадоў. Тут адбывалася сустрэча з мастацкім кіраўніком фестывалю М. Фінбергам, які з болем распавядаў пра шматлікія арганізацыйныя і эканамічныя праблемы ў працы "маленькай філармоніі", тлумачыў спецыфіку музыканцкай прафесіі і драматызм яе становішча сярод сённяшніх грамадскіх прыярытэтаў. Заклікаў нясвіжскіх педагогаў і школьнікаў далучацца да фестывалю, быць ініцыятыўнымі, неабыякавымі, вывучаць і выконваць творы, якія нараджаліся і гучалі ў іх родным горадзе амаль тры стагоддзі таму.

Ён, цудоўны дух фестывалю, прасякваў нават прамовы афіцыйных асоб, спрычыненых да яго лёсу: намесніка міністра культуры Беларусі Юрыя Цвяткова, першага намесніка старшыні Мінаблвыканкама Уладзіміра Дражына, старшыні Нясвіжскага райвыканкама Леаніда Крупца...

Ды на сэрцы неспакойна: падчас прэс-канферэнцыі М. Фінберг распавёў пра трывожную сітуацыю вакол "Музаў Нясвіжа".

Сёлета скласці ды падпісаць фестывальную смету было надзвычай цяжка. Удалося аплаціць сем рэйсаў "Ікаруса", капіраванне нотнага матэрыялу, рэкламную прадукцыю і — зэканоміць на абедах для выканаўцаў, якія выязджалі з Мінска а 14-й, рэпеціравалі ў Нясвіжы а 16-й, пасля канцэрта вячэралі — і ў Мінск. Свае праграмы калектывы выконвалі бясплатна, без ганарару. І прагноз на будучы год несуцяшальны: калі фінансавае становішча не зменіцца ў лепшы бок, з бюджэта будзе выдавацца толькі зарплата музыкантам. Грошы на арганізацыю і правядзенне фестываляў выдаткоўвацца не будуць.

Прысуд усім беларускім некамерцыйным мастацкім праектам? Не хочацца гэтак думаць.



●

"ДЛЯ МЯНЕ вельмі важна ўсё, што звязана з Беларуссю. Дзеля гэтага і жыву", — прызнаецца М. Фінберг. І сцвярджае, што калі Міністэрства культуры ў новым годзе вызначыць прыярытэты фінансавання не на карысць гэтаму фестывалю, "Музы Нясвіжа" ўсё роўна збяруцца. Музыканты падрыхтуюць праграму, знойдуць сродкі, каб прыехаць і проста сыграць канцэрт. Для людзей, якія чакаюць гэты фестываль і падтрымкай якіх ён жыве. Таму што аркестр адчувае, дзеля каго ён працуе і працуе недарэмна. Ёсць горад, дзе, нягледзячы на, здавалася б, куды больш сур'ёзныя клопаты, сярод першачарговых вылучаецца клопат пра культуру чалавека, якога запатрабуе новае стагоддзе. І гэты чалавек духоўна ўзнімаецца, расце разам з фестывалем, стымулюючы творчасць яго чыннікаў.

Галоўны дырыжор "маленькай філармоніі", калектывы якой у родным горадзе вандруюць з пляцоўкі на пляцоўку, не шкадуе ўхвалы для гаспадароў Нясвіжскага раённага цэнтра культуры і адпачынку: як рацыянальна распарадзіліся яны памяшканнем, колькі зручнасцяў для артыстаў, у якім стане сама зала на 450 месцаў! Маэстра марыць пра аналагічныя сталы прытулак для аркестра, з добрай акустыкай, прасторнымі холамі, утульным закуліссем, — кшталту старога корпуса колішняга "Наргаса", дзе калі-ніколі рабіла запісы беларускіх выканаўцаў для сваіх знакамітых кружэлак усесаюзная фірма "Мелодия".

А маладым патрыётам з раённага аддзела культуры Нясвіжа мроіцца казачная перспектыва роднага горада, пры ўмове (о, мроі-мары!) развіцця турыстычнага бізнесу на прыватнай аснове, стварэння інфраструктуры сучасных паслуг, атэляў, кемпінгаў, мінібараў, кавярняў для недарагога і хуткага харчавання, рэстарацый, гульнёвых комплексаў.

Турысты, у тым ліку заходнія, і цяпер не абмінаюць Нясвіж, цікавяцца найперш яго знакамітым замкам. А што апроч агляднай экскурсіі, можа прапанаваць ім горад, у якім, па вялікім рахунку, няма дзе прыткнуцца здарожанаму вандроўніку, пасядзець за келіхам піва, згуляць у більярд, уладкавацца на ноч з сям'ёй ці з сябрамі?.. Было б гэта — пайшлі б у муніцыпальны бюджэт жывыя грошы: гораду на развіццё, замку на аднаўленне, "Музам Нясвіжа" — на вольны палёт! Пакуль жа даводзіцца хутчэй запускаць экскурсантаў у аўтобус, выпраўляць у шчаслівую дарогу стомленых транзітнікаў, якія паспелі пабачыць сколак далёкага часу, старога свету і ўцяміць, што калісьці тут была цывілізацыя і культура еўрапейскага ўзроўню... А, можа, будзе ізноў?

Урэшце, чаму б ёй тут і не быць: далёка не ўсё знішчана-знікла бясследна! Мы знаходзім гэтыя сляды, аднаўляем сцежку, крок за крокам.

Днямі, дарэчы, зазірнула ў рэдакцыю нястомная асветніца і аптымістка Вольга Дадзіёмава: "Бягу да вашых суседзяў, у офіс Фінберга: невялічкая нарада будзе. Наконт канцэпцыі наступнага фестывалю. Я прапаную, каб "Музы Нясвіжа" сустрэлі новае тысячагоддзе пад гукі беларускага музычнага рамантызму. Гэта могуць быць творы 19-га — пачатку 20-га стагоддзя і самая розная музыка, якую пішуць нашы новыя рамантыкі — кампазітары сённяшняй Беларусі".

Вядома, што сярод іх ёсць і тыя, каго натхняюць "Музы Нясвіжа", гісторыя і легенды горада, яго архітэктурнае аблічча, маляўнічае атачэнне замка. Галоўнае ж — натхнёнае майстэрства самаадданых музыкантаў, для якіх ці не кожнаму кампазітару хочацца напісаць што-небудзь, бо іх мастацкі густ і прафесійнае сумленне — зарука плённага творчага выніку і спраўджаных мрояў.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымках: намеснік міністра культуры Беларусі Ю. ЦВЯТКОЎ, першы намеснік старшыні Мінскага аблвыканкама У. ДРАЖЫН, народныя артысты Беларусі М. ФІНБЕРГ і З. БАНДАРЭНКА; Камерны аркестр і яго кіраўнік, заслужаны артыст Беларусі В. САРОКА; песня без слоў...; ансамбль флейтыстаў "Сірынкс".*

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Дзеля нацыянальнай, патрыятычнай ідэі

У любой галіне творчай дзейнасці ёсць людзі, чые імёны дасведчаны чытач добра ведае. У сучаснай тэатральнай крытыцы і тэатразнаўстве — гэта, несумненна, Рычард Смольскі. Я ўжо не кажу пра тое, што Рычард Баляслававіч карыстаецца вялікім аўтарытэтам у навуковых колах. Аднак, будзем справядлівымі, нярэдка атрымліваецца і так: кандыдат ці доктар мастацтвазнаўства зарэкамендаваў сябе як глыбокадасведчаны даследчык, але яго працы, артыкулы, рэцэнзіі да так званага масавага чытача не даходзяць. А ўсё таму, што яны завельмі "навуковыя", адарваны ад сучаснага жыцця, у прыватнасці, ад жыцця мастакоўскага. Тое, пра што ідзе ў іх гаворка, разлічана толькі на спецыялістаў.

Гэтага не скажаш пра публікацыі Р. Смольскага. Застаючыся глыбокім аналітыкам, дасведчаным знаўцам тэатра, здатны ўсебакова аналізаваць сучасны тэатральны працэс Беларусі ў паралельным аналізе з тым, што адбываецца ў тэатрах іншых краін, ён, разам з тым, піша так, што пра гэта цікава даведацца кожнаму, хто неабыякавы да гэтага віду мастацтва. Таму публікацыі Р. Смольскага, што з'яўляюцца ў перыёдыцы, заўсёды застаюцца запатрабаванымі. Іх нязменна сустракаеш з радасцю, бо ведаеш: цябе чакае свята душы, свята, якое магчыма толькі тады, калі чалавек, на сустрэчу з якім ты ідзеш (у дадзеным выпадку рэцэнзент, даследчык), — АСОБА. ТВОРЧАЯ АСОБА, здатная частку сваёй захопленасці, улюбёнасці, свайго ведання і дасведчанасці перадаць табе.

І што не менш важнае — рэцэнзіі, артыкулы Р. Смольскага, пры ўсёй іх прывязанасці (як таго вымагае і жанр) да канкрэтных рэалій (правільней, да пэўных драматургічных твораў, спектакляў, выканаўцаў) — тая гаворка, якая з цягам часу не забываецца. Да яе хочацца звяртацца зноў і зноў. У чым і пераконвае кніга Р. Смольскага **"Тэатр у прасторы часу"**. А яе чытаеш з неаслабным інтарэсам, бо што ні старонка — гэта той сінтэз думкі і пачуцця, калі, ты, чытач, лёгка выходзіш на кантакт з аўтарам. І неабавязкова становішся яго аднадумцам, часам у нечым гатовы заспрачацца, а нешта і ўдакладніць. Аднак ні ў якім разе не можаш застацца абыякавым, бо ёсць тое, што і аўтара, і цябе паяднўвае. А паяднўвае яго вялікасць ТЭАТР.

Кніга "Тэатр у прасторы часу" — гэта ода тэатру. І захапленне ім. Сказанае Р. Смольскім напачатку, у артыкуле "Люстэрка свету і чалавека", пададзеным "замест уступу", успрымаеш як тое асноватворнае, без разумення значнасці якога немагчымы далейшы дыялог, які адбудзецца (не можа не адбыцца!) у цябе з аўтарам: "...трэба як мага часцей хадзіць у тэатры, глядзець розныя спектаклі, чытаць п'есы — сучасныя і класічныя, айчынных аўтараў і замежных. У выніку актыўнай самастойнай інтэлектуальнай, эстэтычнай і духоўнай працы абавязкова ўзбагаціцца асабісты творчы пачатак, будзе назапашвацца ўласны разнастайны вопыт, веды, прыадчыняцца многія таямніцы не толькі мастацтва, але і таямніцы самога жыцця, навакольнага свету. Узнікнуць і новыя цікавыя перспектывы, пашырацца магчымасці для ажыццяўлення ўласных задум, ідэй, планаў. Словам, тэатр — гэта не толькі тое месца, дзе людзі бавяць вольны час, тэатр — гэта і разумны, уважлівы, зацікаўлены і заўсёды верны дарадца і сябра ў жыцці. А самыя лепшыя, шчырыя і надзейныя сябры тыя, з кім сябруеш з дзіцячых і юнацкіх гадоў".

Аднак тэатр ператвараецца ў "разумнага, уважлівага, зацікаўленага і заўсёды вернага дарадцу і сябра ў жыцці", вядома ж, не сам па сабе, а дзякуючы таму, што і робіць тэатр тэатрам. А гэта належны рэпертуар, высокапрафесійная рэжысура і выканаўцы. Гэта, нарэшце, не менш прафесійная крытыка, што становіцца сувязным паміж тэатрам і гледачом. Такая крытыка, што і ўвасабляецца ў творчасці Р. Смольскага.

Адной кнігі "Тэатр у прасторы часу" дастаткова, каб упэўніцца, наколькі мэтанакіравана працуе яе аўтар, паслядоўна, крок за крокам асэнсоўваючы найбольш цікавыя, адметныя з'явы ў сучасным беларускім сцэнічным мастацтве. Пры гэтым спалучае ў сваёй асобе і крытыка, і даследчыка. Гледзячы пра што піша. А піша Р. Смольскі пра многае, у чым і ўпэўніваешся, калі... Не, не чытаеш, а перачытваеш — уважліва, засяроджана — яго кнігу. Пачынаючы з першага раздзела "Час збіраць гледачоў", у якім змешчаны праблемныя артыкулы.

Цяпер не выпадае пагаварыць пра іх грунтоўна, каб паказаць, наколькі Р. Смольскі дасканала ведае прадмет гаворкі, таму абмяжуюся назвамі асобных артыкулаў. З іх яскрава відаць, што аўтар выходзіць на праблемы, якія прывязаныя да канкрэтных рэалій, скіраваны і ў будучыню. А ад таго, наколькі аператыўна яны будуць вырашаны, залежыць і заўтрашні дзень тэатра. Прынамсі, тэатра беларускага: "Разгубленасць перад... свабодай? (У тэатрах рэспублікі пачаўся новы сезон)", "Знайсці сваё аблічча (Ці ёсць перспектывы ў Брэсцкага тэатра)", "Безназоўнае (Палемічныя нататкі пра сучасную рэжысуру)", "Купалаўцы ў прасторы XX стагоддзя (Юбілейна-палемічныя нататкі)", "Патрыятызм — каштоўнасць вечная (З гісторыі творчай садружнасці А. Макаёнка з Купалаўскім тэатрам)"...

А возьмем раздзел "Крокі па жыцці"?! Розныя спектаклі трапілі ў поле зроку Р. Смольскага. Ды каторы ні возьмеш, лёгка ўпэўніцца, што даследчык запыніў увагу на пэўнай пастаноўцы невыпадкова. Найперш звяртаў увагу на тыя работы, якія абавязкова ў нечым вызначаліся ў параўнанні з падобнымі ім. Ці сваёй адметнасцю, ці, наадварот, пэўнымі пралікамі, але і яны ў чымсьці характэрныя, бо за імі не толькі прыватны выпадак. Значыць, з'явілася мажлівасць павесці гаворку ў розных аспектах. І Р. Смольскі павёў яе. І так захоплена, што і цяпер, калі асобныя з названых, разгледжаных ім спектакляў зняты з рэпертуару, да выказванняў яго цікава далучыцца. І не ў апошнюю чаргу таму, што — гэта частка гісторыі беларускага тэатра.

Дзякуючы Р. Смольскаму, адкрываеш для сябе цэлую кагорту выдатных прадстаўнікоў нацыянальнага сцэнічнага мастацтва: як тых, хто працаваў раней, так і нашых сучаснікаў. Творчыя партрэты іх прадстаўлены ў раздзеле "Рыцары тэатра". Адзін пералік імёнаў чаго варты: Уладзіслаў Галубок, Уладзімір Кумельскі, Вольга Галіна, Дзмітрый Арлоў, Здзіслаў Стома, Стэфанія Станюта, Юрый Сідараў, Аляксандра Клімава, Галіна Арлова, Алімпіяда Шах-Парон, Уладзімір Кулішаў.

У адным з артыкулаў Р. Смольскі прыводзіць выказванне Канстанціна Станіслаўскага аб тым, што ў тэатры "павінны быць людзі ідэі, якія разумеюць і выконваюць сваю высокую місію не з-за лішняга воплеска, вянка, не дзеля задавальнення свайго маленькага акцёрскага, кабацінскага самалюбства, а дзеля нацыянальнай, патрыятычнай і агульначалавечай мэты".

Словы гэтыя з поўным правам стасуюцца і да крытыкаў, даследчыкаў. Р. Смольскі ж і належыць да тых, хто працуе "дзеля нацыянальнай, патрыятычнай і агульначалавечай мэты". Працуе надзвычай плённа і вельмі вынікова, пацвярджэнне чаму і кніга "Тэатр у прасторы часу". Прысуджэнне ёй Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь стане і прызнаннем набыткаў сучаснай беларускай тэатральнай журналістыкі, бо Р. Смольскі — адзін з яе правафланговых.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

## Пра лаўрэатаў прэміі імя Янкі Купалы

“Лаўрэаты прэміі імя Янкі Купалы” — так называецца буклет, выпушчаны Літаратурным музеем Янкі Купалы накладам 2200 асобнікаў. Выданне гэтае, думаецца, знойдзе прыхільнікаў і сярод старшакласнікаў, і сярод студэнтаў. Патрэбным яно будзе і выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры ды і кожнаму, хто любіць беларускую паэзію. Складальнік Людміла Давідоўская сабрала звесткі пра ўсіх, хто ў розны час быў удастоены прэміі, якая носіць імя Янкі Купалы. Спачатку гэтая прэмія з'яўлялася Літаратурнай і зацверджана была пастановай Савета Міністраў БССР ад 12 снежня 1957 года. Першымі лаўрэатамі яе сталі ў 1959 годзе Максім Танк (зборнік вершаў “След бліскавіцы”) і Пімен Панчанка (“паэма “Патрыятычная песня”). Дарэчы, пазней яны былі ўдастоены і Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (Максім Танк у 1966-м за зборнік вершаў “Мой хлеб надзённы”, П. Панчанка — за зборнік вершаў “Пры святле маланак” у 1968-ым). Літаратурная прэмія імя Янкі Купалы ператварылася ў Дзяржаўную ў 1965 годзе, калі Савет Міністраў прыняў наконт гэтага спецыяльную пастанову. Прэмія прысуджаецца не толькі за лепшыя творы паэзіі, а і драматургіі. Думаецца, не лішне назваць усіх лаўрэатаў. Акрамя згаданых М. Танка і П. Панчанкі — гэта Уладзімір Дубоўка, Андрэй Макаёнак, Мікола Аўрамчык, Кастусь Кірэнка, Сяргей Дзяргай, Анатоль Вялюгін, Аляксей Пысін, Пятрусь Броўка, Аркадзь Куляшоў, Кандрат Крапіва, Янка Сіпакоў, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Васіль Зуёнак, Язэп Семяжон, Данута Бічэль-Загнетава, Пятрусь Макаль, Яўгенія Янішчыц, Міхась Стральцоў, Алесь Разанаў, Алесь Звонак, Сяргей Законнікаў, Раіса Баравікова, Уладзімір Някляеў, Мікола Мятліцкі. У буклеце змешчаны партрэты лаўрэатаў, надрукаваны асобныя вершы Янкі Купалы з яго партрэтамі.

Вадзім ГЛЕНЧЫК

## “Беларуская думка”, N 9

У дзевятым нумары часопіса “Беларуская думка” чытача чакае знаёмства з працягам рамана І. Шамякіна “Губернатар”, вершамі В. Макарэвіча. У раздзеле “Свет мастацтва” змешчаны артыкул А. Бельскага “Мы асілім усё талакой”, у якім расказваецца пра вядомага паэта-песенніка Л. Пранчака. У раздзеле “Асоба” згадкі А. Марціновіча пра С. Баранавых у сувязі са 100-годдзем з дня нараджэння гэтага пісьменніка (“Сумленны грамадзянін Баранавых...”), А. Сульянаў (артыкул прапануецца ў раздзеле “Гістарычная памяць”) расказвае пра Антуана дэ Сент-Экзюперы (“Рыцар паветра і пяра”), а сёлетні год, як вядома, па рашэнні ЮНЕСКА аб'яўлены годам гэтага лётчыка і пісьменніка, з дня нараджэння якога мінула 100 гадоў. А. Мухлінскі, ураджэнец Навагpадчыны, стаяў ля вытокаў рускай арабістыкі. Пра яго гаворка ў артыкуле В. Лагодзькі “Што арабскі свет нам блізкі — даказаў яшчэ Мухлінскі”. Сярод аўтараў нумара — пісьменнікі Г. Булыка (“Я люблю “Беларуса”!), У. Сауліч (“Дзве непрыватныя гісторыі”), В. Шырко (“Не чакаць, пакуль прыйдзе бяда”), В. Стома (“Грыбныя дажджы”), А. Салтук (“Цяпло лядовага поля”).

## “Маладосць”, N 7

Друкуюцца вершы А. Ігнацюк, В. Віцько, Т. Мазур, Т. Будовіч, С. Шах, Ю. Ясеня, Ю. Голуба. Проза прадстаўлена апавяданнямі “Стась і Шыпшына” А. Ветаха, “Нязрушаны камень” В. Адамчыка, заканчэннем “інтымнай хронікі часоў міжвер'я” Г. Багданавай “Паляванне на Любаву”, “Крымскім калейдаскопам” З. Падліпскай. Пра сваіх землякоў, пра еднасць з родным кутам расказвае У. Дамашэвіч (“Падкова на шчасце”). Героі нарыса І. Багдзевіч “Летапісцы Магутнага Льва” — аўтары “Магілёўскай хронікі” Трафім Сурта і Юрый Трубнікаў. “Дзяржаўнасць — у прыродзе беларуса” — развагі Л. Лыча. Пра выдатнага футбаліста П. Мімрыка ўспамінае яго жонка А. Мімрык (“Яго жыццё — футбол”). “У сваю дывізію пайшоў...” — згадкі Р. Яўсеева пра А. Пысіна. Л. Пранчак (“Самотны паэт”) гутарыць з Я. Золакам. А. Вялеська (“Напісанае застаецца”) дзеліцца ўражаннямі аб зборніку артыкулаў “Душа прычаліцца крылом да неба...”, выдадзенага летась кафедрай беларускай літаратуры Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны. Р. Падневіч выступае з гумарэскай “Ляснула прэмія”. В. Дударэнка (“Святло Аляксандра Барташэвіча”) прадстаўляе аднаго з маладых мастакоў.

ПАЭЗІЯ

Анатоль МАЙСЕЕНКА



## Праўвуся!

*Ох, і цяжка тут дыхнуць,*
*Стогны хворых.*
*І хацеў я драпануць*
*На азёры.*

*Да вакна мне хутка клён*
*Звесіў лапы.*
*Ды ўзялі мяне ў палон*
*Эскулапы.*

*Тут нямала дзівакоў,*
*Затужылі:*
*Беды нас з усіх бакоў*
*Акружылі.*

*Нават брацца за камлі*
*Ужо няможна.*
*І хадзіць мне па зямлі*
*Асцярожна.*

*Ні прытопнуць мне цяпер,*
*Ні пабегчы...*
*Кажуць: “Дзядзька, нам павер, —*
*Трэба легчы!”*

*Медыцынскай грамадзе*
*Пакланюся.*
*Сам я, браткі, знаю, дзе*
*Наляжуся.*

*Ды спрачацца з вамі? —*
*Пас, —*
*Не бяруся.*
*Паляжаў бы і ў запас,*
*Каб з Марусяй...*

*А ўсяго ёсць у мяне*
*Толькі песня.*
*Хто не чуў, не ўспамяне,*
*Мне ж — балесна.*

*Знаў сініцы галасок,*
*Хай нясмелы,*
*І бярозы фартушок*
*Белы-белы.*

*Вунь сышліся да вады*
*Тры рабіны.*
*І вяшчуе халады*
*Рык ласіны.*

*Чырвань гронак для ракі,*
*Бы маністы.*
*Там жыруюць шчупакі,*
*Як міністры.*

*Я не лез на вышыню,*
*Маю сцежку,*
*Дзе сустрэў упершыню*
*Тваю ўсмешку.*

*І з узнятай галавой*
*Крочыў годна.*
*Побач чуў і голас твой,*
*Маёй роднай.*

*...Зноў на цёплую зямлю*
*Абапруся.*
*Ажыву.*
*Перацярплю*
*І праўвуся!*

●

*Зноў сонца йдзе не на парад, —*
*Сілкуе сад, і траўку,*
*І чалавека — ўсё падрад,*
*І кожную казяўку.*

*А ты ўцякаў ад араллі,*
*Цяпер — столаначальнік.*
*Няма ні неба, ні зямлі —*
*Ёсць страўнік-вынішчальнік.*

*Ці сніш здзічэлыя сады?*
*І пры шляху — бярозы?*
*Забыў пра родныя клады.*
*Каму ты выцер слёзы?*

*Круглееш сам і ў недарод,*
*Сабой нуль абазначыш...*
*А сонца свеціць круглы год,*
*Калі яго й не бачыш!*

## Санаторнае

*Сасняк, рачулка з азяркам —*
*Кампанія не тлумная.*
*І мілаты на сэрцы — ком,*
*Хаджу тут з мінай думнаю.*

*Красуні клічуць у эдэм,*
*Ды старасць падступаецца.*
*Навошта еўнуху гарэм,*
*Калі з адной не справіцца?*

*Рачулка, пачакай плысці,*
*Пачуй, як звоніць раніца.*
*Заўжды спяшаешся ў жыцці,*
*А след які застанецца?*

*Навокал прагна я гляджу,*
*А сэрца аж калоціцца.*
*Заместа ветру і дажджу*
*Тут сонца зноў клапоціцца.*

*Хмызы з узгорачка бягуць,*
*Над беражком пасталі.*
*Ім гэтак хочацца зірнуць*
*У твар рачное хвалі.*

*Запомню водар медуніц,*
*Гуд пчолаў над палянкаю,*
*На ёй агеньчыкі суніц*
*І НЕБА — ЧЫСТАЙ ШКЛЯНКАЮ.*

*Пазней — няхай сабе ў журбе —*
*Крыху наліць стараешся.*
*(Якая жонка ў ладкі б'е,*
*Як з пляшкай абдымаешся?)*

*Каля Дуброўны родны кут,*
*Маленства з перагрузкаю.*
*Я радасць зведаў толькі тут*
*З жанчынай-беларускаю!*

●

*Крыўдуеш?*
*Кветкі не дарыў...*
*Найперш я дбаў аб чорным хлебе,*
*Быў ад цябе на сёмым небе,*
*Але аб тым не гаварыў.*

*У небе кветак не сустрэць:*
*Там расцвітаюць зоркі, помні.*
*І так агніста зззяюць промні,*
*Што й мне хацелася гарэць.*

*З юнацтва крылы ў нас растуць, —*
*І ты была, нібыта птушка.*
*Як цалаваў цябе і гушкаў,*
*Ты не забудзь, ты не забудзь!*

*Маёй душы рэчытатыў*
*Адной табе, найдарагая.*
*Я не гару, я дагараю,*
*Ды гэта іншы ўжо матыў...*

●

Валянціне

*Як сонца,*
*Ісціна ўзышла*
*З жыцця майго зямнога:*
*Зашмат бывае толькі зла,*
*Любові — не замнога.*

*Забыць цябе?*
*Не ўспамінаць?*
*Сысці з тваёй арбіты? —*
*Як бервяно распілаваць,*
*Цвікі ў якім набіты.*

●

*Па цаліку замест дарог*
*Ішоў, і падаў, падымаўся,*
*І неаднойчы памыляўся —*
*Ні дня без болю і трывог.*

*І шмат разоў загінуць мог,*
*Але яшчэ жыву на свеце,*
*Грудзямі рву сустрэчны вецер, —*
*Дасюль Гасподзь мяне берог.*

*Я для людзей прывык старацца,*
*Таму з усмешкай гавару:*
*Я аніколі не памру,*
*Нанова буду нараджацца!*

*Докшыцы, бальніца, 2000 год*

# ПАМІЖ КУБКАМ І ВУСНАМІ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9)*

●

Стары паэт-гумарыст любіў выхваляцца перад намі, тады маладымі, сваімі амурнымі “перамогамі” над маладзенькімі прыхільніцамі ягонага таленту. І гэта з яго вуснаў гучала гэтак жа недарэчна, як і малітва з вуснаў д'ябла.

●

Ён паплакаўся ў камізэльку свайго ненавісніка і тут жа высмаркаўся ў сваю ўласную кішэню.

●

Двойчы ненарокам прыкусіў язык. Згодна прыкмеце нехта гэтым часам абгаворвае цябе ці нават “брэша”. Цікава, хто ж гэта там? Хоць якая тут цікавасць...

●

Як ні сумна, але кожны, хто сядзіць за гэтым круглым сталом-яйкам, думае, што ён геній, а ты — “так сабе”. Вунь і па тварах гэта добра відаць.

●

Будучы раённым газетчыкам наглядзеўся, наслухаўся і панапісваў я ўсялякага. Пісаць даводзілася з дарогі і адразу на машынку. Адны толькі загалоўкі колькі дарагога імпэту каштавалі. Бывала, сядзіш, гартаеш адну за другой падшыўкі старых сталічных газет, каб вывудзіць недзе той патрэбны загаловак. На свой, нечаканы, часу заўсёды бракавала. У старэйшых, з вопытам, быў свой запас тых самых апрабаваных, якімі яны карысталіся шматразова, па меры таго, як тыя забываліся рэдактарам. Як і сёння, модна было пакарыстацца словамі вядомай песні, а то і перакруціць іх на патрэбны лад. Нехта з раёншчыкаў сваю занатоўку пра зімаванне коней назваў так “Коні сытые бьют копытами”, за што на лятучцы быў пахвалены начальствам.

●

Карэспандэнт распытвае тутэйшую бабулю:

— Дык дзе, кажаце, зараз ваш праўнук жыве?

— Ну ў етай Ерманіі.

— Германія вялікая, а ў месцы якім?

— Ды ў етым, называецца неяк смешна ці не па-нашаму... Франак на Мані, ці што...

— Франкфурт-на-Майне, можа?

— Ну то, можа, і так. Табе лепш ведаць.

●

У студыі выступае ў прамым эфіры футбаліст Сяргей Алейнікаў, наша айчынная зорка. Чуецца тэлефанаванне гледача:

— Сяргей! Гэта — Мікалай. Памятаеш рэстаран “Свіцязь”?

Замінка і... невыразны адказ Алейнікава. Ну што тут скажаш. Пахваліўся, відаць, чалавек некаму, ці не сваёй заляцанцы, што ён запанібрата з вядомым футбалістам.

●

Большую частку жыцця свайго пражыў у горадзе. А ў душы маёй даўно змагаецца дзве непрымірымыя сілы — вёска і горад. Але з кожным годам усе больш і больш адчуваю (на радасць мне), што вёска перамагае.

●

Музыка ёсць усюды, дзе ёсць слых. Можна адшукаць яе ў пошуме ветру, у поскрыпе дрэва, дзвярэй, маснічыны, у звоне калодзежнага вядра. Мелодыя ж заўсёды ляжыць напаверхні.

●

Як і даўней, нечакана, цэлай зграяй Граньскім лесам па-партызанску праграліся ваўкі. Чырвоныя сцяжкі, паляўнічая аблога былі нянадта ўдалымі. Паверылася яшчэ раз у даўнюю прыкмету: ваўкі заўсёды нечакана заяўляюцца ў сумны і нялёгкі час.

●

Сонечнай, але халаднаватай велікоднай нядзеляй ажыло ў памяці даўняе, ды ўжо і добра падзабытае. А гэта па хатах дружнай чародкай пайшлі дзеці “па жака”, тое самае чырвонае яечка, у якім таілася столькі таямнічасці. Пайшлі нават дзеткі, што прыехалі з бацькамі з горада, добра і не разумеючы, што тут да чаго. Іх вясковыя равеснікі прабабанілі нават знаёмае:

*Жачак-жачак,*
*Божы рабачак.*
*Вылазь, баба, з-за печка,*
*Давай яечка.*

Аднак яечкі дарагія і дэфіцытныя. Добра малому і цукерка.

# Таямніцы зазер'еўскага летапісца

## ЛЁС І ТВОРЧАСЦЬ ПІСЬМЕННІКА-ЭМІГРАНТА Міколы ЦЭЛЕША

***...Пра яго мала звестак нават у найпоўным — у шэсць тамоў — біябібліяграфічным слоўніку “Беларускія пісьменнікі”, і калі б не выдадзеная ў 1995 годзе ў Нью-Йорку кніга яго выбраных твораў “Хмары над Бацькаўшчынай”, што патрапіла і на Беларусь, мала хто б і ведаў пра гэтага празаіка — Міколу Цэлеша (псеўданімы Максім Лагода, Мартын Люціч, Мікола Лясун), празаіка, якому сёлета споўнілася б сто гадоў. М. Цэлеш — адзін з найбольш загадкавых пісьменнікаў эміграцыі. У ягоным жыццёвым і творчым лёсе — безліч таямніцаў, загадак. Біяграфія М. Цэлеша пакрыта белымі плямамі-прогамі (кароткая “Аўтабіяграфія”, надрукаваная ў кнізе “Хмары над Бацькаўшчынай”, абрываецца на 1928 годзе), яго творы не прачытаны і не прааналізаваны і сёння...***

Ён нарадзіўся ў першае лета XX стагоддзя — 25 ліпеня — у вёсцы Зазер'е Есмінскай воласці былога Барысаўскага павета Мінскай губерні. Невялікая беларуская вёска вызначалася ўжо тым, што патанала ў прадаветных пушчах, ляжала на старадаўнім “Вітаўтавым шляху” (Вільня — Маладэчна — Барысаў — Магілёў) і мела непадалёк завод па вырабе зброі. На вясковым могільніку адшуквалі захаванні XII стагоддзя. На адным з помнікаў быў выбіты надпіс “Heranim Celesy” (XV стагоддзе). Геранім быў адным з першых вядомых продкаў зазер'еўскіх Цэлешаў.

Завод па вырабе зброі належаў яшчэ прадзеду М. Цэлеша па бацькавай лініі графу Базылю, жалеза для вытворчасці здабывалі з балотнай руды. Праз той завод прадзед і страціў свой графскі тытул... Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай зазер'еўская зброя патрапляла ў рукі паўстанцаў супраць расійскага самадзяржаўя. У 1861 годзе прадзед пазнаёміўся з капітанам Зыгмундам Серакоўскім, праз два гады яны і ўзначалілі паўстанне ў Барысаўскім і Ігуменскім паветах. На заводзе да гэтага часу паспелі нават адліць некалькі лёгкіх гармат.

Карна-экспедыцыйным войскам, якое было накіравана задушыць паўстанне, камандаваў генерал Ганецкі. Ягоныя віжы дазналіся, адкуль у ворагаў зброя. Ноччу царскія войскі акружылі Зазер'е, ад гарматных стрэлаў загарэўся завод, графская рэзідэнцыя, хутары шляхты, сялянскія хаты. Як расказваў Міколу дзед Ян (апошняму ў 1863-м было 12 гадоў), прадзеду Базылю ўдалося выскачыць з палаючай спальні.

Ратуючыся ад царскай шыбеніцы, Базыль Цэлеш перабраўся ў Заходнюю Еўропу, а затым — “за ваду, у Новы свет”, як называў Амерыку. Там браўся за любую працу, хоць і не забываўся пра сваю “блакітную” кроў. Два ж ягоныя сыны — Ян і Несцер — ды дачка засталіся на Радзіме, займаліся гаспадаркай. Сялянскімі клопатамі жылі і бацькі Міколы: Ёхім Цэлеш (па расійскіх дакументах — Ефим Телеш) і Барбара з Каралёнкаў (нарадзілася ў вёсцы Буднікі той жа Есмінскай воласці Барысаўскага павета).

“Сваё дзяцінства я памятаю амаль ад двох год, — пісаў у сваіх успамінах-аўтабіяграфіі М. Цэлеш. — Я стаю на тапчане. У хаце поўна кабет — адны плачуць, другія моляцца. На тапчане ляжыць нябожчыца. Твар зжоўклы, высыхлы. Над ім гарыць сьвечка. У хаце стаіць душнае паветра з пахам воску. Маці бярэць мяне на рукі й нясець да нябожчыцы. Ставіць на падлогу. “Пацалуй руку бабцы”, кажа. “А чаму яна ляжыць у скрынцы?”, — пытаюся. “Бо яе забрала сьмерць, і трэба цалаваць ёй руку”. — “Сьмерці?” — “Бабцы”. Бабы акружылі нас, слухаюць. “А дзе тая сьмерць, што забірае бабку. Я яе ня бачу...” — “Яе ніхто ня бача, але яна заўсёды пры кожным з нас...” — ”Чаму так, мама? Чаму яе не адпіхнуць?” — “Во, які малы — чуеце, што кажа?”, дзівяцца бабы...” (“Аўтабіяграфія (Людзі, факты, падзеі)”. Машынапіс, с.6.) [Успаміны М.Цэлеша цытуюцца ўпершыню].

...Праз крыху больш, як семдзесят гадоў, Мікола Яўхімавіч, эмігрант “у трэцім калене”, выйшаўшы з нью-йоркскага дому, паспрабуе сам “адпіхнуць” смерць — і знікне бясследна. Ні жонка, ні дзеці, ні знаёмыя і дасюль не ведаюць, дзе скончыўся яго жыццёвы шлях: “за вадой, у Новым свеце” — ці на Беларусі, куды ён цягам доўгіх выгнанскіх гадоў марыў-сіліўся вярнуцца.

Аднак тады, на пачатку стагоддзя, была пакуль што вясковая школа, у якую прывёў Міколу бацька. “Высмаркайся перш”, — сказаў перад дзвярыма. Свае гады школьніцтва М. Цэлеш апісаў у аповесці “Курылка (Запіскі вучня царкоўна-прыходскай школы)”, якая друкавалася ў N 4 часопіса “Полымя Рэвалюцыі” за 1934 год і выйшла асобнай кнігай у 1935-м.

Вучыла Міколу маладая настаўніца, якая пазней стала жонкай Янкі Купалы — Уладзіслава Францаўна. “Была аднекуль з-пад Радашковіч ці, можа, із саміх Радашковіч*. Часамі да яе прыязджаў Янка Купала, зямляк, едучы аднекуль па сваіх гаспадарчых справах; у санках-развалках, на шэранькім, досыць ладным коніку; і сам у шэранькім саматканым кульку, але пашытым на шляхецкі хвасон, — пісаў у сваіх успамінах М. Цэлеш. — У клясу ён, праўда, ніколі не заходзіў, але настаўніца, потым, нам апавядала пра яго дужа шмат: “Гэта наш першы сялянскі паэта!” І чытала нам ягоныя вершы. Адзін выклікаў проста авацыю ў школе:

*Як хвор ды бедзен — сам бяруся*
*Лячыць сябе: я чараўнік!*
*Бо я бяз доктара лячуся,*
*Бо я мужык, дурны мужык!*

Спачатку кляса хіхікала, а потым дружна запляскала ў далоні” (Машынапіс, с.8—9).

У 1911 годзе М. Цэлеш, з парады настаўніцы, падаўся вучыцца ў бліжэйшую (17 кіламетраў ад дому) бурсу. У 1914-м бацьку мабілізавалі на фронт, з маці засталося пяцёра дзяцей, і Мікола мусіў перапыніць вучобу, каб дапамагаць па гаспадарцы. Праз год фронт ужо наблізіўся да Зазер'я — былі чутны гарматы. Сапёры пачалі паляпшаць дарогу паміж Магілёвам і Барысавам. Да працы змушалі і вяскоўцаў. “Пайшоў і я, — успамінаў М. Цэлеш. — Пры атрыманьні заробку спаткаўся з Аляксандрам Блокам, пра якога я ўжо ведаў. Яго таксама паклікалі ў войска, але, дзякуючы вялікай пратэкцыі, вызначылі скарбнікам у тую сапёрную адзінку, якая ладзіла ў нас шлях. За дзесяць кіламетраў ад Зазер'я быў маёнтак Кубліцкіх, ягоных сёстраў па другому бацьку. Блок зацікавіўся мной, пэўна, па намове людзей аб маім гераічным наведаньні школы за сямнаццаць кілямэтраў, што было вулучна адзіным выпадкам у Зазер'і, і спытаў: ці чытаў я што-небудзь з ягонае паэзыі. Пачуўшы, што дастаць тут кніжак нельга, даў мне невялікі зборнічак астатніх вершаў. Я праглынуў гэтыя вершы літаральна ў адзін прысест. Яны ўскружылі мне галаву, і некаторымі з іх я пачаў проста блузніць. Перада мной адчыніліся нейкія няведамыя мне небасхілы” (Машынапіс, с.9).

У 1916 годзе М. Цэлеш у Варонежы атрымаў службу на пошце. Лютаўскую рэвалюцыю сустрэў на Кацярынаслаўшчыне, у гарадку Кадзіеўка, дзе працаваў на шахце і наведваў агульнаадукацыйныя курсы. У 1919-м атрымаў атэстат аб сярэдняй адукацыі і мусіў “стаць пад зброю”. Двойчы хварэў на тыфус, доўга лячыўся ў вайсковых шпіталях.

Пасля дэмабілізацыі паступіў на факультэт грамадскіх навук БДУ, які неўзабаве кінуў, бо “лекцыі <...> на факультэце не падабаліся — усю іхную мудрасць <...> прайшоў у жыцьці на практыцы...” (Аўтабіяграфія // Хмары над Бацькаўшчынай. — Нью-Ёрк, 1996. — С. XXXУ).

Працаваў у рэдакцыях выданняў “Паляўнічы Беларусі”, “Беларуская вёска”, “Зьвязда”, абзавёўся сям'ёй. У 1929 годзе ў часопісе “Маладняк” апублікаваў сваё першае апавяданне і выдаў свой першы празаічны зборнік, рэдактарам якога быў Міхась Чарот.

Яшчэ з пятнаццацігадовага ўзросту былі ў М. Цэлеша подступы і да паэзіі — аднак подступамі і засталіся. “Вершы я <...> нікому <...> не паказваў, навет тым дзяўчатам, якім былі прысьвечаны, — згадваў пазней М. Цэлеш. — Толькі адзін верш “О Беларусь, мая шыпшына” адважыўся аднесьці ў рэдакцыю “Зьвязды”, але ня будучы пэўным, што ён дастаткова ўдалы, напрасіў рэдакцыю аддаць яго на кансультацыю Ул. Дубоўку, вершы якога я любіў, і калі ён нойдзе ў ім што-небудзь паправіць, хай надрукуе яго пад сваім імём. Так і было зроблена — верш зьявіўся ў святочным нумары 1 мая за подпісам Дубоўкі” (Машынапіс, с.11). (Насамрэч верш У. Дубоўкі, як падае біябібліяграфічны слоўнік “Беларускія пісьменнікі”, упершыню быў надрукаваны ў NN 17, 18 “Маладога аратага” за 1925 год.)

*Уладзіслава Францаўна Луцэвіч (Станкевіч) нарадзілася ў вёсцы Вішнева Валожынскага раёна.*

У 30-х гадах М. Цэлеш змог выдаць пяць (!) невялікіх зборнікаў апавяданняў, якімі, як пісаў пазней, быў вельмі незадаволены. У 1931-м з'явілася кніга “Апавяданні паляўнічага”, у 1932-м — “Са стрэльбай і сабакам”, у 1935-м — аповесць “Курылка. Запіскі вучня царкоўна-прыходскай школы”, прысвечаная пляменнікам Людзіку і Толю, — на аповесць з'явіліся ўхвальныя рэцэнзіі С. Куніцкага (у “Полымі Рэвалюцыі”) і С. Шушкевіча (у “ЛіМе”).

Апавяданні М. Цэлеша нагадвалі рэалістычныя замалёўкі з жыцця — зазвычай гаротнага, трагічнага, падарванага бесчалавечнасцю таталітарнай сістэмы. Найбольш удавалася празаіку ўжо ў першых абзацах стварыць неабходны “рытмічны фон” аповеду. Публіцыстычнасць, частая “дыялогавасць” і ашчаднасць, нават скупасць выяўленча-мастацкіх сродкаў — галоўныя адметнасці апавяданняў М. Цэлеша. Персанажы — выпісваліся ім “эканомна”, рэдкія і пейзажныя замалёўкі, лірычныя адступленні-паўзы. Пры чытанні ўзнікае ўражанне, што М. Цэлеш эканоміць аповедную “прастору”, спяшае выкласці найперш змест, — нібы той летапісец-храніст (невыпадкова ж і адну з аповесцяў назваў “Загібельскі летапіс”), намагаецца падаваць найперш факты, учынкі, падзеі...

Пра сваё жыццё ў акупаваным Мінску М. Цэлеш узгадваў у адным са спавядальных лістоў на Радзіму. “Я не лічу сябе ў чымнебудзь павінным перад нашым народам, а тым больш асабіста перад Вамі, — пісаў ён сваякам на Беларусь (у родную вёску Зазер'е). — У час нямецкага наступу я ня меў ніякой магчымасьці рушыцца з Менску. Ні я адзін! Увесь Менск застаўся на мейсцы, нават сын сакратара ЦК КП(б)Б Панамарэнкі. Некаторыя, праўда, пазьней прабіраліся пехатой праз фронт, *але што да мяне*, дык я і гэтага ня мог зрабіць, бо на маёй адказнасьці было трое малых дзяцей, — Слаўцы ўсяго адзін месяц, — і хворая жонка пасьля родаў. Хіба я меў права пакінуць іх на верную пагібель?”

У тым жа лісце М. Цэлеш узгадвае і пра тое, як у першыя дні акупацыі Мінска немцы сагналі мужчын у лагер і пачалі расстрэльваць. Цэлешу ўдалося цудам уратавацца. “Як і кожны сумленны <...> грамадзянін, у час нямецкай акупацыі я рабіў, што мог, — пісаў М. Цэлеш. — Не пайшоў да немцаў на працу. Наша кватэра на Дзяржынскага вуліцы (з Абутковай нас немцы выгналі) стала перадатачным пунктам розных неабходных рэчаў для вызваленчага руху, як медыцынскія прылады, марля для перавязак, тавар на абутак і шмат-шмат іншага... Урэшце, у 1943 годзе нашу кватэру нямецкая паліцыя ўзяла на падазрэньне, некалькі разоў быў зроблены пошук, ламалі дзьверы, мэблю, уздымалі падлогу. 7 лістапада 1943 года ў глыбокай начы на кватэру быў налёт вялікай зграі нямецкай паліцыі. <...> На наша шчасьце, у гэтую ноч у нас ніхто з чужых не начаваў, а так вынішчылі б усю сямью”.

А затым — у 1944-м — з сотнямі іншых мінчукоў пакінуў горад. Уначы, зімой, у трыццаціградусны мароз... Некалькі тыдняў жылі ў Баранавічах у цесным пакойчыку свайго сябра.

Дарогу на эміграцыю ад самага пачатку пакрывалі церні. У Гдыні сям'я пісьменніка Цэлеша апынулася ў лагеры. “Кармілі, — як пазней згадваў М.Цэлеш, — чарвямі і за ўсякую спробу купіць што-небудзь, хоць бы шклянку малака для малой, праз ахову, у якой былі і польскія людзі, жорстка каралі і бралі на прымету”.

Восенню 1944 года М. Цэлеша, яго жонку і двух сыноў аддалі на працу да багатага баўэра-фашыста В. Клята (пры наступленні Савецкай Арміі сям'я Клятаў была знішчана). Паўтарагадовую дачку мусілі браць у поле — пад дождж ці холад. Клят спрабаваў здзекавацца з сыноў, і аднаго разу М. Цэлеш мусіў заступіцца з віламі ў руках... Наспявала драма, ад якой уратаваў работнік біржы працы, паляк.

Біржу працы (“Arbeitsamt”) М.Цэлеш шукаў ужо ў лютым 1945 года -на заснежанай вершавіне Дуная паміж Зігмарыгэнам і Заўльтау. Шукаў, дарэчы, разам з другім пісьменнікам-выгнанцам Юркам Віцьбічам, які ў парваных чаравіках (вызірвалі голыя пальцы) хлюпаў па заснежанай дарозе першым. І тады, пад артылерыйскую кананаду, думалі пра хуткае заканчэнне вайны і пра тое, што некалі паўстане вольная маці-Беларусь.

“Мы тады звар'яцеем ад радасці!” — летуценіў Ю. Віцьбіч.

“Не, браток, вар'яцець нам ня трэба, — пярэчыў яму М. Цэлеш. — Трэба будзе расказаць пра ўсе нашы пакуты, каб маладыя ведалі і баранілі сваю волю”.

Мары ж не ўрэчаісніваліся...

Часопіс “Сакавік” (N 2) у 1948 годзе надрукаваў гумарыстычнае апавяданне М. Цэлеша “Бязбожнікі”, — пра тое, як “актывісты” Міцька і Пецька напалохалі вясковых жанчын (адзін схаваўся ад дажджу ў труну і заснуў, а потым вылез да зляканых вясковак; збіраўся нават суд, які апраўдаў мужчын).

У 1950-м сям'я Цэлешаў (у Нямеччыне нарадзілася дачка Люцэя) падалася ў ЗША, у Нью-Йорк. І зноў — не пісьменніцкія клопаты, а цяжкая праца, каб здабыць “хлеб надзённы”, праца грузчыкам на лесапільні, дворнікам, санітарам у шпіталі, насільшчыкам у гатэлі, слесарам-машыністам на металічнай фабрыцы (круціў драцяныя канаты для “параплаваў”), плотнікам на будоўлі. Сябраваў з Юркам Віцьбічам, Антонам Адамовічам. На пачатку 50-х знаходзіў час і для апавяданняў, і для гістарычных аповесцяў. У 1953 годзе ў зборніку “Пёстрые рассказы” (“Выдавецтва Чэхава”, Нью-Йорк) было надрукавана ў аўтарскім перакладзе на рускую мову адно з лепшых яго апавяданняў “Янка сеяў — людзі жалі”.

Ні на хвілю не забываўся пра Радзіму. Адзінае злучво з Беларуссю — магчымасць ліставацца з родзічамі, з братам Піліпам, сёстрамі Ганнай і Арынай. У лістах 58-гадовага М. Цэлеша абуджаліся і споведзі, і хістанні-няпэўнасці: “<...> я ня пэўны, як мяне спаткалі-б, каб я пажадаў вярнуцца? Як табе ведама, трыццаць год я адпрацаваў у СССР, пачаўшы шахцёрам, — пісаў М. Цэлеш свайму брату напрыканцы 1958 года. — Ваяваў, вучыўся, стаў членам Саюзу пісьменьнікаў, пісаў і друкаваў кніжкі. Але ўсё-ж я эмігрант (некалькі словаў закрэслены. — **А.П.**). Я ня пэўны, ці маглі-б мяне аднавіць у Саюзе пісьменьнікаў? Ці мог бы я заняцца ранейшай працай? <...> Хоць здароўе маё ня ёсьць благім, але ўсталёўвацца на новым мейсцы для мяне было-б ужо ня лёгка без дапамогі. Тут я маю кватэру з гарачай вадой, з ваннай. Ці далі-б мне там такую кватэру? Для дзяцей, я лічу, ня было-б горш, а значна лепей<...>. Але я ня пэўны, што ім было-б лёгка “акліматызавацца”, калі-б яны патрапілі ў горшыя ўмовы, чым тут. Для гэтага два найважнейшыя пытанні: магчымасьць вольна заняцца сваёй любімай працай і адпаведныя жыльлёвыя ўмовы, паколькі ў вас адчуваецца ў гэтай галіне крызыс”.

Заўважым: найперш М. Цэлеш дамагаўся на Радзіме магчымасці вольна займацца творчасцю. Наіўным чалавекам ён не быў, — разумеў, што ў Савецкім Саюзе свабодна выказваць свае набалелае, запаветнае не зможа... Як не кашчунна ўспрымаць, аднак факт ёсць факт: М. Цэлеш упершыню надрукаваць свае апавяданні, у якіх апісвалася гаротнае жыццё беларускага народа пасля кастрычніцкай рэвалюцыі, змог толькі пад нямецкай акупацыяй. У Менску ў 1943 годзе выйшаў яго зборнік апавяданняў “На крыжы” (падпісаны псеўданімам М. Лясун). “Беларускі народ на працягу свае доўгае гісторыі перажыў многа часоў добрых і цяжкіх. Але найбольш чорнымі будуць тыя балонкі гісторыі Беларусі, на якіх знойдуць сваё адбіццё часы бальшавіцкага панавання і бальшавіцкіх рэформаў у галіне сялянскае гаспадаркі, — так пачыналася выдавецкая прадмова да кнігі “На крыжы”. — Гэтыя жудасныя часы безумоўна знойдуць шырокае адбіццё ў беларускай літаратуры. Калектывізацыя на Беларусі і адпор ёй з боку беларускага сялянства дасць тэму не аднаму беларускаму пісьменьніку. Аб гэтых часох будуць напісаны цэлыя тамы. <...> У зборніку апавяданняў беларускага пісьменніка М. Лясуна Паважаны Чытач таксама знойдзе абразы з гэных жудасных часоў”.

Зборнік 1943 года быў ці не адзіным “грахом” М. Цэлеша перад савецкай уладай. Ці “рассакрэцілі” ў СССР яго аўтара?

(Працяг на стар. 14—15)

слынных асоб у іншых галінах беларускай мастацкай культуры. Напрыклад, 14-га чэрвеня споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння вялікага спевака Міхася Забэйды-Суміцкага, — спевака, якім можна і трэба ганарыцца перад усім светам. Паглядзіце, як адзначана ягонае 100-годдзе ў нашых газетах. Паглядзіце, калі не баіцеся памерці ад ганьбы і сораму за краіну-дзяржаву нашу. Я чакаў, што будзе вялікі ўрачысты вечар у Оперным — на самым высокім узроўні, з запрашэннем замежных гасцей, вядомых дзеячаў культуры. Абавязкова так і не інакш адзначылі б 100-гадовы юбілей такога спевака ў любой цывілізаванай, культурнай краіне. У любой — але не ў Беларусі. А чаму? Чаму і яшчэ раз — чаму? Дзе ж прычына? Што ці хто нам перашкаджае?

А ўсё тое ж самае. Па-першае, страх мінулых гадоў — як бы не перадаць пахвалы "нацыяналізму", гэта небяспечна. Па-другое, наша ганебная несусветная абыякавасць да лёсу роднага Слова, роднай Культуры, роднай Беларусі. Кажу: наша, бо — а чыя ж яшчэ?

## Пра жыццё, пра "верую" і пра гвалт над музай

Забаўна чытаць, як некаторыя з пісьменнікаў, якія да 1991 года былі вядомыя ў якасці вельмі лаяльных (і больш таго!) савецкіх літаратараў, сёння адхрышчваюцца ад сваіх камсамольска-партыйна-камуністычных грахоў. Спасылаюцца пры гэтым на факт сваёй біяграфіі, а пра факты творчыя — маўчаць, як быццам іх і не было. Так і заяўляе іншы "адхрышчэнец" з газетнай паласы ці з радыёхвалі: "А я ў Камуністычнай партыі не быў і ўступаць не збіраўся. Таму што ў яе вучэнне не веру, яе ідэалогію і палітыку не прымаў. Я разумеў, што камуністычнае "верую" мне чужое". Гаворыцца гэта, вядома ж, з не надта прыхаванай пагардай да тых няшчасных недарэкаў, якія ў радах камуністычнай партыі былі, бо "хацелі з гэтага мець карысць, атрымліваць, дзякуючы партыйнасці, пасады, літаратурныя прэміі, узнагароды і іншыя рэгаліі".

Значыць, ужо тады таварыш быў што называецца на вышыні, усё разумеў, усё бачыў і прадбачыў, партыйным білетам манішку не забрудзіў, на рэгаліі і жыццёвыя выгады не спакусіўся (хоць, праўда, прэмій і ўзнагарод з рук таго савецка-камуністычнага рэжыму набраў ніштавата, ды і выгадамі акуратненька карыстаўся. Яшчэ як!) Ну што ж! Не быў — дык не быў, не забрудзіў — дык не забрудзіў. Малайчына! Даў Бог разуму і празарлівасці, не дапусціў да такой страшнай ганьбы — апынуцца ў "радах", як многія іншыя дробныя, бяздарныя "літкар'ерысты". Як, скажам, Назым Хікмет, Ніколас Гільен, Пабла Няруда, Луі Арагон, Іаганес Бехер, Рафаэль Альберці, Яніс Рыцас, Вітэзслаў Незвал, Нікола Вапцараў, як Аляксандр Твардоўскі, Вольга Бергольц, Аркадзь Куляшоў, Максім Танк, Пімен Панчанка, Аляксей Пысін, як Андрэй Малышка, Максім Рыльскі, Дзмітро Паўлычка, Барыс Алейнік, Іван Драч, як Эдуардас Межалайціс, Юстынас Марцінкявічус, Сільва Капуцікян, Зульфія — і яшчэ, і яшчэ, і яшчэ сотні і тысячы неразумных, нямудрых паэтаў-недарэкаў (называю толькі паэтаў). Малайчына, чысты і бязгрэшны! Малайчына! Пашанцавала ж — так засцерагчыся ад ганебнага кроку!..

Толькі вось адно пытаннечка хочацца задаць бязгрэшнаму: як жа гэта пры такой пагардзе да камуністычнага "верую" здолеў ты, таварышок, прысвяціць столькі ўзнёслых, хвалебных вершаў — і непасрэдна партыі, і Леніну, і Камуністычнаму Саюзу моладзі, і нават юным ленінцам піянерам? Як жа змог ты гэта напісаць, калі ўсё бачыў, усё разумеў, усё ведаў, і ні ў камунізм, ні ў Леніна не верыў? Напрыклад, я, грэшны, таксама маю вершы і пра партыю, і пра Леніна, і пра мары аб камуністычнай будучыні. Дык жа я і ў Леніна і ў прыгожыя камуністычныя ідэалы моцна верыў. Так — як набожны ў запаведзі Хрыста. Я пісаў з усёй шчырасцю, разладу з сумленнем у маёй музы не было. Ну лічыце, вы, што ўжо і тады былі вельмі разумныя, усё бачылі і ведалі, — лічыце, што я быў наіўны, празмерна даверлівы, недасведчаны, непразарлівы... Можа быць і так. Можа. Жыццё — штука складаная, і прыйсці да свайго ідэйнага "верую" часам нялёгка. Асабліва, калі ты не палітык, а паэт. Што ж! Радавацца, што быў недасведчаны і занадта даверлівы, не магу, але... Але хачу яшчэ раз падкрэсліць: калі я пісаў тыя камуністычныя вершы, я шчыра выказваў тое, што было ў душы, чым жыў і ў што верыў, ні сабе, ні людзям я не хлусіў, не крывадушнічаў. А ты, таварышок? А ты, аказваецца, **гэтым** не жыў, **у гэта** не верыў, не прызнаваў, нават пагарджаў — і, аднак жа, увесь час узвелічаў і славіў **гэта** ў сваіх вершах, прысвячаў усяму **гэтаму** мадрыгалы? Я ж быў упэўнены, што ў цябе гэтая паэзія — таксама ад душы і сэрца, ад усёй чалавечай шчырасці. Аж аказваецца, ты сваю музу гвалтаваў, мучыў, прымушаў хлусіць?!.

А братка ты мой, як я ёй спачуваю! Гэта ж трэба!..

---

завершанымі і дасканалымі, пра што сведчаць ягоныя шматлікія "бязлітасныя" праўкі нават і ў аўтарскім асобніку "Дзесяці апавяданьняў"). У большасці тэкстаў гэтай кнігі ("Пад знакам Задзіяка", "Помста", "Мера гвалту" і іншых) непахісна і непрымірыма апісваліся гады бальшавіцкіх здзекаў з беларускіх сялян у часы сталінскай калектывізацыі.

Аўтарскія пераклады апавяданняў М. Цэлеша пачынаюць друкавацца рускія эміграцкія выданні. Так, апавяданне "Пёрка й іншыя" пад назвай "Как жить?" змясціла "Новое русское слово" (1966, 9, 10, 11 сакавіка) — побач з урыўкам з рамана У. Маканіна "Прямая линия". Па-руску былі апублікаваны і апавяданні (такога ж антыталітарнага зместу) "Пракрустаў ложак" і "У імя догмы".

І — зноў расчараванні, апатыя, песімізм. 20 лістапада 1967 года М. Цэлеш у лісце прызнаваўся Ю. Віцьбічу: "Не пішу цяпер нічога, хаця задумана й нават пачата досыць шмат; не спадзяюся скончыць — пісаць няма ніякай ахвоты, калі падумаеш, што ўсё гэта да нічога й да нікога; ня толькі сярод нас, беларускіх эмігрантаў, пануе цяпер апатыя да творчасьці ва ўсіх галінах чалавечага духу, але і ўва ўсіх і ўсюды — сьвет імчыцца поўным тэмпам да катастрофы, бо "не адзіным хлебам жыве чалавек" і не адзінымі ракетамі можна змагацца із злом, напроціў — ракеты павялічваюць зло!.."

Падчас прыезду на сесію Генеральнай Асамблеі ААН з М. Цэлешам сустракаўся М. Танк. Народнаму паэту, галоўнаму рэдактару часопіса "Полымя" пісьменнік-эмігрант перадаў некалькі сваіх апавяданняў — для публікацыі ў Савецкай Беларусі (праз некаторы час іх і надрукавала "Полымя", адно замест прозвішча аўтара стаяў псеўданім — Мікалас Пралескас).

Яшчэ праз некаторы час на імя М. Танка прыйшоў ліст, у якім М. Цэлеш выкладаў умовы, паводле якіх ён згадзіўся б вярнуцца на Бацькаўшчыну. У эміграцкім асяродку ЗША стасункі М. Цэлеша з М. Танкам і савецкімі ўладамі абраслі чуткамі, ставіцца да пісьменніка пачалі насцярожана. Хоць, як потым згадваў Б. Сачанка, які тады працаваў у "Полымі" і чытаў той ліст да М. Танка, М. Цэлеш патрабаваў "змены таталітарнага рэжыму, надання Беларусі сапраўднага суверэнітэту і незалежнасці ад Масквы"...

Але самае страшнае — яго пакідалі сілы. І ўпэўненасць. Напрыканцы 1975 года, хворы і стомлены, М. Цэлеш, думаецца, усё ж сабраўся ехаць на Бацькаўшчыну, ехаць паміраць... 10 снежня ён пісаў Вітаўту Тумашу: "Рыхтую Вам перасылку зборніка апавяданьняў — выбраных, папоўненых новымі, дапрацаваных. З маімі слабымі сіламі — гэта нялёгкая праца. У канцы гэтага месяца думаю Вам пераслаць. У далейшым, калі-б із мной што-кольвек здарылася дрэннае, трэба зьвяртацца да дачкі Карал..." (Хмары над Бацькаўшчынай. — С. XXIX).

*"Калі-б... што-кольвек здарылася дрэннае..."*
*Як прадчуваў, як прарочыў...*

А на працоўным стале заставаліся матэрыялы і накіды аповесці пра Вялікае княства Літоўскае "Карона і здрада", рукапісы біяграфічнай аповесці, пачатай яшчэ ў 1950-м, "Смага пустыні" (пра перажытае падчас паяздкі), першы варыянт аповесці "Без шацунку на шчасьце", няскончаная аўтабіяграфічная аповесць "Нашчадкі" (пра сваё маленства і юнацтва), у нататніку з'яўляліся новыя спавядальныя запісы:

***"Мы ня хочам, каб нас вынішчалі.***
***Каб зьдзекаваліся з нашай мовы.***
***Каб калечылі нашых дзяцей у школах.***

Тое, што кажуць там нашы людзі, ня мае ніякой каштоўнасьці, бо робяць гэта пад палкай.

Мы хочам быць роўнымі сярод роўных, у саюзе з усімі й гаспадарамі ў сябе дома"; "У жыцьці столькі плюгацтва, здрады й халуйства, што для душы добрага й шчырага нічога іншага не застаецца, як толькі пакутваць, гніць і гінуць!";

"Мастацтва абараняе чалавека перад праклёнам самотнасьці — толькі адно яно";

"У сьвеце антаганізмаў нельга быць без айчызны";

"Загналі мяне ў асабістае падполье! Магу толькі сам з сабой шчыра размаўляць. Трэба навучыцца мець два твары. Але ці змагу я?"

...Мікола Цэлеш напрыканцы 1975 года выйшаў з дому і знік. І прыйшоў на Бацькаўшчыну толькі праз два дзесяцігоддзі — у сваіх творах, у памяці...

**Алесь ПАШКЕВІЧ**

---

Адгалоскі

# З людзьмі і для людзей

Громам сярод яснага неба вынікла для мяне паведамленне аб заўчаснай смерці выкладчыка роднай мовы і літаратуры, дырэктара Ведрыцкай сярэдняй школы Рэчыцкага раёна, сябра Саюза пісьменнікаў СССР, паэта Уладзіміра Міхайлавіча Верамейчыка. Факт — упартая рэч. Але розум адмаўляецца верыць, што ўжо няма на гэтым свеце майго дарагога, паважанага сябра, чалавека, які шчыра і сардэчна пісаў: "А цябе абдымаю тры разы па-хрысціянску".

Шмат было задумак у паэта. "Я 8-ы месяц на пенсіі і працую на старой пасадзе. Як чалавек паэтычны, буду дабіваць 20-ы век на гэтай пасадзе, бо хачу напісаць паэму "Развітанне з ХХ векам". У "Настаўніцкай газеце" прачытаў пра мару напісаць кнігу пра гарапашны, гарамычны лёс дырэктараў школ. Па тэлефоне паведаміў аб вялікім жаданні напісаць верш пра твайго Васільца".

А справа надарылася такая. У пачатку верасня леташняга года патэлефанаваў Уладзіміру Верамейчыку дамоў. Там мне паведамілі, што гаспадар знаходзіцца на лячэнні ў Мазыры. Устанавіў каардынаты яго тамашняга знаходжання. Па стане свайго цяперашняга здароўя не мог наведаць шаноўнага сябра, каб падтрымаць яго маральна. Паступіў так. пазваніў у Мазыр Рыгору Купрэевічу Васільцу, свайму даўняму і надзейнаму сябру, які да выхаду на пенсію працаваў генеральным дырэктарам Мазырскага мэблевага вытворчага аб'яднання. Шчыра папрасіў яго наведаць Верамейчыка ў бальніцы. Што ён адразу і ахвотна зрабіў. Вярнуўся адтуль і неадкладна патэлефанаваў мне дамоў, як было папярэдне дамоўлена, абмаляваў абстаноўку, заключыў: "Цікавы чалавек твой Верамейчык, з задавальненнем доўга гутарыў з ім. З такім чалавекам не хочацца развітвацца".

Праз дзе-які час атрымаў ліст ад Верамейчыка непасрэдна з мазырскай бальніцы: "Васілец мяне знайшоў. Мы панаёміліся. Дзякуй за добрага чалавека! Васільцу скажаў: калі акрыяю, то прыеду на дні 2-3 к табе. Дай Бог таму здзейсніцца". Пісьмо датавана 15.09.99 г. Такое паведамленне і жаданне мяне вельмі ўзрадавалі. Неадкладна пра гэта сказаў па тэлефоне, чым, мушу думаць, падтрымаў паэта.

Прайшоў пэўны час. І зноў у маіх руках ліст ад 15.XI.99 г. Чытаю: "Жыву як Някрасаў: пішу свае вершы, замалёўкі і г.д. Прыехаць да цябе асалода, але не той час". Нешта мутарна-трывожна стала на душы. Чаму ён так напісаў? Праўда, па тэлефоне ў час нашай размовы нельга было меркаваць аб ягоным ненадзейным фізічным стане. Ва ўсякім выпадку Уладзімір Верамейчык не ныў, не падаў у роспач, а аптымістычна дзяліўся сваімі мастацка-творчымі планамі.

І вось апошняя дэкада апошняга месяца леташняга года прынесла горкую вестку: перастала біцца сэрца адмысловага выкладчыка роднай мовы і літаратуры, шматгадовага кіраўніка Ведрыцкай сярэдняй школы, выдатнага паэта і публіцыста У. Верамейчыка.

Успамінаю, як пасябраваў з ім. Чытаў зацікаўлена і імпэтна Верамейчыкавы паэтычныя і публіцыстычныя творы. Падабаліся яны глыбінёй думкі і сакавітасцю беларускай мовы. Вельмі абрадаваўся, калі на вочы трапіў верш "Паездка ў Тураў да настаўніка беларускай мовы Фёдара Міхайлавіча Саўка" і нарыс у "Гомельскай праўдзе" пра заслужанага ўрача БССР Аляксея Мікалаевіча Сівуху. Іх абодвух я добра ведаў. Першы прымаў у мяне ў 1954 годзе выпускны экзамен па беларускай мове і літаратуры за курс сярэдняй школы і пазней стаў маім калегам — завучам, другі даваў кваліфікаваныя парады, каб захаваць добры стан здароўя. Ад гэтых знаёмых я і даведаўся пра Верамейчыка як чалавека, педагога і паэта. Іхняя ацэнка выклікала моцнае жаданне сустрэцца, пазнаёміцца і (калі атрымаецца) пасябраваць.

У Светлагорску на абласной нарадзе дырэктараў школ ледзь-ледзь было не сутыкнуліся. Пасля перапынку ў зале ля мяне аказаўся вольны стул. Нарада пачалася — доўжылася, калі адчыніліся дзверы і ў залу ціха і, здавалася, непрыкметна ўвайшоў мажны мужчына. Пашукаў вачыма і накіраваўся да мяне, спытаў, ці не занята, і сеў. Нехта ззаду ціха прашаптаў — незласліва пакпіў: "Верамейчык вечна спазняецца". Незнаёмец абярнуўся, з усмешкай памахаў кулаком. Нарада закончылася, і мы, як гэта бывае ў такіх выпадках, паспешліва разышліся. Не наканавана было тады пазнаёміцца.

Вясной 1987 года лёс сутыкнуў зноў. Трапіў я на двухмесячныя курсы дырэктараў сярэдніх школ рэспублікі. Так я і пазнаёміўся са знакамітым паэтам. Наша знаёмства перарасло ў моцную дружбу, што мяне радавала і акрыляла...

Неяк праводзілі мы на пенсію тэхнічку Вольгу Кузьмінічну Мурашку, якая амаль усё сваё свядомае жыццё аддала школе. Папрасіў Верамейчыка напісаць з гэтай нагоды верш. "Сацыяльны заказ" выканаў у час. Спецыяльна прыязджаў у Пагоскую сярэднюю школу, каб пазнаёміцца са зместам паэтычнага твора і атрымаць нашу згоду на абнародаванне. Мы аднагалосна ўхвалілі верш. Праз некаторы час на вечары "Паэзіі цудоўныя радкі", наладжаным Пагоскай сельскай бібліятэкай у гонар творчасці У. Верамейчыка, паэт узнёсла і душэўна прачытаў той верш і тут жа ўручыў гераіні. Вяскоўцы і цяпер з прыемнасцю ўспамінаюць незабыўны творчы вечар...

У нашай сямейнай бібліятэцы беражліва захоўваецца шэраг кніг У. Верамейчыка з даравальнымі надпісамі. Кніга "Клянуся Прыпяццю" мае такі тэкст: "Дарагому Васілю Нічыпаравічу Маркевічу, майму слаўнаму сябру, слаўнаму аратаму на ніве педагагічнай асветы, чалавеку з прыпяцкіх краёў". Гэта надарылася 14.10,88 г. А праз дзесяць гадоў атрымаў бандэроль, дзе аказалася кніга вершаў і паэма "Ліхаўня". І подпіс: "Майму намесніку ў тураўска-прыпяцкай зоне па мове і настрої, з пажаданнямі шчасця і радасці. Аўтар".

Вельмі шкадую, што не стала ў жыцці такога цудоўнага чалавека, педагога, дырэктара, паэта, чалавека, які лічыў сябе перш-наперш настаўнікам і толькі потым мастацка-творчым працаўніком. Таму, нягледзячы на прапановы, не памяняў вёску на сталіцу. І засталася пасля яго памяць. Ягоныя кнігі. І новы будынак школы, як напамін пра Настаўніка, які і жыў з людзьмі і тварыў для людзей.

**Васіль МАРКЕВІЧ,**
**настаўнік-пенсіянер**

# Мастакі ўшаноўваюць Рушчыца

Сёлета Фердынанду Рушчыцу — мастаку, якога лічаць сваім тры народы — беларусы, палякі, летувісы, спаўняецца 130 гадоў.

Нарадзіўся слынны творца 10 снежня 1870 года, таму на гэты час і прымеркаваны галоўныя ўрачыстасці.

Але ўжо зараз у гонар Фердынанда Рушчыца прайшлі два мастацкія пленэры. Першы на пачатку жніўня ладзілі Беларускі саюз мастакоў і творчая суполка "Пагоня", што ўваходзіць у БСМ у якасці структурнай адзінкі. Сярод удзельнікаў у асноўным сябры "Пагоні" (В. Маркавец, А. Пушкін, А. Марачкін, Ю. Хілько ды іншыя), але ёсць і тыя, хто ў суполку не ўваходзіць (В. Шарангові). Пленэр доўжыўся дзесяць дзён і скончыўся выставай удзельнікаў у Гальшанах. Мяркуецца, што ў дзень нараджэння Рушчыца гэтую выставу пабачаць і мінчукі.

Арганізатарамі другога пленэру, які мае паэтычную назву "Неба і зямля Фердынанда", былі грамадская арганізацыя "Беларуская акадэмія выяўленчага мастацтва" і Польскі інстытут у Мінску. Гэты пленэр — міжнародны. У ім бралі ўдзел і грамадзяне Польшчы. У складзе арганізацыйнай рады пленэру Эдвард Рушчыц, сын Фердынанда Рушчыца, выдавец дзённікаў бацькі. Усе мастакі, хіба за выключэннем удзельнікаў з польскага боку, добра вядомыя майстры мастацтва — А. Бараноўскі, Г. Вашчанка, Л. Шчамялёў, У. Зінкевіч, іншыя сябры названай акадэміі. Доўжыўся пленэр з 2 па 12 верасня. Працавалі мастакі, як і іх папярэднікі з суполкі "Пагоня", у родных мясцінах, звязаных з Фердынандам Рушчыцам. Частку твораў перадалі мясцовым уладам як знак удзячнасці за арганізацыю пленэру.

Сваю выставу ў Мінску акадэмікі плануюць адкрыць 10 красавіка 2001 года.

**П. В.**

---

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае спачуванне паэту Яўгену МІКЛАШЭЎСКАМУ ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю маці.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае спачуванне паэтэсе МЕЛЬЧАНЦЫ Таісе Васільеўне з прычыны напаткаўшага яе гора — смерці брата.**

